

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 САКАВІКА 1999г. № 9/3989 КОШТ 12 000 РУБ.







*Нарадзіўшыся вясной, Еўдакія ЛОСЬ назаўсёды засталася... у вясне. Яе жыццёвы шлях абарваўся ў саракавасьмігадовым узросце. У гэтыя дні Еўдакія Якаўлеўна адзначала б толькі сваё 70-годдзе...*

Чытайце стар. 12.



# КОЛА ДЗЁН

***Сёняшні час, яго штодзённыя калізіі і варункі выклікаюць у памяці шматлікія літаратурныя рэмінісцэнцыі. Кшталту: "гляджу — ці не болей тут стала паноў", "як я толькі нарадзіўся, бацька сказаў: "Кепска будзе!", "я хлеба ў багатых прасіў і маліў, яны ж мне каменне давалі", "ці ты ўзыдзеш, ясная заранічка", "Народ, Беларускі Народ! Ты цёмны й сляпы, быццам крот!", "купіць зямлі, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выбавіцца пут", "збрыдзіўся свет, збрыдзіліся людзі", "чаго вам хочацца, панове, які вас вымусіў прымус забіць трывогу аб той мове, якой азваўся беларус?", "і гінем марна пад чужой апекай, адбіўшыся ад родных вехаў, меж", "быў час, быў век, была эпоха, ...калі ў сталіцы беларускай культурнасыты мешчанін лічыў грамадскаю нагрузкай "язык тутэйшы" прышчаміць"... Згадкі гэтыя можна доўжыць бясконца, ды ад таго будзе ўсё больш сумна, горка, безнадзейна...***

### НЕЎРАЗУМЕННІ ТЫДНЯ

Літр алею каштуе даражэй, чым кілаграм сметанковага масла... Пластыкавая бутэлька мінеральнай вады — даражэй, чым тры літры малака... Кілаграм не лепшай рыбы — даражэй, чым кілаграм добрай ялавічыны... Кілаграм цукру каштуе ўсяго ў два-тры разы даражэй за кілаграм бульбы... Маргарын каштуе столькі ж, колькі сметанковае масла... Літр бензіну — у пяць-сем разоў даражэй за літр малака... Простаму, як казалі раней, чалавеку зразумець усё гэта амаль немагчыма. А ён жа сутыкаецца з гэтым штодзённа і паўсюль. Хто яму дапаможа, хто растлумачыць, хто скажа яму праўду ўрэшце?

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Даўно заўважана, што ў крызісныя часы спажыванне хлеба насельніцтвам рэзка ўзрастае. Адбываецца гэта таму, што гэтак жа рэзка змяншаецца спажыванне іншых прадуктаў харчавання — мяса, рыбы, масла, яек і г.д. Галоўнай ежай бедных акурат і застаецца хлеб. Ды яшчэ, бадай, малако. Дагэтуль цэны на хлеб і батоны раслі памалу. Цяпер жа яны падскочылі адразу на 10—20 працэнтаў. І ўсё адно гэта не кампенсуе затрат на яго выпечку. Штодзённа дзяржава губляе на выпечцы адной тоны хлеба 1,5 мільёна рублёў, адной тоны батонаў — 3 мільёны. Спецыялісты хлебапякарнай прамысловасці настойваюць на ўстанаўленні свабоднай цаны на хлеб. Маўляў, толькі такая палітыка ўратуе прадпрыемствы галіны. Яно, мусіць, сапраўды так. Але што ж ці хто ўратуе тады мільёны нашых людзей, якія і сёння ўжо жадны скарынцы хлеба?

### ЦЫНІЗМ ТЫДНЯ

Тое, што нашы афіцыйныя выданні амаль не публікуюць матэрыялаў на беларускай мове (хоць і пазначаюць, што выходзяць на дзвюх мовах), не навіна. Часта здараецца гэтак, што ў нумары па-беларуску надрукаваны толькі назва газеты ды подпіс галоўнага рэдактара. Здзек, вядома, ды мы, беларусы, прызвычаены. Каб хоць большага здзеку не было, — уздыхаем пакорліва. Дык жа ёсць, браточкі, і большы здзек. Скажам, "нацыянальнае грамадска-палітычнае і парламенцкае выданне", якое носіць гордае імя "Народнай газеты", публікуе матэрыял "Мелодия венского вальса, или О простых людях, умеющих протянуть руку помощи даже врагу" спадарыні Сяліцкай. Аўтарка зрабіла ласку і працытавала гераіню свайго аповеду... у арыгінале, па-беларуску. Як прадстаўніцу тубыльцаў. Тутэйшых...

### СУІЦЫД ТЫДНЯ

Як паведамляе друк, у Магілёве наклалі на сябе рукі двое пенсіянераў — муж і жонка. Нябожчыкі пакінулі запіску, у якой вытлумачылі сваё рашэнне тым, што жыццё надта дарагое, а ў іх няма грошай на лекі, а быць цяжарам для дзяцей яны не хочуць. Жахлівае здарэнне! Аднак жа, як ні горка пра гэта гаварыць, у нечым і вытлумачальнае. Восьхоць бы тыя ж лекі. Сёння яны, найперш для сардэчнікаў, невымерна дарагія. Сорак таблетак абсідану каштуе 1,5 мільёна, а 60 таблетак кардэрону — 4,5 мільёна рублёў...

### ЗНЯВОЛЕННЕ ТЫДНЯ

БелаПАН паведаміў такую навіну. Магілёўскі абласны суд асудзіў 33-гадовага жыхара горада да пажыццёвага зняволення — у верасні мінулага года ён забіў сваю знаёмую, у якой пазычыў 200 долараў ЗША і не захацеў іх аддаваць. Гэта першы ў нашай краіне выпадак вынясення такога прысуду — замест смяротнай кары.

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Калісьці саветнік па пытаннях культуры Пасольства Францыі ў Беларусі граф Аляксандр Талстой у інтэрв'ю журналісту "Комсомольской правды" заявіў: "Беларусы адносяцца да групы экзатычных нацый, у якіх паслаблена воля да стварэння ўласнай дзяржаўнасці..." Слушнае, хоць і крыўднае меркаванне. Яго нагадала ў газеце "Навіны" С. Александровіч у інтэрв'ю з дырэктарам мінскай агульнаадукацыйнай школы N 2, віцэ-прэзідэнтам Рэспубліканскага таварыства беларускай школы Г. Сядзякам. Інтэрв'ю і змешчана пад назваю "Экзатычная нацыя". Ці доўга мы будзем насіць гэтую зусім не "прыўкрасную" для нас назву?

### ПАКАЗЧЫК ТЫДНЯ

Энерганагляд падсумаваў, што летась грамадзяне, прадпрыемствы і арганізацыі ўкралі ў дзяржавы больш як 130 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. Само сабою, лічба рэальнага крадзяжу значна большая, бо ўсіх злодзеяў злавіць немагчыма. А сведчыць і гэты крадзеж, як і ўсе іншыя, аб тым, што жывём мы ў жабрачай краіне, у якой усё больш грамадзян, прадпрыемстваў і арганізацый не маюць сродкаў сумленна аплачваць свае рахункі...

### УГОДКІ ТЫДНЯ

46 гадоў назад памёр, не прыходзячы два дні да памяці пасля кровазліцця ў мозг, Іосіф Сталін. Сорак шэсць гадоў — гэта больш за той час, які вадзіў Маісей свой народ, каб ён урэшце забыўся на рабства. Тым не менш, мы не забыліся. Не дзесяткі, не сотні, нават не тысячы, а ці не мільёны чалавек нават і сёння марыць — усё яшчэ марыць! — аб цвёрдай руцэ, аб жалезнай дысцыпліне і цвёрдым парадку, аб сталінскай камуне... Даруй ім, Госпадзе! Мо яны й сапраўды, як Ты сам казаў, не ведаюць, што робяць...

---

СЕМІНАРЫ

## "Хто быў, хто ёсць, хто будзе..."

Заснежаная, апусцелая апошнім часам "Іслач" напоўнілася маладымі галасамі. Намаганнямі Саюза беларускіх пісьменнікаў і двух дзяржаўных камітэтаў — па справах моладзі і друку — творчую моладзь сабралі тут на рэспубліканскі семінар.

Мы паспелі ўжо забыць пра такую раскошу, як творчыя семінары. Апошні адбыўся ў 1990 г. За гэты час вырас падлесак, узмацнела і набралася вопыту сталейшая генерацыя пісьменнікаў. Кіраваць творчымі секцыямі прыехалі Генрых Далідовіч і Леанід Леванович (проза), Пятро Васючэнка (крытыка), Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Каржанеўская, Любоў Турбіна (паэзія). Праграма чатырохдзённага семінара прадугледжвае абмеркаванне дакладаў (іх прачытаюць Л. Канапляннік і В. Акудовіч), удзел у куляшоўскім вечары, сустрэчы з кіраўнікамі літаратурных выданняў і выдавецтваў.

Забяспечваюць належны ўзровень, парадак і ўмовы пражывання супрацоўнікі літфонду на чале з У. Мачульскім, сакратары і кансультанты саюза. З увагай да падзеі паставілася прэса — "Звязда", "Народная газета", "Чырвоная змена", "Советская Белоруссия" і іншыя выданні.

На адкрыцці творчага семінара былі ўручаны дыпломы і грашовыя прэміі пераможцам рэспубліканскага конкурсу, праведзенага саюзам і двума згаданымі дзяржкамітэтамі. Пераможцамі сталі В. Жыбуль і Я. Лайкоў (паэзія), Л. Вашко і В. Лашкевіч (проза), А. Пашкевіч і Н. Кузьміч (крытыка), Андрэй Хадановіч (пераклад).

Намеснік старшыні Дзяржкамдруку С. Нічыпаровіч пажадаў маладым творцам узаемаразумення і патрабавальнасці да сябе, а таксама нагадаў пра немалую дзяржаўную падтрымку ў справе выдання кніжак маладых. В. Сільванюк ад імя кіраўніцтва маладзёжнага камітэта адзначыла: "Пераемнасць традыцый — адна з галоўных задач пісьменніцкіх пакаленняў".

Нямногія памяталі пра тое, што сёлета спаўняецца 25 год аднаму з памятных каралішчавіцкіх семінараў. На ім у якасці вучняў прысутнічалі Ірына Багдановіч, Таіса Бондар, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Любоў Турбіна... і сёняшні старшыня пісьменніцкай суполкі Уладзімір Някляеў. Так што правільна сказаў старшыня камісіі па рабоце з маладымі Генрых Далідовіч: "Хто быў, хто ёсць, хто будзе — усе прайшлі праз семінары".

**Г. З.**

---

КОНКУРСЫ

## Памяці Максіма Багдановіча

У мэтах добраўпарадкавання месца пахавання Максіма Багдановіча Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб'явіла бліц-конкурс на атрыманне заказу на распрацоўку эскізнага архітэктурна-пластычнага рашэння надмагільнага помніка паэту ў г. Ялце.

Перад удзельнікамі конкурсу ставіцца мэта — прапанаваць прынцыповую кампазіцыйную схему эскізнага праекта, які павінен арганічна спалучаць архітэктурную і пластычную часткі надмагільнага помніка.

Для распрацоўкі эскізнага праекта ўдзельнікам бліц-конкурсу прапануецца схема сітуацыі, якая існуе на месцы пахавання М. Багдановіча ў г. Ялце.

Бліц-конкурс праводзіцца з 25.02.1999 па 30.03.1999. У ім могуць прыняць удзел грамадзяне, якія маюць творчую кваліфікацыю (мастакі, архітэктары, дызайнеры і г. д.).

На бліц-конкурс падаюцца наступныя матэрыялы:

1. Генплан у маштабе 1:500 (50х50 см).
2. Перспектыва ці фотамантаж (наклееныя на кардоне 50х50 см).
3. Макет альбо мадэль помніка не больш 30-40 см (гіпс, пластылін, па выбары аўтара).

Тэрмін падачы конкурсных праектаў — 30 сакавіка 1999 г. з 9.00 да 18.00 гадзін па адрасе: г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 47, Музей сучаснага выяўленчага мастацтва.

Для абмеркавання пададзеных на конкурс праектаў прадугледжваецца арганізаваць іх кароткатэрміновую выстаўку.

З аўтарам праекта, які будзе адабраны журы для далейшага праектавання, афармляецца спецыяльны дагавор заказу на працяг творчай работы па стварэнні надмагільнага помніка М. Багдановічу ў г. Ялце.

**Тэл. для даведак: 226-96-59.**

---

ФЕСТЫВАЛІ

## Творчыя берагі... "Берагіні"

Фестываль фальклорнага мастацтва, што праводзіцца ў Акцябрскім раёне Гомельскай вобласці з кастрычніка 1998 года, прайшоў амаль палову свайго шляху. У лютым завяршыліся першыя туры і распачынаецца серыя мікрарэгіянальных аглядаў, мастацкіх імпрэзаў у розных відах і жанрах народнага мастацтва. На падставе вынікаў заключных мікрарэгіянальных святаў вызначацца кандыдаты на ўдзел у заключным туры — Свяце фальклору Акцябршчыны і навакольных раёнаў Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай абласцей.

З найбольш прадстаўнічых мерапрыемстваў папярэдняга этапу стаў конкурс танцавальных пар — выканаўцаў народных побытавых танцаў. У розных узроставых групах спаборнічалі школьнікі трэцяга — дзесятага класаў 13 вясковых і 3-х гарадскіх школ, удзельнікі танцавальнага гуртка Акцябрскага Дома піянераў і навучэнцаў. А гэта больш за адну тысячу чалавек.

Мікрарэгіянальныя конкурсы пройдуць 10—13 сакавіка. На іх рашэннем раённага журы рэкамендавана каля 200 танцавальных пар.

Сярод іншых фестывальных мерапрыемстваў, якія праходзяць у раёне, неабходна адзначыць агляды фальклорных калектываў і выставы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Першыя такія імпрэзы прайшлі ў вёсках Харомцы, Забалацце, Чырвоная Слабада. Акрамя мастацкіх праграм, якія складзеныя на аснове абрадавых пазаабрадавых песень, тых, што выконваюцца "абы-калі", а таксама розных народных танцаў ды прыпевак, было прадстаўлена шмат вырабаў ручной працы. Сярод незвычайнага багацця ўзораў вылучаліся сваёй самабытнасцю і тэхнікай выканання дываны, ручнікі, сурвэткі і іншыя творы знакамітых народных майстроў Акцябршчыны Марыі Каймовіч (в. Забалацце), Ганны Кругловай (в. Харомцы), Анастасіі Самусевай (в. Ляскавічы), Ганны Дробавай (в. Чырвоная Слабада), Валянціны Кандратовіч (в. Парэчча) і іншых.

**Мікалай КОЗЕНКА,**
**мастацкі кіраўнік фестывалю**

---

АНОНС

## Наша "Камедыя"

Чаго сапраўды не хапае ў нашым жыцці, дык гэта добрай, забаўляльнай камедыі. А чым не камічны сюжэт: беларускі мужык дамовіўся з чортам не піць гарэлкі...

8 сакавіка на сцэне цэнтральнага Дома афіцэраў у трохсоты раз будзе пастаўлена славутая "Камедыя" В. Рудава. Малы тэатр пад кіраўніцтвам І. Забары (былы Альтэрнатыўны тэатр) ладзіць сапраўднае свята. Напярэдадні, сёмага сакавіка, адбудзецца творчы капуснік "Аляксей А. Шадзько і К°", а ўжо восьмага — трохсотую "Камедыю" сыграе знакаміты стары састаў: І. Забара (Чорт), А. Шуляк (Мужык), С. Нікіфарава (Жонка), Я. Жураўкін (Жыд). Дарэчы, Я. Жураўкін ужо некалькі гадоў працуе ў тэатры на Вялікай Марской, што ў Севастопалі. Яго ўдзел у спектаклі — падарунак усім аматарам "Камедыі". Несумненна, папулярны беларускі спектакль зноў чакае аншлаг.

**В. Б.**



*На здымку: сцэна са спектакля "Камедыя".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

ВЫСТАВЫ

# Напамін пра Пушкіна

У Нацыянальным мастацкім музеі працуе невялікая выстава, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння А. Пушкіна, якая складаецца з твораў беларускіх і расійскіх мастакоў — Бялыніцкага-Бірулі, Анікейчыка, Фаворскага, Кардоўскага і іншых. Сярод твораў — карціны з відамі Пушкінскіх мясцін, ілюстрацыі да твораў паэта, партрэтная і тэматычная скульптура. Усе творы — з фондаў НММ. На адкрыцці выставы (а было гэта 12 лютага) адбыўся канцэрт. Артысты Таццяна Громава, Таццяна Старчанка, Якаў Гелер і Уладзімір Громаў выканалі рамансы на вершы Пушкіна і музыку пушкінскай пары. Дарэчы, гэтыя артысты не ўпершыню выступаюць на імпрэзах Нацыянальнага мастацкага музея. Выстава (яна мае назву "Его стихов пленительная сладость") сведчыць аб трывалым інтарэсе да асобы і творчасці паэта на працягу не менш як стагоддзя. І яшчэ пра тое, што хоць рускае мастацтва і рускую літаратуру сённяшні беларус часта ведае лепей, чым літаратуру і мастацтва сваёй радзімы — шэдэўраў на пушкінскую тэматыку ў беларускім мастацтве няма. І гэта невыпадкова. Бо, што ні кажы, Пушкін для Беларусі — паэт замежны. І таму "его стихов пленительная сладость" успрымаецца беларускім розумам, але не кранае беларускага сэрца. Дарэчы, у адрозненне ад Міцкевіча. Прытым, што мову, на якой пісаў Адам Міцкевіч, большасць насельніцтва Беларусі ведае значна горш, чым мову ўсходняга суседа.

Для пацвярджэння гэтай тэзы прапаную параўнаць шэраг леташніх выстаў да юбілею Адама Міцкевіча ў НММ, у Музеі сучаснага мастацтва і Музеі гісторыі і культуры Беларусі з той экспазіцыяй, пра якую ідзе гаворка. Гэта таму, што немагчыма любіць па загадзе нават калі аб'ект варты таго і пасвойму сімпатычны.

**П. В.**

# Поспех у Брусэлі

25 лютага ў Доме прэсы прайшла прэс-канферэнцыя з нагоды заканчэння культурнай акцыі "Мастацтва — мост у Еўропу", якую жывапісец Андрэй Смаляк ладзіў у Брусэлі ў канцы мінулага — пачатку гэтага года.

"Мост у Еўропу" — гэта 63 карціны Андрэя Смаляка, якія з 22 па 29 лістапада экспанаваліся ў сценах Еўрапарламента. Выстава мела выключны поспех, таму потым запрасіў яе да сябе Расійскі культурны цэнтр у Брусэлі (з 1 па 29 снежня 1998 г.). З 9 па 29 студзеня выстава гасцявала ў брусельскім Цэнтры Фламандскай культуры (29 работ) і з 7 па 31 студзеня ў галерэі "Fayla" (35 работ). 7 лютага ў рамках "Дзён беларускай культуры" 40 карцін Андрэя Смаляка экспанаваліся ў канцэртнай зале "Elisabethzaal".

Галоўны сэнс падзеі ў тым, што ў сценах Еўрапарламента беларускае мастацтва экспанавалася ўпершыню. А пропускам у гэтую прэстыжную выставачную залу з'яўляецца высокая якасць твораў. У сябе дома мастак можа мець усе магчымыя і немагчымыя ўзнагароды, ганаровыя званні — а ў Еўрапарламент з выставай яго ніхто не запросіць. Бо не адпавядае...

Творчасць Андрэя Смаляка Еўропе, еўрапейскім стандартам мастацтва адпавядае цалкам. У Брусэлі ён быў узнагароджаны дыпломам Еўрапейскай Акадэміі мастацтваў і сярэбраным медалём за ўнёсак у еўрапейскае мастацтва, наладзіў кантакты з шэрагам прэстыжных галерэй, атрымаў ганаровы заказ — напісанне партрэта прынцэсы Бельгіі.





Гэты поспех перакрэслівае вядомы тэзіс, які вельмі любяць беларускія чыноўнікі, маўляў, "мы ў Еўропе нікому непатрэбныя". Патрэбныя — калі маем талент, годнасць і ведаем сабе цану.

Відаць, еўрапейскі поспех Андрэя Смаляка прымусіць мастацтвазнаўцаў звярнуць на яго больш пільную ўвагу, чым было дагэтуль. Андрэй здолеў зрабіць тое, пра што іншыя толькі мараць. Але перш чым здзіўляць Еўропу, ён сцвердзіў сябе на радзіме, у Беларусі. Гэта акалічнасць дае яму маральнае права прадстаўляць Беларусь за мяжою.

**П. В.**

*На здымках У. САПАГОВА: Андрэй СМАЛЯК і ягоная жонка і менеджэр Вольга на прэс-канферэнцыі ў Доме прэсы; партрэт Вольгі.*

УГОДКІ

# Была не шэраговай

Група пісьменнікаў разам з сёстрамі Еўдакіі Лось наведалі яе магілку. 22 гады няма з намі паэткі, якая была зусім не шэраговай фігурай як у тадышнім літарацкім асяроддзі, так і ў паэзіі.

Мы папрасілі намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў Навума Гальпяровіча — таксама ўраджэнца Віцебшчыны — сказаць колькі слоў пра Еўдакію Якаўлеўну.

— Імя Еўдакіі Лось памятаюць беларускія літаратары, і з гадамі яе паэзія — як і ўсё сапраўднае — не губляе значнасці. Пісьменніцкая суполка надае вялікую ўвагу святкаванню юбілейнай даты паэтэсы. Напрыканцы сакавіка ў абласной бібліятэцы імя Пушкіна адбудзецца літаратурная вечарына ў гонар яе памяці. Адзначаць падзею і ва Ушачах, на радзіме. Зямляк Е. Лось Сяргей Законнікаў, калі мы ўскладалі кветкі на дагледжаную магілу, згадаў асабістыя сустрэчы са знакамітай пісьменніцай, адзначыў яе шчырасць і працавітасць, дабрыню і жыццёвую трываласць.

Летась у залатой серыі выйшаў паэтычны зборнік Еўдакіі Лось. На жаль, кніга ўспамінаў пра яе ляжыць у выдавецтве пакуль што без руху.

**Г. К.**

ІМПРЭЗЫ

# На восьмы дзень паўстаў тэатр

Тэатр, прадстаўлены па відэа? Не на фестывалі, не падчас лекцыі, не ва ўжытковым, мовім так, варыянце (у якасці падмацавання думкі або доказу). Нязвыкла? Балазе, гэта не значыць — не прымальна.

Відэапрадстаўленне легендарнага познаньскага "Тэатра восьмага дня" арганізавалі Беларускі гуманітарны фонд "Наша Ніва", Польскі інстытут у Мінску і Беларускі калегіум.

З падрабязнасцяў тэатральнага жыццяпісу ўразіла наступная: не маючы магчымасці сустракацца з гледачамі ў месцах тэатральна вызначаных(з 1984 польскі ўрад забараніў даваць спектаклі), Тэатр восьмага дня пільнаваў сваіх гледачоў па касцёлах ды кляштарах (альбо гледачы яго там пільнавалі). У 1998, паводле вядомага рэжысёра ды акцёра з Любліна, ксяндзы не ўхвалялі (сціпла кажучы) наведванне тэатра падчас Велікоднага ды Калядных тыдняў...

Тэатр восьмага дня з'явіўся і абвясціў пра сябе ў 1964. Чаму — восьмага дня? А таму што Бог стварыў Свет за сем дзён, а на восьмы паўстаў тэатр, — паводле тлумачэння стваральнікаў. Яшчэ тады, у шасцідзесятыя, васьмідзёнцы адмовіліся ад традыцыйнае сцэны, эксперыментуючы з гравой пляцоўкай. Прынцып, ідэя або лозунг "татальнага тэатра" захапіў маладых пазнанцаў: "Гэта не было размовао аб свабодзе, аб праўдзе. Гэта было перажыванне яе. Пачуццямі, нервамі, розумам. Татальны тэатр супраць таталітарнага свету" (Збігнеў Глюза, гісторык тэатра).

У пачатку сямідзесятых Тэатр восьмага дня даў пачатак так званаму мяцежнаму тэатральнаму руху ў Польшчы, трактуючы сваю пазіцыю як слугаванне "не толькі эстэтычным, але і сацыяльным ідэалам, як актыўнае ўмяшанне ў сучаснае грамадскае жыццё". Натуральна, цяпер мы маглі б разважаць пра ягоную спалітызаванасць, але польская крытыкі мяркуюць, што тэатр не дапускаў "вульгарнай палітычнай крытыкі праз... відовішча". І тым не менш яму даваліся існаваць на эміграцыі — у вандроўках па Заходняй Еўропе...

Гэты тэатр — надзвычай вядомы ў Польшчы. Пэўна, не адно сваім гераічным мінулым, бо сённяшняга гледача перад усімі вартасцямі вабіць мастацкія. І калі арганізатары відэапрадстаўлення разам з Тэатрам восьмага дня маюць надзею на спатканне, шчыра далучаюся да іх са сваёй надзеяй на праўдзівы тэатр.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## Мастак — аўтар рамана

Сымон Свістуновіч вядомы ў рэспубліцы як адзін з адмысловых мастакоў-габеленшчыкаў. Апрача таго, ён не без поспеху займаецца журналістыкай і літаратураю. У Маскве толькі што выйшла першая з трох задуманых ім кніг рамана "Апалае лісце", пачатак якога друкаваўся ў газеце "Звязда" паўтара года назад. У аснове раманаўтопіі — трагікамічнае жыццё неіснуючай краіны, у якой шмат абсурдных падзей і герояў, з якіх пацяшаецца цывілізаваны свет...

Запланаваны дзве прэм'еры кнігі аўтара з Баранавічаў — у Брэсце і Мінску.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬ...*

## Сустрэчы са школьнікамі

Народная артыстка Беларусі, актрыса Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Ніна Аляксееўна Карнеева шэфствуе над дзіцячым аддзелам абласной універсальнай бібліятэкі. Яна часта выступае перад юнымі чытачамі, прывівае ім любоў да мастацтва. Днямі адбылася новая сустрэча вядомай артысткі з хлопчыкамі і дзяўчынкамі на тэму "Пушкін у маім жыцці". Ніна Аляксееўна прачытала творы вялікага паэта. Чыталі яго вершы і школьнікі.

## Вечары на Замкавай працягваюцца

Сярод сустрэчы, які арганізуе літаратурна-мастацкі салон "Вечары на Замкавай" (што пры Гомельскай гарадской бібліятэцы імя Герцэна), адметныя тыя, на якіх аматары паэзіі знаёмяцца з яе нетрадыцыйнымі формамі. Днямі адбыўся творчы вечар паэтэсы Ларысы Рамановай, якая працуе навуковым супрацоўнікам Веткаўскага музея народнай творчасці. З яе вершамі чытачы знаёмы па зборніку "Адам асалоду Богу", які выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Таксама Раманава вядома па публікацыях у шэрагу перыядычных выданняў, калектыўных зборніках... Паэзія Ларысы цікавіць асаблівым светапоглядам, вастрынёй пачуццяў, свежасцю вобразаў. Гэта адзначыў прафесар Гомельскага дзяржуніверсітэта Іван Штэйнер, які ў свой час стаў "хросным бацькам" творчасці паэткі.

**Алег АНАНЬЕЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Вуліца Адамовіча

Толькі да пятай гадавіны смерці нашага земляка Алеся Адамовіча ў рабочым пасёлку Глуша, што пад Бабруйскам (менавіта тут прайшло дзяцінства і юнацтва пісьменніка), адна з вуліц была названа яго імем. Назва прысвоена былой Школьнай, побач з якой стаіць дом, дзе жыла калісьці сям'я Адамовічаў. Рашэнне прыняў мясцовы пасялковы Савет. Гэтым самым урэшце выкананы шматлікія пажаданні жыхароў Глушы, якія даўно хацелі ўвекавечыць памяць земляка — слаўтага беларускага пісьменніка, публіцыста, літаратуразнаўцы.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Конкурс песні

Два дні на абласным конкурсе ў Магілёве гучалі ваенна-патрыятычныя песні. Арганізавалі конкурс абкам Беларускага патрыятычнага Саюза моладзі, абласны цэнтр народнай творчасці, абкам прафсаюза работнікаў культуры... Абласному конкурсу папярэднічалі раённыя. І вось у зале Магілёўскага вучылішча культуры загучалі гала-сы лепшых песеннікаў. Гэта ўжо другі такі конкурс. Сёлетні быў прысвечаны 15-годдзю выводу савецкіх войскаў з Афганістана.

У намінацыі "аўтар-выканаўца" лепшымі былі прызнаны Аляксандр Арбузаў з Чэрыкава, крычаўчанка Наталля Дуброўская, бабруйчанка Алена Жалязняк і афганец з Клічава Уладзімір Рыбакоў. Сярод вакалістаў перамаглі Святлана Дзятлоўская з Магілёўскага раёна, студэнт Магілёўскага музычнага вучылішча Віктар Варонін і Марына Пузына з Бабруйска...

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Экспазіцыя — пастаянная

У музеі Марка Шагала нарэшце створана пастаянная экспазіцыя работ мастака. Гэта афорты, каляровыя літаграфіі, акваціны. Усе 72 арыгіналы падараваны музею прыватнымі калекцыянерамі з-за мяжы і сям'ёй Шагала. Рарытэтам калекцыі з'яўляюцца пяць маленькіх афортаў 1926 года. Упершыню экспануюцца ілюстрацыі Шагала да Бібліі.

## Любіць свет

У выставачнай зале Віцебскай школы N 25 адкрылася выстава А. Рыбакова "З любоўю да прыроды".

— Яго лепшыя работы — паэтычныя, — адзначыў на прэзентацыі мастак В. Чукін, — але самае галоўнае, Саша здолеў захаваць чыстую душу...

Душа мастака жыве ў яго творах. Карціны Рыбакова рэалістычныя, яны патрэбны моладзі, для якой кожная сустрэча з сваім настаўнікам — сапраўдны ўрок эстэтычнага выхавання.

## У дзень нараджэння паэткі

Першага сакавіка, у дзень нараджэння Еўдакіі Лось, студэнты факультэта беларускай філалогіі і гісторыі Віцебскага дзяржуніверсітэта правялі вечар паэзіі, прысвечаны 70-годдзю пісьменніцы.

## Творчая сустрэча

У Віцебскім дзяржуніверсітэце адбылася творчая сустрэча з беларускім пісьменнікам, лаўрэатам прэміі імя Івана Мележа, намеснікам рэдактара часопіса "Всемирная литература" Віктарам Супрунчуком. Гаворка ішла аб творчых планах часопіса. Пісьменнік спыніўся і на праблемах сучаснага літаратурнага працэсу на Беларусі.

**Святлана ГУК**

### УДАКЛАДНЕННЕ

*У сувязі з просьбай Беларускага саюза мастакоў, Міністэрствам культуры прынята рашэнне аб пераносе тэрміну прадстаўлення твораў на выстаўку-конкурс пейзажа "Пад белымі крыламі" на 20 красавіка 1999 года.*

## Шануюць спадчыну

**Далёка не пры кожнай вясковай культасветустанове працуюць народныя калектывы мастацкай самадзейнасці. А вось пры Курыціцкім СДК Петрыкаўскага раёна іх ажно два. Адзін — фальклорны ансамбль "Спадчына" не так даўно адзначыў сваё дваццацігоддзе. Шэсць гадоў ужо носіць ён гэтае ганаровае званне. Пазалетась яго пацвердзіў.**

**З першага дня калектыў узначальвае Тамара Хаменя. У 1975 годзе прыйшла яна на працу ў сельскі клуб пасля заканчэння курсаў баяністаў пры Гомельскім Доме народнай творчасці. Згуртавала вакол сябе сапраўдных энтузіястаў народнай песні.**

**Сярод іх старэйшыя ўдзельніцы Ганна Бондар, Вера Шэлег, Зінаіда Дубіна, Ніна Картыннік, Вольга Буднік і іншыя, якія цяпер на заслужаным адпачынку.**

**Шануюць "Спадчыну" і мужчыны: культасветработнік Мікалай Буднік, токар АТ "Агратэхсервіс" Віктар Колчын, зваршчык калгаса "Бальшавік" Віктар Плікус.**

**Свой вопыт і любоў да песні ветэраны ансамбля перадаюць юнай змене — Марыне Грэсьцы, Алесі Сітніцы, Віцы і Жэні Плікусам, Ігару і Алегу Бурновым, Сашы Бондару, Каці Картыннік, Сашы Баўсуну, Сяргею Ламану, Сашы Семяніцкаму, Людзе Баўсун і Марыі Фалеевай.**

**Ніводнае раённае мерапрыемства не абыходзіцца без удзелу курыціцкіх артыстаў. З поспехам выступалі яны і ў Мазыры, Акцябрскім, Калінкавічах і двойчы — на абласным тэлебачанні. Па рэспубліканскім тэлеканале паказвалі іх "Вясельны абрад".**

**А. ЛІСІЦКІ**

## Школьны музей Пушкіна

**Творчасць Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна не падуладная ні часавым, ні дзяржаўным межам. Папулярнасцю карыстаецца яна і ў беларускага чытача. Гэта відаць асабліва цяпер, калі й наша краіна рыхтуецца ўрачыста адзначыць 200-годдзе з дня нараджэння паэта.**

**Адкрыццё музея А. Пушкіна ў Рочавіцкай сярэдняй школе Стаўбцоўскага раёна таксама хораша ўпісваецца ў шэраг юбілейных мерапрыемстваў. Адбылося гэта дзякуючы дырэктару школы Васілю Антонавічу Кураку, які вельмі любіць літаратуру і, канечне ж, творчасць "першай любові Расіі", як сказаў пра Аляксандра Сяргеевіча Фёдар Цютчаў.**

**На ўрачыстасці прыехалі пісьменнікі-землякі, ураджэнцы Стаўбцоўшчыны — дырэктар выдавецтва "Юнацтва", паэт і празаік Алесь Камароўскі і рэдактар гэтага выдавецтва, таксама паэт і празаік Яўген Хвалей. Гучалі вершы А. Пушкіна і творы, прысвечаныя яму.**

**Цікавая экспазіцыя пушкінскага музея. Скульптар Мікалай Кандрацьеў падарыў дзве скульптуры — А. Пушкіна і М. Гогаля. Ёсць тут аўтографы вершаў народнага паэта Беларусі Максіма Танка, Сяргея Грахоўскага, Генадзя Бураўкіна і іншых.**

**У школе адбыўся адкрыты ўрок, у правядзенні якога прынялі ўдзел А. Камароўскі і Я. Хвалей.**

**В. СЯРОДКА**

## Беларускі калегіум запрашае

**9 сакавіка адбудзецца прэзентацыя кнігі Аляксея Каўкі "Будам жыць".**

**16 сакавіка — Ігар Марзалюк чытае лекцыю "Менталітэт гарадскога насельніцтва Беларусі XVI — першая палова XVII ст."**

**23 сакавіка — лекцыя Сяргея Харэўскага "Вільня ў беларускім фотамастацтве канца XX стагоддзя".**

**30 сакавіка — лекцыя Яўгена Вапы (Беласток) "Беларускае студэнцтва Беласточчыны і фармаванне нацыянальнай ідэі (XIX—XX стст.)".**

**Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Я. Купалы (актавая зала) па адрасе: вул. В. Харужай, 16.**

**ПАЧАТАК ЛЕКЦЫЙ У 18.30.**

**Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл. 256-36-13.**

КІНО

# Пакаленне ікс

***Зала Палаца культуры прафсаюзаў, дзе ладзіць свае кінапаказы Беларуская федэрацыя "Кінаклуб" ніколі не бывае пустой. Цікавыя насычаныя праграмы французскага, нямецкага, польскага кіно прыцягваюць увагу сталічнай моладзі пастаянна — паказы лічацца элітарнымі. Першая сёлета сумесная праграма аддзела культуры Пасольства Францыі ў РБ і федэрацыі "Кінаклуб" пад назвай "Французская калекцыя: Пакаленне ікс (маладое кіно 1995/1996)" — гэта працяг распачатай два гады таму рэтраспектывы "Маладое французскае кіно". Новая калекцыя фільмаў заслугоўвае асаблівай увагі. Пакаленне ікс — пакаленне невядомых.***

Усіх французскіх дэбютантаў ад кіно аб'ядноўвае здаровая прэтэнзія кшталту Арцюра Рэмбо: "Я вынаходнік, варты іншага, чым усе мае папярэднікі". Пакаленне ікс — гэта пакаленне рэжысёраў-эксперыментатараў, упэўненых, што ім ёсць што сказаць (штогод у Францыі здымаецца 180 поўнаметражных і 700 эксперыментальных каротkametражных фільмаў). Кожны з іх, абапіраючыся на арыгінальны сцэнарый, стварае ўласны маніфест часу (пошук формы вагаецца паміж дакументальным рэпартажам і глыбокім аўтарскім роздумам". Маладыя французскія рэжысёры імкнуцца да шчырага дыялога з гледачом. Яны прапаноўваюць апынуцца ў той рэчаіснасці, якую прынцыпова не заўважаюць сталыя рэжысёры — у правінцыйных гарадках, вёсках, рабочых кварталах.

Пакаленне ікс — гэта пакаленне рэжысёраў-антырамантыкаў. У іх фільмах мала высокіх пачуццяў, сентыментальных пакутаў, затое дастаткова іроніі, псіхічнага надлому, агрэсіі (між іншым, з пяці паказаных стужак чатыры зробленыя жанчынамі). Усе героі пакалення ікс знаходзяцца ў стане пошуку і барацьбы: з сацыяльнай няроўнасцю, з бацькамі, з самімі сабой. Перайначыць свет, які застаецца халодным нават нягледзячы на сонца, кожны з іх імкнецца па-рознаму.

Маладога рабочага П'ера Сэфа з фільма "Месца здарэння" (рэж. Ж. Рышэ) натхняюць ідэі Леніна. На думку П'ера толькі бунт супраць буржуа дапаможа яму знайсці добрую работу і пазбавіцца прыніжальнага сацыяльнага становішча. У пакоі П'ера на імгненне камера затрымліваецца на знаёмым нам з дзяцінства плакаце "А ты записался в добровольцы?" Такі сімвалічны зварот да гледачоў арганічна стасуецца з агульнай стылістыкай чорна-белай стужкі, зробленай у жанры дакументальнага рэпартажу. У фільме ёсць эпізоды, калі юнакі з рабочага квартала гутараць з тэлежурналістам ("Нічога не змяняецца без рэвалюцыі", — крычаць яны ў камеры). Рэжысёр здымае рэпартаж з жыцця П'ера, занатоўвае яго рэзкія рухі, наплыў нянавісці і агрэсіі. Мне падалося, што Ж. Рышэ працягвае традыцыйную тэматыку свайго сталага калегі К. Шаброля, "апошняга паэта і "адпявальшчыка" буржуа ў французскім кіно". Праўда, калі класавая нянавісць К. Шаброля згадваецца, напрыклад, у прыгожай сцэне вячэры, у момант якой служанка забівае сваіх гаспадароў, то нянавісць Рышэ пазбаўлена ўсялякай эстэтычнай афарбоўкі. Яна адбіваецца ў агрэсіўнай музыцы рэп і ў жывёльным палавым акце П'ера і яго багатай прыяцелькі (фінальны эпізод стужкі). Аднак нягледзячы на знаёмую класавую падаплёку, фільм Ж. Рышэ здаецца экзатычным сном, які хочацца забыць. Уражваюць і шматлікія недасканаласці. Яны, зрэшты, зразумелыя — стужку зрабілі за дзесяць дзён.



Эфект дакументальнасці ў фільме "Агюстэн" (рэж. А. Фантэн) ствараюць непрафесійныя акцёры. Для радавых служачых страхавой кампаніі роля ў кіно — сапраўднае выпрабаванне, яны ледзь хаваюць сваё хваляванне перад камерай. Аднойчы вядомы акцёр размоўнага жанру Жан-Крэцьен Сібертэн-Блан, брат А. Фантэн, уладкаваўся на працу ў страхавую кампанію. Калі ж там з'явіліся "кіношнікі", камічны служачы Агюстэн ператварыўся ў цудоўнага акцёра (у фільме выдуманы Агюстэн сыграў апантанага "маленькага чалавека", які даносіць на сваіх калег, а ў вольны час падзарабляе статыстам у танных серыялах). Эксперымент А. Фантэна, як і вобраз Агюстэна выклікае добрую ўсмешку. Але фільм здаецца зацягнутым, а дыялогі — надакучлівымі. Нават у выкананні блазна Сібертэна-Блана.

У фільме "Узрост магчымасцяў" (рэж. П. Феран) іграюць цалкам прафесійныя акцёры, якія цудоўна адчуваюць настрой сваіх герояў: іх разгубленасць, няўпэўненасць, страх. "Сёння ўсе баяцца. Баяцца знайсці працу. Страціць працу. Нарадзіць дзіця ў свеце, дзе ўсе баяцца. Не нарадзіць яго своечасова. Захварэць. Прайсці міма жыцця. Занадта многа кахаць. Недакахаць. Паўсюль страх і гэта вядзе да катастрофаў. Той, хто баіцца сёння, заўтра будзе баяцца яшчэ больш. Адзінае выйсце: забіць страх, які жыве ў нас". На працягу фільма камера паслядоўна сочыць за кожным героем: за былой актрысай, таленавітым мастаком і яго донжуанам сябрам, прадаўшчыцай з Макдональса, эмансіпаванай студэнткай, беспрацоўным. Яны не ведаюць адзін аднаго, хаця выпадкова сустракаліся на вуліцы, у аўтобусе, кафэ. Закадравы маналог нібыта з'ядноўвае іх лёсы ў адзін, выкрывае хваробу цэлага пакалення. Павольны рытм карціны, добрая іронія рэжысёра настройваюць на спакойнае разважанне. Цікавая стужка. Прыемна, што П. Феран звяртае ўвагу не толькі на дыялогі, але і на будову кадра.

Да паэтычнасці імкнецца і рэжысёр К. Кар'ер. Лейтматыў фільма "Разіна" ў парадаксальным выразе І. Бергмана — "дачка нараджае маці" (гэта было першае, што напісаў знакаміты шведскі рэжысёр у сцэнарыі "Асенняй санаты"). Мары нарадзіла Разіну, калі ёй было чатырнаццаць. Разіне ўжо чатырнаццаць і яна таксама "маці". Сур'ёзная, пахмурная дзяўчынка "гадуе" бесклапотную дурніцу Мары (маці кажа Разіне: "называй мяне, як усе — Мары"). Разіна хвалюецца за "дачку", ненавідзіць яе сяброўак і кавалераў. Паталагічныя адносіны дачкі і маці яшчэ больш узмацняе бацька Разіны. Злодзей і прайдзісвет, ён бачыць жанчыну хутчэй у Разіне, чым у Мары і гвалтуе сваю дачку. На пачатку стужкі Разіна кажа за кадрам: "Дарога... Яна вядзе ў Парыж, потым — Кале, а потым — Англія". На экране — дарога надзеяў і спадзяванняў дзяўчынкі (Разіна марыць быць спявачкай). Але які жудасны кантраст напрыканцы фільма, калі па той жа дарозе ідзе святар і чытае прызнанне Разіны: "Я хачу забіць свайго бацьку". К. Кар'ер закальцоўвае фільм. Яе стужка ўзрушвае, запамінаецца.

Маладое французскае кіно — гэта адзіны вялікі эксперымент. У прасторы фільмаў злучаюцца жорсткасць і дабрыня, іронія і сум, жаноцкасць і мужнасць. Што такое жыццё? Пакаленне ікс у адказ ставіць ікс. Але адразу ж і прэпарыруе гэтае невядомае. Традыцыя разважлівага еўрапейскага кіно працягваецца.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

**P.S.** Знаёмства з шэдэўрамі "Французскай калекцыі" працягваецца. 15 сакавіка ў зале ДК прафсаюзаў распачнецца паказ фільмаў аднаго з прадстаўнікоў знакамітай "новай хвалі" Жан-Люка Гадара.

*На здымку: кадр з фільма "Разіна".*

ТЭАТР

# Клубок уяўленняў і магчымасцяў

***Снежаньская прэм'ера "Дня нараджэння Чэлентана" С. Мрожака ў Гомельскім абласным драматычным тэатры вылучылася адметным гумарам, захопленымі акцёрамі ды лёгкасцю рэжысуры. Поспех і розгалас сярод абазнанай — прэм'ернай публікі змусілі звярнуцца да пастаноўшчыкаў-творцаў па каментарыі.***

Дзмітрый САЛАДУХА — **рэжысёр**: Аўтар п'есы — Славамір Мрожак, мо ўжо роўня Шэкспіру?.. Ён, я ўпэўнены, застанецца ў вяках. Ён напісаў адметны тэатральны жарт, дзе адзін чалавек пераследуе іншага, — вось і ўся гісторыя. Гэта — спектакль-жарт, спектакль-капуснік. Спектакль, які стварaўся і мною таксама, але не як рэжысёрам-пастаноўшчыкам, а нейкім іншым — студыйным — спосабам. Проста... сабраліся людзі. Знайшлі матэрыял. Вось у мяне, скажам, ёсць пачатак ніточкі, а артысты цягнуць усё астатняе. У выніку намотаўся (або размотаўся?) такі цікавы клубок... Гэта — тэатр дэль артэ. Тэатр як мага большай тэатральнай умоўнасці. Калі з гледача вымагаюць... уяўлення, — уяўлення напоўніцу, шчырага, дзіцячага...

Наталля ДЗЯБЕРЫНА —**Каламбіна**: Нараджалася ўсё ў пакутах. На агульным энтузіязме. З такога трызнення, з такога глупства... Незразумелага, п'янаватага... І, галоўнае, — атрымалася! А я люблю працаваць у другім складзе выканаўцаў — заўжды відаць збоку, што трэба рабіць і як не трэба іграць. Але тут якраз гэта мне перашкодзіла. Я міжволі стала працаваць "пад Алену" (Алена Шагава, выканаўца ролі Каламбіны з першага складу. — **А. П.**). Мая Каламбіна хоць і больш заштампаваная, але больш сексуальная, больш важкая — плоцевая. Шагава на рэпетыцыі сказала, што прыдушыла б такую Каламбіну. Алена ж паводле прыроды — клаунеса, яна купалася ў гэтым матэрыяле, уся такая непасрэдная вольная, паветраная... А я сябе ламала. Я ж першая пачынала рэпеціраваць, Шагава потым падключылася, сядзела й скептычна так казала: "Божа, якое глупства!" Паступова яе вока загаралася і спакваля яна зусім мяне выцесніла.

Сяргей ЛАГУЦЕНКА —**Арлекін**: Сабраліся сябры. Сябры! І рэжысёр. Ды які... рэжысёр!? Проста харошы чалавек, Зміцер! Разам прыдумвалі. Алена-Каламбіна — імпульсіўная, нечаканая. Як... малпачка. Яна да ролі паставілася прасцей, з ёй імправізавалі. А ў Наталлі-Каламбіны — іншы ўнутраны стан. Яна іграе Каламбіну-актрысу, усё карпатліва паўтарае, запамінае. Яны абсалютна розныя. Затое працаваць — радасць! Але ... як у такой дурноце гледачу нешта падабаецца — не ведаю...

Юрый МАРЦІНОВІЧ — **П'еро**: Га! Гэтыя Каламбіны толькі зусім заблыталі. Дамоўленасці папярэдняй, — як іграць, — ні з якой Каламбінай не было. Затое не было і напружанасці, хоць і спектакля я проста лякаўся, і не дужа хацеў у ім працаваць.

Дзмітрый САЛАДУХА —**рэжысёр**: Спектакль наш — "ініцыятыва знізу", ад акцёраў. Балазе, ёсць чуйнае тэатральнае кіраўніцтва, якое разумее час і ягоныя патрэбы. Нізкі паклон — дырэктару тэатра Валянціне Георгіеўне Рагоўскай, бо без яе валявой жаночай рукі нават такая палкая ініцыятыва не завяршылася б спектаклем. Я пражыў у Гомелі больш за месяц, але не назваў бы ні горад, ні тэатр правінцыйнымі. Маё ўяўленне пра правінцыю зламалася. І пра гомельскага гледача таксама. Наколькі глядач у стане — хай бярэ ўдзел... у дзеянні. Хоча спяваць, задаваць пытанні, адказваць на пытанні акцёраў — напраміласць Бог, магчымасць такая ў спектаклі ёсць.



**Каментарыі збірала Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота аўтара*

# “Мы амаль забыліся на ўласнае мінулае”

***Кінамеханік і рабочы завода, гісторык і археолаг, музейшчык, інструктар, а потым загадчык сектара ЦК КПБ, першы намеснік міністра культуры Беларусі... Зараз Уладзімір ГІЛЕП — старшыня рады Беларускага фонду культуры. Чыноўнік-функцыянер? Чалавек, які, упэўнена ўздымаючыся па прыступках службовай лесвіцы, упарта і насуперак усяму ніколі не адхіляўся ад лініі партыі?***

— Наконт выканання “волі народа, партыі і ўрада” разважаць зараз можна да бясконцасці, адшукваючы пры гэтым як станоўчае, так і заганнае, — адказвае Уладзімір Аляксандравіч. — Хоць і хапала рознага ў жыцці, зазначу толькі адно: сораму за час колішні (як, зрэшты, і за сённяшні) не адчуваю. Менавіта пры П. М. Машэраве ЦК прыняў некалькі пастаноў і рэалізаваў іх у канкрэтныя справы. Так узніклі Музей народнай архітэктуры і побыту ля вёскі Строчыца, Веткаўскі музей народнай творчасці... Быў распрацаваны і адкрыты першы экскурсійны маршрут па гістарычных і памятных мясцінах Міншчыны. Пачалася рэстаўрацыя Заслаўя. Пад ахову былі ўзяты курганныя могільнікі ў наваколлі сталіцы, старажытнае гарадзішча на рэчцы Менка... Машэраў увогуле любіў раіцца з творчай інтэлігенцыяй, давяраў ёй. У вандроўку па Заслаўі, напрыклад, узяў аднойчы Уладзіміра Караткевіча, выдатнага знаўцу гэтых мясцін. Відаць, таму і рабілася шмат, што не было асаблівых непаразуменняў паміж кіраўніцтвам дзяржавы і творчай інтэлігенцыяй, людзьмі, сапраўды дасведчанымі ў справе нашай гісторыі і культуры...

Менавіта тады ж, у 70-х, узнікла і ідэя стварэння летапісу народнай славы. Ніхто гэтым у колішнім Саюзе не займаўся, мы былі першымі. Нягледзячы нават на тое, што саюзны ЦК не прыняў нашу прапанову, справа не была спынена. Кніжкі “Летапісу” выйшлі па Шумілінскім, Дубровенскім раёнах. Па іншых гарадах і раёнах выходзяць яны і зараз, толькі пад назвай “Памяць”... Так што шкадую цяпер толькі аб адным: стаў чыноўнікам і перастаў ушчыльную займацца любімай музейнай справай, археалогіяй. Пачатак 60-х самы настальгічны: Мінск, Няміга, раскопачны сезон, першы знойдзены і ўласнымі рукамі склееены старажытны гаршчок...

**— Уладзімір Аляксандравіч, вы да таго ж і заслужаны работнік культуры Польшчы. І сталі ім, дзякуючы...**

— ...польскаму каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму — нашаму земляку. Такая вось “каралеўская” павага. А калі сур’ёзна, званнем гэтым, акрамя мяне, адзначылі польскія ўлады адначасова і археолага Міхаіла Ткачова, і Аляксандра Мелінкевіча — на той час намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама, і Уладзіміра Кіслага — супрацоўніка Гродзенскага музея гісторыі рэлігіі. За вяртанне Польшчы праху гэтага самага караля... Панятоўскі — асоба неардынарная. Каханак Кацярыны Другой. Пасіўны сведка, як сцвярджаюць палякі, трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Вялікі знаўца і фундатар мастацтваў. Нарадзіўся ў вёсцы Волчын сённяшняга Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. А памёр у Санкт-Пецярбурзе, быў пахаваны ў мясцовым касцёле. Праз 130 гадоў, перад другой сусветнай вайной, савецкія ўлады вырашаюць перадаць рэшткі Панятоўскага Польшчы. Але не ў вялікай ён там пашане. Аднак труну з прахам прывозяць пад Стоўбцы і ўночы пераносяць праз мяжу на польскі бок. Палякі вырашаюць перапахаваць караля ў склепе родавага касцёла ў Волчыне. Пасля верасня 39-га гэтая тэрыторыя — у складзе СССР. За час Вялікай Айчыннай родавы касцёл быў разбураны, труна парушана, прах караля раскіданы па касцёле. У 1988 годзе польскі бок звярнуўся да нас з просьбай аб пошуку і перадачы шматпакутнага праху. Менавіта мне давялося па даручэнні ўрада ўзначаліць камісію па пошуках і перадачы рэшткаў караля. Правялі раскопкі, парэшткі ўсё ж знайшлі. Ідэнтыфікацыяй іх занялася спецыяльная польская камісія. А наш Нацыянальны музей гісторыі і культуры ўзяўся за кансервацыю рэшткаў труны. Кароль Панятоўскі знайшоў нарэшце пакой ў касцёле на Старым Мясцы ў Варшаве... Вось такая адбылася гісторыя.

**— Палякі не забываюцца на мінулае. А мы? Будуем стадыёны, лёдавыя каткі, вялікія спартыўныя комплексы (безумоўна, рэч карысная і важная!), але ж нашы беларускія святыні — старажытныя замкі, палацы — ляжаць у руінах альбо няўхільна руйнуюцца пры недаравальным дзяржаўным патуральніцтве. Касаўскі, Крэўскі, Гальшанскі, Навагрудскі, Ружанскі замкі... Спіс можна доўжыць і доўжыць...**

— Натуральна, праблема з праблем. І вырашаць яе трэба грамадой, бо дзяржава (факт прызнаны!) мала звяртае ўвагі на мінуўшчыну. Узяць хаця б і Нясвіж. Вельмі хацеў у свой час, каб сталі гэтыя мясціны сапраўднымі запаведнымі. Насамрэч унікальны горад, цэнтр Радзівілаўскай дзяржавы. Мясцовыя райвыканкамаўскія ўлады з гатоўнасцю ішлі насустрач. Зацікаўлена ставіліся да адраджэння замка Нацыянальны мастацкі музей і Нацыянальны музей гісторыі і культуры. Сапраўды, дзе яшчэ паказаць знакамітую калекцыю Радзівілаўскага партрэта, як не ў палацы саміх Радзівілаў! На пачатку 90-х (яшчэ пры мінулым урадзе) распачалі рэстаўрацыю штучнай воднай сістэмы і паркавага ансамбля. Навуковая група з лепшых спецыялістаў Беларусі распрацавала канцэпцыю запаведніка, якая была абмеркавана на канферэнцыі з удзелам нашчадкаў знакамітых князёў, дасведчаных навукоўцаў з 22-х краін свету. Быў створаны міжнародны фонд “Нясвіж”. У склад запаведніка меркавалася ўвесці і палац з ратушай, і браму, і унікальныя паркавыя ансамблі, гарадскую гістарычную забудову. Сёння рэстаўруецца ратуша. А дакументацыя па рэгенерацыі гістарычнага Нясвіжа зроблена не да канца. А гэта ж вельмі важна, каб старажытны горад не замінаў развіццю сучаснага, каб сённяшняя забудова не пагаршала выгляд гістарычнай. Здаецца, навуковы падыход да вырашэння гэтай праблемы недаравальна згублены. Навуковая рада павінна збірацца рэгулярна. Неабходна ўзнімаць узровень навуковых даследаванняў, пераймаць вопыт, які назапашаны ў свеце. Спадзяюся, што дырэкцыя гісторыка-культурнага запаведніка “Нясвіж”, Міністэрства культуры зразумеюць гэта...

Для адраджэння Крэўскага замка створаны міжнародны фонд “Крэва” на чале з Уладзімірам Някляевым. У лістападзе БФК правеў тут навуковую канферэнцыю. Спецыялісты з Беларусі, Польшчы і Літвы аб’ядналіся для таго, каб адрадзіць і надзейна захаваць унікальную архітэктуру замка...

Частковая рэстаўрацыя (пра поўную гаварыць зараз няма і сэнсу) вядзецца і на Наваградскім замчышчы... Як паведаміў “ЛіМу” міністр культуры, прапрацоўваецца пытанне “патэнцыяльнага ўласніка” па Косаўскім палацы...

Ды калі б толькі ў замчышчах справа была! Налічвалася калісьці на Беларусі больш за 350 сядзібна-паркавых ансамбляў. На сёння захавана меншая палова, дый то ў неахайным і непрывабным стане. Лошыца, Лагойск, Туганавічы... Назвы гэтыя ва ўсіх на слыху. Але нічога не робіцца для таго, каб вызваліць многія унікальныя ландшафты ад мехдвароў і жывёлагадоўчых фермаў, каб арганічна размясціць тут музеі, дамы народнай творчасці, месцы для дзіцячага адпачынку. У свой час Міністэрства культуры вымушана было стварыць летнюю міжнародную школу ландшафтнай архітэктуры — “Нясвіжскую акадэмію”. Спецыялістаў такога профілю ў нас проста не было. Працуе школа ўжо чатыры гады: больш за дваццаць архітэктараў за гэты час атрымалі міжнародны сертыфікат па спецыяльнасці “архітэктар гістарычнага ландшафту”. Але запатрабаванасць іхняя зусім невялікая. Для рэстаўрацыі парку ў Здраўнёва (дача Рэпіна) Міністэрства культуры чамусьці збіраецца запрасіць архітэктараў з Масквы. Але хачу нагадаць: за час работы “Нясвіжскай акадэміі” тры яе выпускнікі атрымалі прэміі ЮНЕСКА за лепшы праект. Выпускнікі гэтыя — беларусы...

Давайце спадзявацца на лепшае. У культуры разбіраюцца ўсе, але рухальнікамі і носьбітамі яе застаюцца прафесіяналы, людзі самаахвярныя, самаадданыя.

**— А што канкрэтнага робіць ваш фонд, Уладзімір Аляксандравіч, каб не была культура ў нашым краі неаблашчанай госцейкай?**

— Дванаццаць гадоў існуе Беларускі фонд культуры. Дзесяць кіраваў ім Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў — якраз з той самай кагорты самаахвярных і самаадданых. За гэты час пад дахам фонду нарадзіліся і пайшлі ў самастойнае жыццё самыя розныя грамадскія аб’яднанні: ТБМ, краязнаўчае таварыства, саюзы народных майстроў, фалькларыстаў, часопіс “Спадчына”... Мы і зараз працуем з імі ў цесным творчым кантакце над ажыццяўленнем самых розных праграм. Нагадаю, што наш фонд — арганізацыя не дзяржаўная, а грамадская. БФК уваходзіць у склад канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў. Мы не дублíруем дзейнасць Міністэрства культуры, нашы праграмы не крыжуюцца. Ды і падыход да іх ажыццяўлення розны. Культуры сваю волю зараз дыктуе чыноўнік-фінансіст. Няма грошай — няма і канкрэтных спраў. Фонд жа пры недахопе сродкаў настойліва вучыцца іх зарабляць. Займаемся выдавецкай справай. Маем два прадпрыемствы, якія адлічваюць невялікія грошы на нашы праграмы...

Дык вось наконт канкрэтных праграм. Адна з галоўных — “Славутыя імёны Бацькаўшчыны”. На чале з Анатолем Грыцкевічам і з дапамогай свядомай творчай інтэлігенцыі вышукваюцца прозвішчы недаравальна забытых альбо ўвогуле невядомых раней землякоў-беларусаў, якія здолелі праявіць сябе як асобы неардынарныя. Імем Ігната Дамейкі, напрыклад, названы універсітэт, горная сістэма ў Чылі, шмат там помнікаў яму, а на Беларусі — ніводнага. А хтосьці, мабыць, і не ведае, што Дамейка пасля ўдзелу ў паўстанні 1830—31 гадоў эмігрыраваў у Чылі, здолеў і там праславіць любую Беларусь... Такіх прозвшічаў зараз 217. Усе яны закладзены ў Інтэрнет, спісы публікуюцца ў “Культуры”, а работа па адшукванні імёнаў працягваецца. У перспектыве — кнігі. Не энцыклапедыі, а папулярныя выданні накшталт школьнага дапаможніка...

Камісію па вяртанні каштоўнасцей на Беларусь узначальвае Адам Мальдзіс. Складзена ўжо пяць зборнікаў падрабязных матэрыялаў аб тым, дзе ж канкрэтна па-за межамі нашай радзімы знаходзяцца унікальныя рэчы, кнігі, дакументы...

Дапамагаем народным майстрам. З траўня будзе наладжаны “Траецкі кірмаш”, на якім кожны раён Беларусі па чарзе зможа не толькі паказаць, але і гандляваць узорамі народнай творчасці. Пад увагай БФК і лёсы нашых гарадоў-паселішчаў. Пра Крэўскую канферэнцыю я ўжо ўзгадваў. Але ў полі нашага зроку яшчэ і Слуцк, Копысь, Друцк. Сёлета плануецца навуковая канферэнцыя па стану сядзібна-паркавых ансамбляў на прыкладзе мястэчка Высокае...

**Гутарыў Яўген РАГІН**

ФЕСТЫВАЛІ

# Трэці Усебеларускі — пачынаецца

Кіраўнікі нацыянальных аб’яднанняў (а іх зарэгістравана ў Беларусі 33), прадстаўнікі дыпламатычных місій Арменіі, Казахстана, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Турцыі, Украіны, а таксама прэса былі запрошаны ў залу калегіі Міністэрства культуры. Прысвячалася пасяджэнне пачатку III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, які завершыцца ў двухтысячным годзе. Нагадаем, што I і II рэспубліканскія фестывалі адбываліся, адпаведна, у 96-ым і 98-ым гадах у Гродне. Яны не толькі прадэманстравалі культурныя набыткі нацыянальных меншасцей Беларусі, але і сталі штуршком для іх далейшага развіцця.

У нашай Канстытуцыі, сказаў старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей **А. Білык,** не ўжываецца гэтае распаўсюджанае ў свеце паняцце — “нацыянальныя меншасці”. Мы карыстаемся выразам “нацыянальныя супольнасці”.

Аляксандр Мікалаевіч у агульных рысах абмаляваў этапы арганізацыі нацыянальнай сям’і ў рэспубліцы. Прадстаўнікі 123-х нацыянальнасцей (па перапісе 89-га года) жывуць на беларускай зямлі. Беларусь была адной з нямногіх сярод краін былога СССР, дзе Вярхоўны Савет прыняў Закон аб нацыянальных меншасцях. Ён увайшоў у жыццё без лішняга шуму, бо не ствараў нацыянальных праблем: забяспечваў грамадзянства для ўсіх, хто стала пражываў на нашай зямлі. Існаваў Каардынацыйны савет па справах меншасцей пры Савеце Міністраў.

У 95-м годзе пры Міністэрстве культуры створаны Цэнтр нацыянальных культур, які вядзе канкрэтную работу з суполкамі (і, на жаль, пакуль што не мае свайго памяшкання).

Наступнай прыступкай у гэтай важнай галіне дзяржаўнай палітыкі стала стварэнне камітэта, які займаецца справамі рэлігій і нацыянальнасцей (на практыцы адно з другім цесна пераплецена), а таксама апякуецца беларусамі замежжа. У адной толькі Расіі пражывае 1 мільён 300 тысяч нашых суайчыннікаў. Яшчэ адзін накірунак работы — міждзяржаўнае супрацоўніцтва. Заключана пагадненне з Малдовай, на падыходзе — з Расіяй, Украінай, Літвой.

Намеснік міністра культуры **В. Гедройц** падрабязней спыніўся на асаблівасцях III фестывалю, які трывала прыжыўся ў Гродне. Яго канцэпцыя з улікам ранейшага вопыту ўзбагацілася і ўскладнілася. Задача фестывалю — дайсці да кожнай вёскі і мястэчка, дзе пражывае тая ці іншая супольнасць. Кожная з іх правядзе свае занальныя агляды і адбярэ лепшыя калектывы для фінальных мерапрыемстваў. Разгорнуцца выставы і пленэр выяўленчага мастацтва, будзе зняты відэафільм. Упершыню ў свяце прымуць удзел дзеці, плануецца запрасіць беларусаў замежжа і калектывы з так званых мацерыковых краін.

— Жыццё нашых супольнасцей не абмяжоўваецца фестывалямі, — сказаў старшыня яўрэйскай суполкі **Л. Левін**. — Мы — частка Беларусі, нас хвалюе яе будучыня і яе палітычная сітуацыя. Мы любім гэтую зямлю і рады, што тут няма міжнацыянальных канфліктаў.

Л. Левін, **М. Ткачоў** (таварыства “Русь”) і іншыя выказаліся наконт звужэння інфармацыйнай прасторы. Перастала існаваць тэлеперадача “Шматгалоссе” (магчыма, з-за сваёй шэрасці), перадача радыё “Супольнасць” з вечаровага часу перасунута на дзённы. **Б. Шабановіч** (“Аль-Кітаб”) заклікаў улічваць індывідуальныя асаблівасці суполак. Гучалі нараканні, што ў пятай часткі насельніцтва Беларусі дасюль няма агульнай газеты. Супроць такой газеты выступілі толькі палякі. Затое самі яны маюць тры ўласныя выданні.

Асобную пазіцыю заняла польская дыяспара і па III фестывалі. Як заявіў**К. Тарасевіч**, Саюз палякаў Беларусі адмаўляецца ўдзельнічаць у свяце, бо зацягваецца будаўніцтва польскіх школ у Гродне і Навагрудку, не вырашаюцца іншыя праблемы польскамоўнага навучання.

На калегіі падымаліся вострыя пытанні, якія тычыліся адраджэння, самасвядомасці і самапачування супольнасцей Беларусі. Балючыя кропкі “большасці” — карэннай нацыі — далікатна абыходзілі. Ці з-за таго, што “свая кашуля бліжэй да цела”, ці таму, што за нас нашыя праблемы ніхто не вырашыць у прынцыпе.

Правільна ўсё ж сказаў міністр А. Сасноўскі, адкрываючы пасяджэнне: “Чым больш аддаеш, тым больш прырастае”. Мабыць, гэта справядліва для кожнай культуры.

**Г. К.**



**ЧАСАПІС**

## "Проста ноч на дварэ"

**Рэдакцыя часопіса "Маладосць" апошнім часам адкрыла шмат цікавых празаікаў, сярод якіх нямала і жанчын. І прыгожая палова чалавецтва ў галіне літаратуры адчувае сябе ўпэўнена. Аб гэтым сведчаць не толькі публікацыі на старонках самога часопіса, а і кніжкі, што выходзяць у яго "Бібліятэцы..." Дарэчы, "Проста ноч на дварэ" (яна стала лістападаўскім зборнікам) ужо чацвёртая "жаночая кніга" ў згаданай серыі за мінулы год. Аўтар гэтай кнігі Людміла Андзілеўка дагэтуль прайшла свайго роду творчую вучобу і ў самой "Маладосці", і ў "ЛіМе", "Вожыку", а таксама абласным друку, дзе друкаваліся яе першыя апавяданні і мініяцюры.**




**Нарадзілася Людміла Фёдараўна ў горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці. Скончыла Наваполацкае педагагічнае вучылішча, Беларускі універсітэт культуры. Працуе дырэктарам Падсвільскай музычнай школы на сваёй роднай Глыбоччыне. Як сведчыць у невялікім уступе галоўны рэдактар "Маладосці" Генрых Далідовіч, Л. Андзілеўка "шчодра і багата надзеленая ад прыроды як жаноцкасцю, так і талентамі. Не, тут няма агаворкі — талентамі... Яна — і музыкант, і мастак, і празаік".**

**І празаік не толькі таленавіты, а і з уменнем па-сапраўднаму назіраць жыццё, выбіраючы з паўсядзённасці арыгінальныя сюжэты, шукаючы сярод людзей тых, хто пазней і становіцца героямі твораў. Гэта найперш тычыцца апавяданняў, але і ў мініяцюрах пісьменніца таксама ідзе ад самога жыцця, пільна ўглядаючыся ў яго. Падобны падыход у пэўнай ступені выклікае небяспеку пісаць "як бачу". Дакументальная аснова можа скоўваць аўтара, не дазваляць яму пераходзіць да абагульненняў, а ў выніку атрымаецца простае фатаграфаванне рэчаіснасці. Аднак Л. Андзілеўка, разумеючы такую пагрозу, імкнецца ствараць тыповыя характары, якія хоць і маюць свае прататыпаў, але адначасова і вынік творчай фантазіі аўтара. Гэта, на маю думку, у першую чаргу тычыцца невялікіх апавяданняў "Дай, браток, закурыць", "Што ж ты зробіш?", "Як жывеш, бабулечка?" і іншых. Апошняе — споведзь бабулькі, якая на запытанне, што вынесена ў загаловак, шчыра прызнаецца: "Добра, саўсім добра!" А якое гэта "добра", і відаць з твора. Старая па-свойму прыстасавалася да абставін. Разумеючы, што ў вёсцы на дапамогу асабліва разлічваць не даводзіцца, сама клапоціцца аб сабе. Выстойваючы чэргі, купляе ў краме віно, каб потым абменьваць яго ў мясцовых алкаголікаў. У выніку "бартэру" неяк прыдбала нават слоічак мёду: "гэта ж ад жонак-дзяцей крадуць..."**

**У творы і сатыра на нашу рэчаіснасць, і прысутнічаюць элементы гумару, пра які звычайна кажуць: смех скрозь слёзы. Але ў апавяданнях Л. Андзілеўкі ёсць смех і іншага кшталту — здаровы, ачышчальны. Як, для прыкладу, у "Мамчынай дачушцы" ці "Ракавой жанчыне".**

**А поруч апавяданні — досыць псіхалагічныя, як "Пацалунак". Пераканаўчым атрымаўся вобраз галоўнага героя Марака, чалавека катэгарычнага, які ніколі не ідзе на кампрамісы.**

**Увайшлі ў кнігу і, кажучы словамі незабыўнага Барыса Сачанкі, "думкі ў россып" — "Карацей кажучы..." І хоць яны не аднолькавыя па мастацкіх вартасцях, сустракаюцца і выпадковыя запісы, якія не нясуць значнай нагрузкі (а тут бяда не адной Л. Андзілеўкі, а ці не ўсіх, хто піша "пад Брыля"), але і гэтым разам пісьменніцы не адмовіш у назіральнасці.**

**Лявон ЮРЧЫК**

КРЫТЫКА

# Верш як час

За сваё дастатковае паэтычнае жыццё Надзея Артымовіч з Бельска на Беласточчыне выдала каля пяці тоненькіх малафарматных зборнічкаў. З тых, што ёсць у мяне ці траплялі на вока — гэта "Роздумы" (1981г.), "Сезон у белых пейзажах" (1990 г.), "З неспакойных дарог" (1993 г.) і "Дзверы" (1994 г., сумесна з Алесем Разанавым)...

І вось нядаўна ў Любліне пабачыла свет своеасаблівае **выбранае** паэткі на дзвюх мовах — роднай і дзяржаўнай па месцы жыхарства. Што й казаць, кніжка "гжэчная" — і па аздобным афармленні і па мастацкім змесце. А зрабілі гэтыя падарунак аўтару мясцовы тэатр і міністэрства культуры Польшчы.

Артымовіч з тых творцаў, што найбольш пэўна адпавядаюць майму ўяўленню пра мастацтва: *мастацтва жыць і мастацтва тварыць...*

Калісьці мяне моцна ўразіла сваім творчым і жыццёвым лёсам (адзінота, беднасць, беспрытульнасць, пагарда "калегаў" па пяры) руская паэтка Ксеня Някрасава.

***Куда-то всё плывут, плывут***
***продольные дожди,***
***перед окном моим.***
***А на столе — цветы,***
***как млечные созвездья,***
***да стул один,***
***да рукопись в углу —***
***мои стихи***
***иль я сама —***
***одно и то же,***
***и только форма разная.***
***И все,***
***и больше ничего,***
***да сор еще***
***цветочный на полу.***

У гэтым сэнсе Артымовіч вельмі блізкая да яе — празрыстая як раса, і ў той жа час метафізічная, невытлумачальная. Яе кароткія, лаканічныя вершы надоўга заглыбляюць чытача ў сутнасць тых рэчаў, якімі яны на той час заклапочаныя.

Гадоў пяць таму назад Алесь Разанаў спрабаваў тлумачыць паэзію Артымовіч. Плёнам тых філасофскіх намаганняў стаў іх сумесны, вышэйзгаданы, паэтычны зборнік. Надзея, запрашаючы, адчыніла "*дзверы*" ў свой свет, Алесь, зайшоўшы, зачыню іх за сабою...

І усё ж чытач заўжды праніка туды, бо:

***нерухома стаяць***
***мае дні***
***шчыліны ў часе***
***усё большыя***

Бадай, адзінае, што выклікае пярэчанне ў новай кніжцы Надзеі Артымовіч, дык гэта яе назоў — ЛАГОДНЫ ЧАС. Калі мысліць сучаснымі эканамічнымі ці грамадска-палітычнымі катэгорыямі, то сапраўды, нават маючы на ўвазе Польшчу, час **не надта каб...** Аднак не трэба забываць, што ў паэтаў свае барометры. І тое, што выклікае ў чытача бунт плоці, паглынаецца натхнёнай душой паэта і скармліваецца творчасці. Таму высокая энергетыка і "**каларыйнасць**" кожнага *напрацаванага* слова выключае з паэтычнага кантэксту ўсе іншыя словы — другасныя і выпадковыя...

***у Бельску старая музыка***
***лагодны час — лета***
***забытая царква***

***дайсці да Першага слова малітвы***

Ад будзённага да ўзвышанага — усяго толькі тры крокі радкоў, і ПАЭТ змушаны іх прайсці, бо яго прызначэнне менавіта ўласнае зямное існаванне... І ўсё творчае гарэнне, уся пара натхнення затрачваецца на пераадоленне надзённага бытавання.

***поўдзень***
***а твой цягнік блукае ў тумане***
***вязеш стомлены час у кішэні***
***у зубах***
***шчыміць родны дом***

Адсутнасць пунктуацыі і своеасаблівы аўтарскі стыль, на мой погляд, гэта не столькі даніна заходнееўрапейскай паэтычнай мадэлі пісьма, колькі невыпадкова супалы з ёй творчы і жыццёвы стыль самой паэткі, якая між іншым не парывае і з духоўнай традыцыяй айчыннай літаратуры.

***мы так блізка сябе***
***як корань і зямля***
***хустка ночы прыкрыла наша***
***адно цела***
***адно маўчанне***

Дарэмная трата часу шукаць сярод беларускіх паэтэс нейкае творчае ці хоць бы лёсавае падабенства да Надзеі Артымовіч. І ўвогуле, ці жаночая гэта паэзія? У ёй няма ні дзявочай цнатлівасці, ні жаночай жарсці, ні мацярынскай спадчынна-родавай ахвярнасці...

***і раптам***
***ты ўбачыш***
***на халодным імху***
***сярод звугленага карэння***
***кветку***
***што адважылася***
***пазелянець***
***аблісцець***
***і дaспець...***

Падобнае светаадчуванне, такі чалавечы стан, з якім Надзея Артымовіч — як з туману — заявілася на парозе айчыннага краснага пісьменства, паступова ўсё ж робіцца свойскім і зразумелым. У яе з'яўляюцца не толькі прыхільнікі, але і паслядоўнікі, а апошнім часам і перайманьнікі... Ці гэта мне толькі здаецца? Бо нельга *пераняць* паэзію, нават пераняўшы самога паэта, як не можа паўтарыць тое, да чаго хочаш вярнуцца.

***вярнуцца хачу да нашай першай размовы***
***расхінуць мокры плашч слоў***

...Прашу прабачэння. У гэтым месцы я перарываўся, каб паглядзець тэлеперадачу па расійскім тэлебачанні пра Федэрыка Гарсія Лорку — *музычнага, тэатральнага* іспанскага паэта, пра яго каханку Ганну Марыю, родную сястру шырокавядомага мадэрновага мастака Сальвадора Далі. Аказваецца, яна адмовілася ад свайго экстравагантнага, супярэчлівага ў жыцці і ў творчасці, брата і да скону дзён сваіх захоўвала любоў і вернасць Гарсія Лорку, перажыўшы паэта ажно на пяцьдзесят гадоў...

Як ні парадаксальна гэта ў звязку з размовай пра паэтку Надзею Артымовіч, але змушаны сказаць, што яна нагадвае мне менавіта Ганну Марыю, хоць, здавалася б, вось гэтыя радкі Артымовіч нібыта "*спісаныя*" з самога Лоркі:

***з перасунутым горлам пад вецер***
***плыву на замкнуты востраў***
***пад музыку голых дрэў***

А, не — так было ў ранейшых выданнях, а ў "**выбраным**" вось як:

*Надзея Артымовіч, "Лагодны час", Lublin, 1998, Osrodek Brama Grodzka Teatr NN*

ЧАСОПІСЫ

# І не адступае памяць?..

Часопіс "Крыніца" вылучаецца ў шэрагу іншых выданняў. І найперш тым, што галоўныя чытачы "Крыніцы", як мне падаецца, усё ж тыя, хто і сам да літаратуры неабыякавы. Прынамсі, у гэтым сэнсе шмат даюць "персаналіі", калі на творчасць знакамітых пісьменнікаў, а таксама тых, хто, на жаль, пакуль вядомы мала (для прыкладу, так можна сказаць пра Юрку Віцьбіча, якога "Крыніца" прадстаўляла некалькі месяцаў назад), можна зірнуць з розных меркаванняў. Тут часопіс імкнецца да як мага большай аб'ектыўнасці, а ў сувязі з гэтым нельга не прыгадаць тыя нумары, у якіх гаворка ішла пра Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна, калі не абышлося і без даволі рэзкіх закідаў у адрас прызнаных майстроў. Да ўсяго "Крыніца" — гэта творы, якія ў іншых выданнях не прачытаеш. І не толькі культуралагічнага кшталту, а і творы паэзіі, прозы. Калі прыняць усё гэта пад увагу, дык лістападаўскі нумар "Крыніцы" за мінулы год якраз і пацвярджае правільнасць такіх высноў.

"Гераіня" нумара — Данута Бічэль. Змешчана гутарка з ёй. Пытанні задае Леанід Галубовіч. Тут жа па традыцыі — некалькі выказванняў пра творчасць слыннай паэткі, яе месца ў сучаснай літаратуры. Сваімі ўражаннямі дзеляцца Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Людміла Рублеўская, Алесь Марціновіч, той жа Леанід Галубовіч і Міхась Скобла. Разыходжанняў у ацэнцы творчасці Дануты Янаўны няма, усе са згаданых аўтараў ці не аднадушныя. І гэта тычыцца не толькі агульных меркаванняў аб напісаным ёй, а і адносна месца Д. Бічэль сярод іншых вядомых песняркаў Бацькаўшчыны. У прыватнасці, А. Марціновіч і М. Скобла ставяць у адзін шэраг Д. Бічэль і Ларысу Геніюш. Так, А. Марціновіч у артыкуле "Тутэйшая" сведчыць: "Словам "люблю" напоўнена ўся творчасць Д. Бічэль. І якую кнігу ні возьмеш, абавязкова скразным матывам праходзіць апяванне Беларусі і зямлі прынёманскай. У гэтым Данута Янаўна вельмі блізкая да сваёй знакамітай зямлячкі, якую вельмі паважала, Ларысы Геніюш. Нямала на нашай зямлі слаўных паэтэс, ды, калі гаварыць менавіта пра лёсавую ахвярнасць беларускасці, то найперш можна назваць іх — Ларысу Геніюш і Дануту Бічэль. Цудоўныя вершы пра Беларусь і пра беларусаў ёсць у многіх паэтэс, пачынаючы ад Цёткі і канчаючы тымі, хто вельмі плённа працуе ў паэзіі сёння, але далёка не кожны так мэтанакіравана, паслядоўна, год за годам, твор за творам, кніга за кнігай крочыць шляхам беларускасці, як гэта робіць Д. Бічэль". А гэта М. Скобла ("Вершапады з космасу самоты"): "З усіх наведвальнікаў хаты Ларысы Геніюш чамусьці толькі яе ўяўляю поруч з гаспадыняй. Сядзяць, гавораць пра Рагнеду, Максіма, Караткевіча, чытаюць вершы. Абедзве панавітыя, бескампрамісныя, незалежныя. "Жанчына са слёз" — гэта іншае, але больш стасуецца да другіх, астатніх..."

Не толькі цікава, але і карысна пазнаёміцца з меркаваннямі самой Д. Бічэль аб сучаснай паэзіі, літаратуры, грамадскім жыцці, што прагучалі ў час гутаркі з Л. Галубовічам. Хоць гэта не значыць, што цалкам можна з усім пагадзіцца. Ды ў рэшце рэшт, чым больш значны талент, тым часам ён больш катэгарычны ў ацэнках. А ў гэтай катэгарычнасці, як мне здаецца, незаўважна пярэчыць самой сабе. Такая нацяжка адчуваецца тады, калі Д. Бічэль закранае, няхай і мімаходзь, пытанні стасункаў розных літаратур. На яе думку, "Нам трэба як мага далей уцякаць ад расейскай літаратуры і не вучыцца ў іх. Тры стагоддзі нас прымушалі думаць па-расейску, а збаўлены застаўся той, хто невукам скончыў школу, думаў так, як навучыла яго маці, вёска, г. зн. па-тутэйшаму..." Але літаральна некалькімі радкамі вышэй ёсць такое меркаванне, калі Данута Янаўна разважае "пра Беластоцка-Гродзенскі бірэгіён": "Гісторыкі, краязнаўцы таксама ўзаемна маюць тут і там апанентаў. Выпускнікі гродзенскіх вучэльняў кіруюць на Беласточчыне харавымі калектывамі. Дойжысць прыкладаў і разважаць пра гэта можна бясконца". І тут жа: "Адзін Максім Багдановіч быў выключэннем з гэтага правіла, ён паехаў з бацькам у Яраслаўль і застаўся еўрапейскім паэтам". Але ж "еўрапейскім паэтам", відаць, дзякуючы таму, што не "Уцякаў ад расейскай літаратуры", а вучыўся ў яе!

Змястоўнай атрымалася паэтычная падборка Віктара Слінко. Гэта адзін з найбольш цікавых сённяшніх маладых паэтаў, але, на жаль, належным чынам не заўважаных і не ацэнены. Магчыма, і таму, што, у адрозненне ад некаторых іншых сваіх таварышаў па пяры, куды менш актыўны ў жаданні звярнуць на сябе ўвагу. Няхай не талентам, дык "грукатам". Але паэзія ці ёсць, ці яе няма, прысутнасць ці адсутнасць яе не залежыць ад самаўпэўненасці. А паэзія В. Слінко, як сведчыць падборка, — паэзія для душы, неабыякавай да прыгожага, душы, якой часам вельмі самотліва:

***ёсць зман гэты перадвячэрні***
***хісткая кладка паміж астравамі***
***і ўлада вечара над намі***
***і няма ў нас улады над самімі сабой***
***толькі крок які прывядзе да пустыні***
***нібы караван па рэчышчы высахлых рэк***
***ідзем — а куды адступае памяць***
***нібы вада?***
***быць ветрам які ў пустых рукавах кашулі***
***шукае далонь таго хто ідзе насустрач***
***табе***
***і дзічэе душа як кусты***
***у недагледжаным садзе***
***калі на мяне заяўляюць правы***
***мінулыя вёсны***
***але не адняць у мяне травы прыдарожнай***

Юрась Барысевіч ("Deus ex machina", што перакладаецца з лацінскай, як "Бог з машыны") разважае аб будучым чалавека і чалавецтва, адштурхоўваючыся ад найноўшых дасягненняў навукі. Уладзімір Арлоў, таксама па традыцыі, прадстаўляе аднаго з тых, хто вымушаны быў развітацца з Бацькаўшчынай ды назаўсёды захаваў у сэрцы любоў да Беларусі. Святаслаў Коўш Беларусь пакінуў у 1944 годзе, апынуўся на Нямеччыне, а ў

***з горлам падстаўленым пад вецер***
***плыву на зачынены востраў***
***пад музыку голых дрэў***

Горш, лепш? Цяжка сказаць. Мне здаецца, Артымовіч з тых аўтараў, якіх рэдагаваць небяспечна, нават сабе самой, сённяшняй — учарашнюю. Бо яна паэтка свайго адметнага часу, якая не прэтэндуе на вечнасць, а толькі на *свой* кароткі час для вечнасці.

***у сваіх кароткіх вершах***
***я нічога не гавару***
***я ніколі нічога не сказала нікому***
***я нямая***

***я не люблю эксперыментаў над чалавекам***

***я аналізавала кепскія сталічныя і правінцыйныя біяграфіі***
***і гладкія лісты да сваіх знаёмых***
***я крыху ведаю***

***мяне не хапае на сэнс маіх бацькоў***

***мяне амаль няма***

Тут парушана ўсё — метрыка, рытміка, логіка... і самое жыццё... Чалавек шукае сябе і — не знаходзіць, бо знутры не бачыць сябе самога вонкі... Калі ж здараецца, што ён сябе ўсё-ткі знаходзіць і пачынае шукаць сабе пэўнае месца ў пэўным кабінеце, прэзідыуме, на трыбуне ці трыумфальным подыуме — тады ўсё й канчаецца, а не наступае, як напачатку думалася.

***паэты паміраюць тады***
***калі першы раз***
***заблудзіць жывое слова***
***і разаб'ецца пшанічнае рэха***
***аб камень***

***паэты паміраюць тады***
***калі ўсміхаецца добры час для паперы***

***паэты паміраюць тады***
***калі знойдзены дакладныя адрасы***

***сытыя жэсты***

Не-не, "добры час" — гэта зусім не **лагодны час,** гэта той час, калі чалавек нарэшце сабой задавольваецца, страчвае таемнасць свайго жыцця і ўзамен паэтычнага томіка Басё гартае зацёрханы тэлефонны даведнік патрэбнага міністэрства альбо канторы...

Калі яму ўжо абсалютна непатрэбны

***адзін неабходны верш***
***як матчынае маўчанне***
***знямелы парог***
***верш як час***

Наколькі мне дазваляе меркаваць маё сціплае веданне польскай мовы, то і ў перакладах тэксты Надзеі Артымовіч захавалі адпаведныя арыгіналу гучанне і сэнс. Увогуле, не надта спадзеючыся на *доўгую тутэйшую памяць*, адразу ж падзякую нашым польскім сябрам, што, часам, і насуперак нашым рэаліям, намагаюцца *захоўваць жыццё* беларускай мовы і паэзіі. Балазе, там у іх, у цывілізаванай Еўропе, *смяротная кара* даўно ўжо не практыкуецца. А што канкрэтна да працы над кніжкай і ўласна перакладаў паэзіі Артымовіч, то да ўсяго гэтага спрычынілася таленавітае *тамашняе* панства ў асобах Тадэвуша Карабовіча, Бэаты Капій, Яна Леанчука, Фларыяна Няўважнага, Ежы Літвінюка ды Віктара Варашыльскага.

І ўжо зусім наастатак: заўжды, калі выдаецца "выбранае", то падводзіцца як бы выніковая рыса пад усёй творчасцю аўтара, а сам "*крытычны*" тэкст аблямоўваецца бліскучым панегірыкам і ўвязваецца банцікам дыфірамбаў...

Але не ў выпадку з Надзеяй Артымовіч — чалавекам неардынарным, а творцам непадробным і арыгінальным. Ды і выбралася то з напісанага — усяго сорак сем (47!) вершаў, лічы, па адным на кожны творчы год... Такая ж невялічкая "*итоговая*" кніжачка, памянёнай вышэй, Ксені Някрасавай. Мой алоўкавы "плюс з клічнікам" (а мо яшчэ Святланы Каробкінай, якая калісьці і падаравала мне гэты рарытэтны зборнічак, дарэчы, таксама выбітная, але "*бесхозная*" паэтка нашай літаратуры) стаіць на вершы "Утро":

***Я завершила мысль,***
***вместив ее в три слова.***
***Слова, как лепестки***
***общипанных ромашек,***
***еще трепещут на столе.***
***Довольная,***
***я вытерла перо***
***и голову от строк приподняла.***
***В подвал упали из окна***
***концы лучей***
***от утреннего солнца...***

Такім мне **бачыцца** і кожны верш Надзеі Артымовіч, ён, быццам кубачак кавы ў вулічнай кавярні пад блакітам бельскага неба, — хвалюе розум і ўзбуджае пачуцці, а, урэшце, — і цвярэзіць, і супакойвае ўсіх, хто прыгубіў...

***калі любіш паэзію***
***маўчы, не гавары нікому***

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

---

1949 годзе пераехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Ёсць мажлівасць на старонках "Крыніцы" пазнаёміцца з успамінамі С. Каўша "Беларускі лагер у Ватэнштэце". Да ўсяго С. Коўш з'яўляецца і аўтарам кнігі балад і мастацкай прозы "Русалчына балада". Канешне, таго, што ў гады другой сусветнай вайны ён працаваў у акупацыйнай адміністрацыі, не аспрэчыш, але ў дадзеным выпадку гаворка пра С. Каўша-публіцыста і пісьменніка і ягоныя ўспаміны, сумневу няма, маюць гісторыка-пазнавальнае значэнне, асабліва калі гэта тычыцца лепшага ведання жыцця беларускай эміграцыі ў першыя пасляваенныя гады.

А з пісьменнікаў далёкага замежжа гасцямі "Крыніцы" з'яўляюцца Гунтрам Фэспэр і Фрыдрых Дзюрэнмат. Абодва знакамітыя творцы. Праўда, Г. Фэспэр на Беларусі не сказаць каб быў добра вядомы. Таму публікацыя яго падборкі "Пра Фробург і пра сябе" і вершаў (адпаведна ў перакладах Галіны Міхалюк і Алеся Разанава) — у пэўнай ступені і адкрыццё арыгінальнага творцы. Да ўсяго Дзірк Браўнс, які разам з Г. Фэспэрам мінулагодняй восенню наведаў Беларусь, дзеліцца ўражаннямі ад гэтай паездкі ў нарысе "Прыгожая хворая краіна". А вось Ф. Дзюрэнмата наўрад ці трэба асабліва прадстаўляць. "Крыніца" знаёміць з малавядомым на Беларусі Ф. Дзюрэнматам — В. Сёмуха пераклаў яго крымінальны твор "Аварыя".

Чытача чакае знаёмства з двума матэрыяламі пра Валерыя Маракова — паэта, які стаў адной з ахвяр сталінізму. Пляменнік яго Леанід Маракоў прапанаваў рэдакцыі скарочаны варыянт артыкула пра В. Маракова, напісанага Алесем Кучарам і апублікаванага ў сёмым нумары "Маладняка" за 1929 год. Ацэнкі больш-менш аб'ектыўныя, але поруч — іншы "артыкул", іншая "рэцэнзія". А. Кучар выступае ў ролі палітычнага даносчыка. Калі В. Маракоў быў арыштаваны, НКУС запатрабаваў з Саюза пісьменнікаў БССР на яго характарыстыку, якую тагачасны старшыня творчага саюза і прапанаваў напісаць А. Кучару. Гэты "другі" А. Кучар пастараўся зрабіць з В. Маракова яшчэ аднаго "ворага народа".

Гэта таксама трэба ведаць, бо і гэта гісторыя. Літаратуры, краіны...

**Антось НІЧЫПАРУК**

---

КНІГАПІС

# Сур'ёзныя жарты

Тамару Барадзёнак я ведаю па нашых літаратурных сустрэчах, сачу за яе творчасцю. Піша яна і вершы (добры рэзананс атрымаў зборнік "А я люблю..."), і прозу. Піша досыць упэўнена, з кожным творам усё больш прафесійна, піша, ідучы ад жыцця.

Трошкі з апасеннем разгарнуў яе новы зборнік "І жартам, і ўсур'ёз", выдадзены напрыканцы мінулага года. Чаму? Бо на гэты раз Тамара замахнулася на такі складаны жанр, як байкі і гумарэскі ў вершах, хоць, зрэшты, і да гэтага яе гумарэскі друкаваліся ў часопісе "Вожык". Але апасаўся я дарма. Талент гумарыста ў аўтаркі безумоўна ёсць. Байкі Т. Барадзёнак "сюжэтна" новыя і "дыхаюць" сучаснасцю.

Трэба зазначыць, што знаёмыя здаўна персанажы баек — тыя ж Кот, Варона, Ліса, Воўк — выступаюць тут зусім у новых ролях і сітуацыях. Так, Воўк, напрыклад, стаў... рэкеціpам, Авадзень — багатым лавеласам, Сабака — аўтаінспектарам. І Т. Барадзёнак даволі ярка абмалёўвае вобразы герояў сваіх твораў. У байцы "Закон у дзеянні" Сабака-паставы смела і рашуча дзейнічае супраць звычайных парушальнікаў правілаў дарожнага руху — такіх, як Заяц. Але вось да Янота, уладальніка "Вольвы", адносіны ў яго зусім іншыя. Ці ўзяць Каня з байкі "Разлік за грахі". Конь-працаўнік хоць і шмат робіць — "доля не мёд", затое засынае заўсёды спакойна. А рэкецір Воўк хоць і насміхаецца з Каня, ды ўсё ж калоціцца за сваю скуру.

У байках высмейваюцца злодзеі, плеткары, трутні, дыпламаваныя невукі, усё тое, што замінала і замінае жыць сумленнаму чалавеку.

З сапраўдным пачуццём гумару напісаны і гумарэскі. Дзеля пацвярджэння гэтага працытую хоць бы такія радкі:

***Гэта ж зенкі твае лопні —***
***Сам не знае, што дзяўбе:***
***Ці ж я ў жыта? У каноплі***
***Прыбягала да цябе.***

*("Памыліўся")*

Т. Барадзёнак няблага валодае родным словам. Ды ўсё ж хай зямлячка пазбягае рускіх калек, бо гэта псуе, калечыць некаторыя радкі, а то і творы цалкам.

**Уладзімір САУЛІЧ**

---

АЛЬФАБЭТА

Наша газета, як і ўсе літаратурныя выданні, стараецца прадстаўляць панараму сучаснай літаратуры ва ўсёй паўнаце — даваць слова прадстаўнікам розных пакаленняў, знаёміць з рознымі плынямі, жанрамі. Рэгулярна з'яўляюцца на нашых старонках дэбютныя публікацыі маладых творцаў. Але ў сілу сваёй спецыфікі выданне ўсё-ткі больш разлічана на прафесіяналаў. А між тым хацелася б, асабліва ў сённяшняй складанай для беларускай культуры сітуацыі, знаёміць чытача не толькі з прызнанымі майстрамі, але і з тымі, хто толькі на падыходзе да Вялікай Літаратуры. Але менавіта ён, пачынаючы творца, мацуе падмурак **беларускай** культуры, менавіта ён будзе ствараць яе заўтра. Думаецца, што знаёмства са шматлікай — усё-ткі шматлікай! — кагортай здольных пачаткоўцаў, што выяўляюць сябе ў рэчышчы беларускай культуры, засведчыць, што ў будучыню беларушчыны трэба глядзець з надзеяй. Для гэтага і задуманая рубрыка "Альфабэта".

Рубрыка "Альфабэта" распачынаецца якраз тады, калі толькі што скончыў сваю работу семінар маладых літаратараў у Доме творчасці пісьменнікаў "Іслач". Такое супадзенне невыпадковае. Як невыпадковае і тое, што гасцей рубрыкі будзе прадстаўляць сёлетні лаўрэат прэміі ў галіне крытыкі сярод маладых літаратараў, заснаванай Камітэтам па друку і Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Наталля Кузьміч. Яна сёння прадстаўляе ў рубрыцы "Альфабэта" лаўрэата літаратурнага конкурсу "Дэбют" **Ярыну Дашыну.**



Наталля Кузьміч нарадзілася ў г. п. Воранава Гродзенскай вобласці ў 1975 г. У 1997 г. скончыла філалагічны факультэт БДУ і паступіла ў аспірантуру. Працуе ў часопісе "Першацвет" рэдактарам аддзела крытыкі. На старонках "ЛіМа" неаднаразова з'яўляліся яе публікацыі.

# Па следзе бліскавіцы

У Ярыны Дашынай, маладой паэткі, ёсць нізка вершаў пад назвай "Згадкі дзяцінства" ("Першацвет", N 4, 1998). Здаецца, някідка і будзённа. Але вось першы радок — і пякучы дотык да нечага незвычайнага, але блізкага і зразумелага сэрцу, — да паэзіі:

***Сонца — гняздом на бярозе***
***Вокны запальваюць вечар,***
***і на суседнім ганку***
***злізвае кацянятка***
***з чырвонага неба смятанку.***

Міжволі ўзнікаюць асацыяцыі з малюнкамі, якія запалі ў памяць з дзяцінства. Жнівеньскі вечар, высокае зорнае неба над галавой дыхае цяплом. Раптам на далёкім гарызонце ўспыхне бліскавіца. Яна боязна-сарамліва ўсміхнецца і нечакана недзе згарыць. А дзе? І дагэтуль не магу даць адказу. А тады здавалася, што яе след заблукаў ці то ў высокім жыце за весніцамі, ці то ў роснай траве на лугах за Прыпяццю...

Такімі ж загадкамі, якія хвалююць і выклікаюць роздум, багата паэзія Ярыны Дашынай. Яна ўмее ўзірацца ў будзённыя праявы жыцця, па-мастацку асэнсоўваць і падаваць іх.

У вершах шмат фарбаў, з іх сатканы паэтычны свет Ярыны, у якім галоўнае — замілаванасць жыццём ва ўсіх яго праявах. І светлых, і горкіх. Напрыклад, у вершы "Там лістапад на двары...":

***Позняя восень, і ўсё ж***
***тая, што з вамі пайшла,***
***зоркай згарыць уначы.***
***Моўчкі замкнецца душа,***
***А я — загубіла ключы.***

Уражваюць цнатлівай чысцінёй радкі ў вершы "Радзіме". Тут няма гучных клятваў. Паэтка знайшла выяўленчыя сродкі, каб выказацца па-свойму:

***Ты — усмешка матулі маёй...***
***Ты — як зорка, што з цёмнай начы***
***прыляцела іскрынкай...***

У вершах Ярыны Дашынай шмат незвычайнага: можна пехам ісці за сонцам, паваражыць разам з восенню над Бугам, перажыць смутак неразздзеленага кахання, — словам, спазнаваць складаныя праявы чалавечага жыцця. А мяне асабіста, калі чытаю яе новыя вершы, не пакідае даўняе спадзяванне: а раптам — хоць на імгненне — адкрыецца загадка: дзе ж згарае след бліскавіцы, што сарамліва ўспыхвае ў жніўні на высокім цёплым небе? Бо веру: усё падуладна метафары, якую нястомна шукаюць паэты, каб адкрываць у мастацкім слове таямніцы гэтага свету.

**Наталля КУЗЬМІЧ**



*Ярына Дашына (Ірына Дашына) нарадзілася ў 1978г. у в. Клейнікі Брэсцкага раёна. Вучыцца на 3 курсе філалагічнага факультэта Брэсцкага універсітэта. Друкавалася ў абласных выданнях, "ЛіМе", "Першацвеце". З 1994 г. — сябар паэтычнай студыі "Спадчына", якой кіруе М. Пракаповіч. У 1998 годзе Ярына Дашына заняла ІІ месца ў конкурсе, "Ажыццяўленне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека на Беларусі". У тым жа годзе заняла І месца ў рэспубліканскім конкурсе маладых літаратараў "Дэбют" (прыз імя Яўгеніі Янішчыц).*

## Ярына ДАШЫНА

●

***Там ранак замгліцца святлом,***
***І ціхі бусліны клёкат***
***Раскрышыць над сонным сялом***
***Мяжу нерухомых аблокаў.***
***Між небам і між зямлёй,***
***Як між чалавекам і Богам***
***Нястомнай, халоднай тугой***
***Так многа і так нямнога.***
***Я буду дзяцінства сніць,***
***Таполяў пух срэбна-белы...***
***Я столькі павінна зрабіць***
***І столькі ўжо не паспела.***

●

***Яблыні квітнеюць, белыя пялёсткі***
***У садзе, за ракою, на ўскрайку вёскі.***
***І п'янкім паветрам агарнула цнота***
***Сонейка сядае за суседскім плотам.***
***Тоненькія промні прабягуць па небе***
***Разальюцца ў рэчцы ружаватым срэбрам.***
***А на вёску ляжа змрок агністай ночы***
***І цвыркун жалобна недзе зацвыркоча.***

●

***Варажыла восень над Бугам,***
***Жаўталісце мяла спадніцай.***
***Жураўы развітальным кругам***
***Над самотнай плылі капліцай.***

***Трапяткая пані-бяроза***
***Каля плоту кагосьці чакала...***
***Проста я ішла па дарозе***
***І зусім цябе не шукала.***

***Проста сёння ў начы над рэчкай***
***Месяц зноў за цябе маліўся.***
***Ты казаў, што не бачыў лепшай...***
***Можа, ты памыліўся?***

●

***Памаўчы — пустыя словы...***
***Што ж, такая ў вёсцы ціша***
***Непатрэбны мне абновы,***
***Хоць сукенка з моды выйшла.***

***І не вер — пляткараць хлусы,***
***Што ля брамкі хлопец іншы,***
***Што мае палалі вусны***
***На світанку, быццам вішні,***

***І што ходзіць зухавата***
***Ён з гармонікам вясёлым...***
***Не вядзі мяне да хаты,***
***Памаўчы — пустыя словы...***

## "Яшчэ да Евы я жыла..."

**Не абыходзіць увагай часопіс "Маладосць" і жанчын-паэтэс. Таксама ахвотна прадстаўляе ім і свае старонкі і месца ў "Бібліятэцы...". Кніга вершаў Аліны Легастаевай "Яшчэ да Евы я жыла..." стала ў гэтай серыі снежаньскай. А. Легастаева, як і Л. Андзілеўка, родам з Віцебшчыны. Нарадзілася яна ў Пастаўскім раёне, у вёсцы Верацеі. Скончыла Крулеўшчынскую сярэднюю школу, Віцебскі педагагічны інстытут. Больш дваццаці гадоў жыла ў Літве, працавала і на БАМе, а ў 1992 годзе вярнулася на родную Беларусь. Цяпер жыве ў Лагойску...**

**Пэўныя моманты аўтабіяграфічнасці ўгадваюцца і ў характары лірычнай гераіні паэтэсы, якая, у прыватнасці, зазначае: "А хто я такая? З якога я краю? Ад мовы ад рускай. Сама беларуска. Быў парабкам бацька У польскага пана. Матуля у хлопца Была закахана..." Ці ў іншым вершы: "Не забылася мову, Як родную хату, Хоць і рэдка дадому Прыязджала... На святы".**

**Вяртанне на радзіму для А. Легастаевай і яе гераіні — найперш вяртанне да вытокаў, да мовы. Але абсягі зборніка "Яшчэ да Евы я жыла..." не абмяжоўваюцца гэтай тэматыкай, хоць яна і займае вялікае месца. Аб шырыні аўтарскіх памкненняў відаць і з назвы кнігі. А. Легастаева глядзіць на жанчыну на перакрыжаванні розных эпох:**




*Яшчэ да Евы я жыла —*
*Жанчынай,*
*Птушкай,*
*Знічкай.*
*І не упершыню прайшла*
*Далечынёй касмічнай.*

**Але лірычная гераіня А. Легастаевай у многім, як і ўсе жанчыны. Яна жыве і кахае, шукае шчасце і ў нечым расчароўваецца, штосьці страчвае і разам з тым і спадзяецца, што самае лепшае наперадзе.**

**Роздумнасць асобных вершаў — гэта заглыбленне найперш у самую сябе. Яна з'яўляецца як патрэба разабрацца ў каштоўнасцях сапраўдных і ўяўных, як неабходнасць ачысціцца ад друзу паўсядзённасці, каб стаць лепшай, дабрэйшай, вартай увагі таго, каго любіш, на каго спадзяешся. У творах пра каханне ў нечым угадваюцца і знаёмыя матывы, але разам з тым гэта сваё, у многім перажытае, выпакутаванае, пераасэнсаванае:**

*Ты пацалунак слаў да вуснаў,*
*Да сэрца рукі прыкладаў,*
*А позірк быў такі спакусны,*
*Такім глядзеў калісь Адам*
*На Еву. Вочы грэх хавалі,*
*Шапталі ў кветках матылі,*
*І нашы душы, як дзве хвалі,*
*У нябёсы дымныя плылі.*

**Падобныя вершы не пакідаюць абыякавым, хоць, трэба прызнацца, яны для настрою. Для таго імгнення, калі і над сваім жыццём задумваешся. Правільней нават сказаць: над жыццём увогуле. Над яго хуткаплыннасцю і нярэдка непрадказальнасцю, над пэўнай выпадковасцю ўсяго, што адбываецца, і ў той жа час заканамернасцю, бо ўсё, што ні робіцца і што ні адбываецца, абавязкова мае нейкую першапрычыну. Іншая справа, што яе не заўсёды ўдаецца знайсці і адчуць.**

**Прыведзеных твораў дастаткова, каб упэўніцца, што кніжка А. Легастаевай не пройдзе незаўважанай у чытача, які пасапраўднаму любіць паэзію.**

**Лявон ЮРЧЫК**

ПАЭЗІЯ

Уладзімір МАЗГО



# Калі палае зарапад

## Бацькоўская хата

*Стаіць пад вярбою старэнькі дамок —*
*Маленства далёкага хата.*
*Цячэ малаком над страхою дымок.*
*Гляджу і маўчу вінавата.*

*Няма тут вясёлых і добрых бацькоў,*
*Ніхто не чакае у госці.*
*Але я вярнуўся, але я прыйшоў*
*На ганак сваёй маладосці.*

*Тут людзі чужыя сягоння жывуць,*
*І, можа, зусім неблагія.*
*Але не чакаюць, але не завуць.*
*Навошта мая настальгія?..*

*Кранула мне сэрца нямая бяда*
*Дакорам: як доўга ты ходзіш!..*
*І нават вады ані кроплі не даў*
*Стары і забыты калодзеж.*

*Стаіць пад вярбою хаціна бацькоў —*
*Маленства далёкага хата.*
*І толькі ніколі не выйдуць ізноў*
*На ганак матуля і тата...*

●

*Спрадвеку*
*Хвалююць пытанні:*
*Што будзе на свеце*
*Пасля?..*
*Ці Ноеў Каўчэг,*
*Ці "Тытанік" —*
*У моры сусвету*
*Зямля?..*

●

*Канчаецца,*
*канчаецца стагоддзе...*
*І нешта*
*незваротна адыходзіць.*
*А нехта*
*ўжо не вернецца назад*
*Юнацкімі слядамі*
*ля прысад.*
*Канчаецца,*
*канчаецца стагоддзе.*
*І шмат чаго*
*наблытана ў прыродзе,*
*Калі амаль штодня —*
*то плюс,*
*то мінус.*
*Калі —*
*то эпідэмія,*
*то вірус...*
*Канчаецца,*
*канчаецца стагоддзе...*
*І мы,*
*нібы ў падземным пераходзе,*
*У дзень наступны*
*хочам зазірнуць,*
*Дабро — сустрэць,*
*а ліха — абмінуць.*
*Канчаецца,*
*канчаецца стагоддзе...*
*І нешта*
*незваротна адыходзіць.*

●

*Халодны вецер*
*І пясок сыры*
*У забыцці*
*Паціху ападаюць*
*На замкаў*
*Утравелыя муры,*
*Якія нам*
*Так многа нагадаюць.*

*Якія тут*
*Дазволяць памаўчаць*
*І ў цішыні абуджанай*
*Паслухаць,*
*Як камяні спрадвечныя*
*Гучаць*
*Нямою і бязлітаснаю*
*Скрухай.*

## Зарапад

*А твой пагляд,*
*Як далягляд,*
*Святлом сагрэе на спатканні,*
*Калі пачнецца зарапад —*
*Пара загадваць жаданні.*

*Калі палае зарапад —*
*Аб самым светлым прыгадаю,*
*Як мы блукалі ля прысад:*
*Я — малады,*
*Ты — маладая...*

*А зоркі падаюць з нябёс*
*У хвалі шчасця*
*І адчаю.*
*І, можа,*
*Наш далейшы лёс*
*Яны сягоння вызначаюць.*

*Калі пазбегнуць нельга страт,*
*Ты загадай адно жаданне:*
*Хай дапаможа зарапад*
*Нам зберагчы сваё каханне...*

●

*Я любові агонь запалю*
*І пагаснуць ніколі не дам,*
*Бо кахаю цябе,*
*Бо люблю,*
*А за што —*
*Я не ведаю сам.*

*І калі набліжаецца ноч,*
*І калі аддаляецца дзень —*
*Светлячкі зачараваных воч*
*Ахінуць цеплынёю надзей.*

*Мы забудзем і крыўды,*
*І боль,*
*Мы згарым у каханні датла,*
*Толькі ты — светлячок мой —*
*Дазволь*
*Дакрануцца душой да святла.*

*І табе я, нібы чарадзей,*
*Падару гэту зорную ноч.*
*Ахінуць цеплынёю надзей*
*Светлячкі зачараваных воч.*



*Фота Ул. САПАГОВА*



"ІДЗІ, ПРЫБІРАЙ, сустракай... вунь ужо радня мая збіраецца..." — сказаў Пётра да жонкі. Пётрыха зірнула ў вакно — ні на панадворку, ні на вуліцы анікога. Здагадалася: адыходзіць... У такі час мёртвыя прыходзяць у госці. Утрапеўшы, адчула празрысты ад гневу позірк свекрыві, — ніколі не ўдавалася ўгадзіць ёй пры жыцці, — кінулася падмятаць падлогу.

Прыехалі на пахаванне з горада дочкі, сын з унукамі. Сярэдні Лешак у хату не пайшоў і начаваў у суседзяў. Пабраў малых за рукі, чарадой падняліся, ідуць з дварышча. На вуліцы ізноў заварочваюцца, вяртаюцца, быццам пудзіць іх нехта, не дае асесці, як вераб'ям. Лешак адлучаецца, ідзе да лесу, да ракі, потым да старэйшай Алі — і за работу. І кашы ёй носіць з паранкай, і так усё чыста робіць — вось яму ўжо і паратунак, дарослы паратунак на гэтым свеце, як на млыне, удвух ужо круцяць цяжкія, нясцерпныя дзедавы жорны. Маладзенькая Аля ў куфайцы, туга перавязана галава белай хусткай, па-бабску, адскочылася якраз на тую адлегласць ад гора ў сям'і, на якой толькі сілы хапае, нараву ўхапіць з бабіных рук упушчаную работу.

Дзень ясны, кожная краска зайграла, заблішчэла астатнім святлом. Восень як з зямлі паднялася, з хворай пасцелі, на локцях крыху затрымалася, на адзін дзень, назаўтра ізноў адкінула голаў вунь на той пагорак каля лесу, шморгнула фіранкай — і зноў ні зіма, ні лета. Апоўдні малыя быццам абвыкліся з навіной і ўжо весялей брыдалі па гразі, бувалі конаўкі, папісквалі, трапіўшы на глыбокае. Зводдаль паглядзілі на хату.

Там пэўна ж печ не цеплілася.

Ішлі бабы. Янька Ласёва наперадзе. Альжбета, Стэпка. Янька дык неяк стаіўшыся, сціснуўшы ў зложаных пад грудзьмі руках сваю заўсёдную весялосць, бы ад холаду — рукаво ў рукаво. Альжбета цяжкая, сырая ад хвароб розных, ледзь калывалася на дарозе, але давала сабе рады. Ніколі ні перад чым не выслугоўваецца, твар заўсёды спакойны, вусны скарыначкай. Стэпка цыбатая, ідзе, бы гілюе, пужліва аглядаецца па баках, здаецца, зараз нечага спужаецца і паляціць у поле, высока падкідваючы запяткамі. Лобам наперад, сілком сябе стрымліваючы, каб жа чаго лішняга не сказаць, каго не адпэйтаць, успомніўшы пазалеташні снег. Надта ахвочая і да слёз і да гвалту.

Яшчэ ішлі бабы, вяртаючыся з бульбы дамоў. Адна крэпка збітая, не ўкалупнеш, цэлы дзень была нахіліўшыся, вочы назызшы, сплюснутыя, як у той бульбы-сямянкі. Спыніліся напроці хаты, адна з іх адышлася на крок, стала шырока, шырока паглядзела на сялібу, узіраючыся ў твар гаспадара: а што пакінуў, а ці ёсць тут упраўка мужчынская. Аля ўжо выбірае, чысціць моркву, роўненька выкладае хвост да хваста, наўмысна пільнуецца парадку, каб не падняць галавы, каб нічога не бачыць, акрамя работы. Лешак ізноў пайшоў круга, рукі чапляліся то за тое, то за гэта, мые нешта каля студні, потым ліе малако з гарнушка кату ці сабаку, каб нікога не пакрыўдзіць у гэты дзень, хто сам да стала не падыходзіць. Жывая ягоная душа ўвесь час палохалася абыдзеннасці. І малыя адцураліся хаты. Ніхто не згадаўся іх, гарадскіх, пазваць да сябе, пасадзіць на лаве каля дзеда — ну, баяцца, дзічацца, то і хай сабе, маўляў, і не трэба.

Ішла і Ганна, у блакітным свэдры, і хустка да колеру падабраная. Ганна прыціскала свае гады. Нешта ўсё лап-лап каля паясніцы, бы не даючы сабе даверу, што зняла фартух. Бліск-бліск па вокнах, не ўпэўнена, ці трэба ёй туды ісці, бо там можа сустрэцца з Янькай. Ганак высокі. Узыходзяць на яго, абапіраючыся на калена, не мяняючы нагу, як прыкульгваючы. Вось і сышліся, і Янька з Пётрыхай, і Ганна з Янькай. І кожная праз мужыка пасварыўшыся. І не перагаворацца каля труны. Бо канчаюцца, бабкі, нашыя маладыя дзялы, ужо нашыя мужыкі, равеснікі, у зямлю кладуцца. Сышліся і толькі тут усё здалося такім далёкім, як праз вакно пабачанае — і слёзы, і людская гаворка. Смерць і на тым свеце іх суберыць — на адных жа могілках ляжаць, — але, пэўна, ужо смаку такога там не будзе, як без солі ўсё роўна.

Сышліся бабы каля Пётры, калі сон ягоны яшчэ не набраў моцы.

Пётрыха ў халаце фланелевым, пан-

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# СВЕТ ВЯЧЭРНІ



АПАВЯДАННЕ

топлі на босую нагу, на галаве чорны карункавы шалік. Як перад невялічкім люстэркам вясковым — толькі твар відзён, а так усё на ёй будзённае. Жалоба ўжо тая і знасілася на сабе — даўно Пётра хварэў, во толькі шалік гэты не завязвала, свежы. Стаіць, трымае ў руках свечку, няўцямна разламала на тры канцы, злажыла, раўнуе, як пальчыкі. Адзін канчык — Пётра, другі — яна сама, а паміж імі — Янька. І каля труны яна паміж імі. Не аббегчы полем, лесам, каб размінуцца, як было неаднойчы... Ёсць мужыкі, што і жонцы харош, і палюбоўніцы харош. А то ж як вернецца ад Янькі, у сям'і месца няма. Калі дзеці былі малыя, то хоць усміхнешся, а так бы і не засмяялася ніколі. А Янька ходзіць каля ракі, спяваючы. Голас ціхі, быццам не звадлівы, нікому не хочацца далучацца — сама сябе вяселіць. З'юхцішся за работай, спадніцу здымеш — і пранікам, пранікам на рацэ. Не адбяліць твару, не адмаладзіць гады, вада выслізгвае з рук яшчаркай па каменні, хаваецца ў траве. І рака ў той бок ішла, дзе Яньчына хата. Пранікам па спадніцы, па Яньчыным голасе. Выцінаецца ейная песня і з-пад каменя ляжачага, у хату вернешся — і там звініць. Вокны толькі бразь! — ціха, нарэшце. Голасам вады, голасам ветру, зыкам летняга поўдня — хто з мужчын не дабяжыць ноччу, то хоць побач пастаіць, як пад ліпай цвітучай. Яшчэ ж і яна да вакна шыць не садзілася. А на свет ужо глядзела толькі праз шыбу, ні з кім не загаворваючы, ні да кога не дакранаючыся. Калі якую работу рабіла на панадворку, спіной да вуліцы адварочвалася. Гадамі ў хаце моўчкі жылі, Пётру слова да яе сказаць цяжэй, чым стог сена на сабе перанесці. А Янька гуляе круга сябе рукамі, ідучы па вёсцы: "Быў у мяне ды любы госцічак!" — пяе сама да сябе і на людзях. Біцца Пётра кідаўся. Крыжам падымала перад сабой малое дзіця, баранілася. Было, што два тыдні хадзіла чорная. І яна б Яньцы нешта зрабіла, каб у сабачую скуру ўбралася. Толькі хрась! — засекла курыцу, тая збадзялася, стала несціся ў суседзяў. І яна ўпрочкі?! Лягчэй стала, грэх сказаць, калі Пётру аблажыла хвароба. "Калі будзем моркву рваць? Чаму буракі не зносіш у склеп?" — запытаецца з ложка. Вой, якія гэта ёй палюбоўныя словы... Цяпер хай Янька пазнае. Людзі дзівяцца, дазнаўшыся, што ейны Лось начуе ў Ганны праз раку. А яна ходзіць і маўчыць: за яе адбывае кару. Вернецца, вернецца, усё благое чалавеку вяртаецца, добра ведае...

Янька стаіць насупраць. Бровы чорныя, хустка юлёвая пялёсткамі — захаладалы цвет, самы ранні, вясновы — увесь век адным строем. Сыходзіліся на ёй у старой вёсцы ўсе бабскія пакуты. А можа, ёй і не шкодзіць такая жызня? А можа, такім бабам і такія мужыкі? І Лось на гэтай жа, на аднолькавай з ёй вадзе замешаны? І праўда, Янька мірылася напачатку, маўляў, няхай ходзіць да Ганны, але ж і дамоў вяртаецца, работу робіць. "Мне яго швагра ўкінуў у хату, так і пажаніліся", — скажа смеючыся. Толькі голас ейны мяняўся. Што ні робіць, усё спявае. Ды раптам ускрыкнула, паддала сабе рызыкі:

***Распракляты салавей,***
***То на ліпу, то на ель.***
***Распрыдурак мілы мой,***
***То з падругай, то са мной.***

Ускрыкнула са стогнам — усім адкрылася ейнае балючае. Каторы год Лось начуе праз раку ў Ганны, а ёй усё быццам спяваецца. Не, не звыклася яна, яшчэ гэтая болька падае на голас, свежае яно, маладое: хочаш — у песню, хочаш — у прыпеўку. І не сорамам бабскім, а быццам дзеўку на вечарынах кінулі. Можа, тады толькі бабы пазналі, што і Янька не сучка.

Ганна, хоць і старэйшая за ўсіх, але хустку на галаву завяжа толькі за вёскай, ідучы ў грыбы. Ды во сюды, да Пётры. Стаіць каторая баба побач з ёй і збочыць казырысты позірк, бо век людзям навіна, век смешкі, вясёлае яно, калі баба гуляе. Вясёлае?! А як той Лось пад ейным плотам ляжыць дзень п'яны? А то паставіць каня (падвозчыкам на ферме робіць) і пайшоў у хату, конь усю ночку чакае, усе бачаць, і ты сама, здаецца, як на выгане з ім ляжыш і галаву некуды схаваць? Вясёлае? А смачна з'есці любіць! А выпіць каб было! Мая ты Янечка, ці ты мне выгадавала свайго маладзёначка? Ці ты яго вышанавала? Збадзяны, скачаны прыязджае, храпы ў змылінах, зарос мохам, поўсцю. Мэнчышся ты, мэнчуся і я! П'яніцу дзелім. Нікому не завідна, не зайздросна — адныя смешкі. Увесь бражны, потны, у руках трэба качаць ягонае прычындалле, калі ноччу прыхінецца... У дзеўках долі не было. Дзяўчаты за кавалерамі, за мужыкамі, а мае на вайне пабітыя. Маладыя падняліся — ужо мая пара сышла. Дадуць каня ў калгасе, а дзе ж чалавека да яго ўзяць? І кашу і барануюю сама. Здарыцца, мужык прыйдзе ў хату, паможа ці не, то і бяды, бо ты без мужа... Чаму ж не, бывае, што і Лось дроў прывязе, і гной вывезе на поле, мужчынская работа быццам і робіцца. Асядае на дно ганьба — нясеш есці, ходзіш лёгка. Выдаецца, што яно ўсё так, як і трэба. Бо хочацца не тое каб спаць удвух, а захінуцца за каго-небудзь. Усё ж нейкая і мне заслона... нясу, мая ты Янечка, перад сабой па вёсцы гэтую любоў, нясу, як дзіця, прыдбанае на баку, бахура. І ніколі ж яно ў пер'е не ўбярэцца, бо не ажэніцца на мне Лось, не зраўнуе ўсе плёткі, усе гаворкі, будзе хадзіць, брыдаць — ні мне, ні табе. І ніхто з людцаў не прывыкне, убачыўшы, як ягоны конь стаіць каля майго плота. Што сліна нясе, тое губа трасе.

Чуліся іхнія галасы толькі, можа, Пётру, а так ціхі шчэбет стаяў у хаце, слабка трашчаў агонь свечак, бы сухое скрылле злоўленага матыля.

Позняе каханне, як неспадзяванае летняе разводдзе пасля начнога ліўня, пасля начнога плачу. Вада ў рацэ мутная, як слёзы, па кроплі сабраная. Размыты дарогі, знесены кладкі, а ні следу, бы і не было дагэтуль жыцця твайго, любові іншай, толькі вось гэтае — сённяшнім днём. А ўсе спыніліся і глядзяць на ейныя берагі — бяда, маўляў, шкоды наroблена. І ніхто не прызнаецца, не скажа адзін аднаму, што хораша паглядзець, падзівіцца. І рацэ лягчэй пасля засухі.

Стоячы ў парозе, гаварылі смялей.

— Ён, Пётра, нядаўна во гэтак сядзіць пад хатай, чакае, пакуль я праз плот пералезу, паздароўкацца каб. А я, некалі мне было, шась — і адвярнулася. І бачыла — і адвярнулася. Во, думаю, вітацца тутака, не да вітання — цялушку ўпусцілі ў агарод... Во, бабкі, як трэба асцярожна з чалавекам...

— Бабы, я ж купіла боты ў цыганоў, што ўчора былі ў вёсцы. Дачка мая вусны надзьмула. А што, хіба я не зарабіла на іх? Нашто? — пытаецца. На смерць! Боты на смерць? Ага, смяюся, каб сухенька было прайсці з кладоўя ў вёску і ўзімку: хату нацепліць, ката са стала прагнаць... Вы ж усе ў горадзе, а як гэта, каб хата няцепленая стаяла...

— Што калі вайну ўшчыняць, нікога жывога не застанецца. Во буду ляжаць, ніхто мяне не пахавае. І што выгадаюць, каб спытацца? Зямля апусцее — лес парасце, людзі пачэзнуць...

— Ці чулі? Баба бахура несла ў капу хаваць, дык за ёй усю дарогу град ішоў...

— Во як?!

— Я дык "пахвалюся". Нядаўна сын прывёз з горада сваім дзецям кош памідораў, унукі ў мяне ўсё лецейка. Дык каб адзін даў пакаштаваць! Дачка ніколі б так не зрабіла. Во як адных сыноў мець!

— Якое дзіва, што малы зносіць, што стары з'есць — една тое, адна патрава. Мы ўжо і смаку таго не чуем...

— Бабкі — старасць... Трэба ж неяк адбыць, як радоўку за кароў у дажджлівы дзень...

Нагаварыліся — дыму поўная галава.

Ціхенька, баючыся сцёжы, яны ўжо пераходзілі вялікую ваду, не шукаючы броду, — у другое жыццё і, быццам, развіталіся.

Ляцелі па небе птушкі ў чорным, напрасткі, як па калідоры, высока, галасы ледзь чуліся, далятаді ціхім плачам, птушкі-плакальшчыцы, якія суправаджаюць душу. І быццам ад іх адлучыўшыся, да хаты падышлі дзве жанчыны. З белымі вузельчыкамі ў руках. Хусткі туга перацятыя, аж галовы набок звярнуліся, чырвоныя ў твары. Адна адной пільнуюцца, і самі росту аднолькавага, пэўна, у дзеўках разам былі, западруку хадзілі. Гэта ўжо саўсім даўнейшыя людзі, бы людзі другой веры — бедная радня Пётрыхі з ейнай далёкай вёскі. А ні слоўца не прамовілі, перачакаўшы шум увушшу, бы рой мошак, сталі маліцца. Прыйшлі, як зайшліся з вялікай дарогі, ідучы да святых — паломніцы.

Мужчыны яшчэ па віднy не ідуць. Але вось і стары Жарт сунецца, рукі ў кішэнях, брыль на вочы, задраўшы галаву, цыгарэта ў зубах. Ідзе проста на хату, на гора. Ён нічога ўжо не баіцца, не асцерагаецца смерці — нядаўна пахаваў жонку. Дакурыў, кінуў пад бот, ледзь-ледзь затрымаўся перад варацейкамі. Усё-ткі затрымаўся. Праз некаторы час ён прыйдзе да Пётрыхі ў сваты. Матка, скажа хораша, трэба нам разам дажываць. Я люблю бульбу есці, і скваркамі каб засквaрыць, я такі бульбянік. Ці каб бульбы накрышыць і малаком забяліць. Маўляў, ведаю, што ты не любіш мадыравацца з ежай, але са мной мала бяды... Яна, вядома, зазлуецца, прагоніць, але на вёсцы пахваліцца. Лось ужо не на кані, як заўсёды было, каб напомніць гаспадару, што конь пры ім, во ён, спатрэбіцца яшчэ, ага — рыхтуйце апахмяліцца. Сёння і без каня пачастуюць. У плашчыку, бы дзяцючок, як толькі пала за палу закласці на спітых, высмаглых грудзях. Каленькі аж пад барадой, як бег. І Лось тут. Стаяць мужыкі на панадворку, сышоўшыся, па трое, па пяцёра, гавораць зусім пра другое. Во, адпусціў нам Пётра свята сярод нядзелі, у сераду. Пакуль што якое, паселі на зэдлі, кураць. Паселі і дзеці каля іх, сталі гуляць. Лешак садам, агародам — зноў у лес.

Выйшлі з хаты бабы, рупіла падрабляцца. Толькі зайшліся Янька з Стэпкай за хлявы, толькі крыху захінуліся — я-як далі ў языкі, бы зайгралі на гармоніку. Янька расшпілілася, абцёрла паверхоўныя слёзы, цвёрда пад нагамі, зноў пачула тую цёмную сілу ў сабе, што мяшала ўсё чыста, круціла пустыя жорны, учыняла сварy, іграла на вуснах, смяялася ў вочы — бабская сіла каціліся пераходамі па вёсцы ад двара да двара, ад жывога да мёртвага. Тая сіла, што несла на карку і прыдбанае на баку дзіця, і чужога мужыка. А на Пётрысе што гэта за сукенка! А ў што Пётра абуты? Надта задзяшовыя пантоплі! І ніхто ж не галасіў: ні жонка, ні дочкі, уся іхняя парода — і бяда паўбяды! І Ганна тутака! Ходзіць, жалобу збірае, і яна жалосніца! Мыліся ў лазні, дык жа ў яе духоў зусім няма, палюбоўніца, грудзі — як дошка! Сама ў такім светлым свэдры прыйшла, ні чорта не кумекаецца! Бы яна ўжо тутака маладзёначак, маладая, Ласіха! Ха-ха-ха!.. Верка скажа і круць галавой убок, скажа, і зноў — круць для пэўнасці, бы кожны сказ з абзаца. Бабы, хто чуў, натапырыліся: у якую шкоду цяпер Янька ўб'ецца?

Выйшла пабыўшы і Ганна. Стары Жарт адвярнуўся, доўга, унікліва ўглядаўся ёй услед, як не пазнаўшы. Нешта ж ды ёсць у ёй, калі... Лось не толькі ганьбіў, але і падымаў ейную цану. Альжбета ззаду. Слізгата, нагу не змяніць, калок сабе агледзела ля хлева. Яна даўно без мужыка, а тутака яшчэ ёсць пазнатак на мужчынскую работу, ёсць такі-сякі заход. Але ёсць ужо і нейкае бяспраўе ўдовінага двара. Можа, во з гэтага кія і пачалося нядбайна разносіцца людзьмі, птушкамі, дажджамі гнаіцца. Слабадней і ад плота адвіхнеш, калі няма чым карову скіраваць, гонячы каля Пётрышынай хаты.

На небе, бы ў чалесніку сажа загарэлася, пужлівымі іскрамі пабеглі адна за адной зоркі.

На другі дзень ужо адчынілі ганак ад вуліцы, выносілі складзеныя там валёнкі, кудзелю. Во як прыйшлося выходзіць з хаты, дзе і нага жывая не ступала, можа, ад самага вяселля. Свежае пілавінне снегам на панадворку, загадалі дзецям падмесці. А які ж харошы вянок прывезлі, каб Пётру хто сказаў. Чакалі бацюшку. Хто і не верыў, то казаў: а што, хіба бацюшка пашкодзіць? Лешак стаяў на вуліцы, біў і біў запяткам камок зямлі на дарозе. Аля макаўкай свяцілася то тут, то там, то свінням есці, то трусам. Гнала перад сабой авечак, цялушку, карову. Яна адна трымалася, учапіўшыся за самы кончык бясконцага жыцця. Заўтра ўжо да яе далучацца і матка, і баба. А пакуль абы не згубіўся, не выслізнуў з рук.

Баб дык рух бярэ, а мужчыны рукі ў кішэні, стаяць, кураць. З хаты выйшаў сын, падышоў да іх, папрасіў — трэба ўжо выносіць бацьку. Усе, хто быў, расступіліся, глядзелі на старэйшых: во яны, найбліжэйшыя ягоныя таварышы, во яны. Мужчыны ўжо без шапак.

Раптам моцна заплакаў малы. Можа, што маці адпіхнула яго ад сябе, невідушча атрэсла рукі, заспяшалася стаць за труной побач з Пётрыхай. Будучы малодшай, яна была найбліжэй да яе, нікому не хацела ўступіць гэтую чорную чаргу.

Назаўтра адведаюць Пётру, пойдуць запытацца, як там яму начавалася.

З хаты напроці ўжо неслі і неслі цёплую ежу, закручаную ў ручнікі, каб не астыла, збівалі лавы. Пётрыха сустракала ўсіх у парозе, сярод сумнага карагоду. То пастаіць з кім-небудзь з баб, абняўшыся, углядаючыся, пагладзіць па шчацэ, то зноў пераходзіць ад аднаго да другога, працягнуўшы рукі, як у якімсьці жалобным танцы. І так ля кожнага свежага чалавека, а ўсё йнакшым строем, бы адпявала прыпеўку:

— Во, Ганначка, во мы з табой і зраўняліся, бачыш...

Сабраць, зняць першай гэтую жалобу. Як чорныя хусткі развязваюць, складаюць бабы каля яе і ідуць у хату ўжо смялей, вальней. Яна і сабе жалобу разводзіць — слабей вузел пад барадой, не так вусцішна. Фіранкі на адчыненых вокнах лопаюць белым кароткім крыллем. Кружалкі перадумак маладзілі ейныя вочы. Ужо не проста стары гаспадар памёр, а ейны да пары чалавек, мужчына, во толькі што адпусціў ейную руку, пайшоў як каля веснічак усё жыццё стоячы, кахаючыся.

— Дзякуй, людцы, што прайшлі за ягоны стол...

Аглядалася — увесь тутака ейны свет, камячыла беражок настольніка: трэба ж во першы раз адной сядзець сярод гасцей, шукаць гаворку.

Ягоны стол ад парога да покуці — полем, стэпам ягонае пустое месца каля яе.

Яшчэ тая вячэрняя пара, калі рана было класціся спаць, адвярнуўшыся да сцяны. Сон яшчэ не браў. Вялікая птушка так нізка вяртаецца на гняздо, над самай галавой ейны шоргат, хоць адхінайся ўбок — ці гэта яна пехатой, ці ты сам лётам. Яшчэ мужчыны дакурвалі апошнюю цыгарэту.

ЗГАДКІ

# Танец, святло і гармонія...

## РОЗДУМ ПРА ПЕДАГОГА Аляксандру НІКАЛАЕВУ

ГОД МІНУЎ З ТАГО ЧАСУ, як згасла адна з самых яркіх зорак айчыннай харэаграфічнай сцэны — Аляксандра Нікалаева, народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

Пра Нікалаеву напісана шмат. І пра яе ролю ў фарміраванні прафесійнай балетнай трупы на пачатку 30-х гадоў, і пра ўдзел у стварэнні першых нацыянальных балетаў, і пра яе непараўнальны дуэт з С. Дрэчыным, і пра выступленні ў франтавых брыгадах. Мне хацелася б расказаць пра тое, што вядома непараўнальна менш, — пра Нікалаеву-педагога. З нейкім асабліва радасным, светлым і адначасна шчымлівым пачуццём згадаўшы ўласныя ўражанні.

Яшчэ школьніцай я прыйшла да яе вучыцца танцу. Прыйшла ў калектыў, які называўся Народная студыя класічнага танца Палаца культуры прафсаюзаў. Тады ўжо, напрыканцы 70-х гадоў студыя была адзначана шматлікімі дыпломамі самых розных аглядаў народнай творчасці і фестываляў — рэспубліканскіх, усесаюзных. У ёй займаліся і былыя выпускнікі харэаграфічных вучылішчаў, якія па розных прычынах не звязалі свой лёс з прафесійным мастацтвам, і выпускнікі культасветвучэльняў, прыходзілі на заняткі для падтрымкі прафесійнай формы артысткі з Дзяржаўнага ансамбля танца. Прыходзілі захопленыя танцам аматары.

Танец немагчыма зразумець і вывучыць тэарэтычна, седзячы, напрыклад, у бібліятэцы. Яго трэба адчуць і зразумець спачатку праз сябе, праз уласнае цела. У студыю мяне прывяло шмат пытанняў. З чаго, з якіх часцінак складаецца танец? Як артыст запамінае чарговасць рухаў? Як дасягаецца лёгкасць скачкоў? Чаму на танцора не дзейнічаюць сілы зямнога прыцягнення? Чаму падчас вярчэнняў балерына рухаецца строга па дыяганалі? Якім чынам звычайныя рукі ператвараюцца ў лебядзіныя крылы? Якія законы руху, чыста фізічныя, дзейнічаюць, калі артыстка выконвае самае складанае і тэхнічна віртуознае па — фуэтэ?

Калі лічыць балерыну ўзорам і зямным увасабленнем Вечнай Жаноцкасці, дык чаму на гэткую з'яву не паглядзець зблізу? З чаго яна, жаноцкасць, складаецца?

На мноства пытанняў я атрымала адказы, займаючыся ў студыі Нікалаевай. Потым ужо зразумела, што шлях засваення танца праз сябе — адзіна магчымы. Колькі разоў згадвала добрым словам свайго педагога падчас інтэрв'ю з "зоркамі" беларускага балета, сусветна знакамітымі харэографамі. Ім не трэба было тлумачыць мне элементарныя рэчы, якія датычаць іхняй прафесіі. А я адчувала сябе сярод іх сваёй. Пагадзіцеся, гэта дорага каштуе. І, напэўна, без урокаў Аляксандры Васільеўны не была б напісана ніводная з чатырох маіх кніг пра беларускі балет.



Рэпертуар студыі быў вельмі цікавы. Для тых, хто займаўся ўжо шмат гадоў, хто меў прафесійную ці амаль прафесійную падрыхтоўку, — гэта былі ўрыўкі з класічных балетаў, сольныя, дуэтныя танцы. Дуэт з "Дон Кіхота", танец нявест з "Лебядзінага возера", трыо з "Вальпургіевай ночы", "Па-дэ-катр" Пуні, вальсы Штрауса, харэаграфічныя нумары, пастаўленыя А. Нікалаевай на музыку Г. Фарэ, Л. Дэліба, Д. Шастаковіча.

"Новенькіх", натуральна, спачатку ставілі ў кардэбалет, яны выконвалі народныя і характарныя танцы. Цікава, што ў студыю Нікалаева брала ўсіх, хто прыходзіў. Нікога не "адбракоўвала". Заняткі звычайна адбываліся тры разы на тыдзень. Напярэдадні адказных канцэртаў прызначаліся і дадатковыя рэпетыцыі.

На якіх толькі сцэнах у Мінску і па-за яго межамі ні даводзілася спачатку рэпеціраваць, а потым выступаць студыйцам! "Прагоны" ў касцюмах, з музыкай, а потым і самі канцэрты адбываліся і на сцэне Палаца прафсаюзаў, і на сцэне опернага тэатра, у Палацы спорту, у палацах культуры чыгуначнікаў, трактарнага, аўтазавода, камвольнага камбіната... За кулісамі і ў грымёрных звычайна прымацоўваліся паперчыны, напісаныя рукой Аляксандры Васільеўны, дзе была пазначана чарговасць нумароў. Масавыя танцы звычайна перамяжаліся з сольнымі, каб "артысты" паспелі пераапрануцца, памяняць абутак, падправіць грым. Акрамя сталіцы, шматлікія шэфскія канцэрты адбываліся ў Мінскай вобласці і наогул па Беларусі. Гастралявала студыя ў Прыбалтыцы і Польшчы.

Той, хто мае дачыненне да кіраўніцтва студыямі, мастацкімі калектывамі, ведае, што гэта такое — арганізаваць канцэрт з удзелам 25—30 чалавек. Канцэрт — гэта касцюмы для шматлікіх нумароў, сцэнічны абутак, якога збіраюцца часам цэлыя мяхі, — ён жа для кожнага танца асобны. А транспарт? А рэквізіт, а ноты? Звар'яцець можна! Нашай кіраўніцы было ў той час ужо за семдзесят, і яна выдатна спраўлялася з усімі праблемамі — творчымі і арганізацыйнымі.

Ці была ў Нікалаевай-педагога ўласная, скажам так, педагагічная сістэма? Не ведаю. Але свет класічнага танца — сам па сабе сістэма, вельмі стройная і дасканалая. І веданне яе, свабодная арыентацыя ў ёй дае педагогу ў рукі сапраўды чароўную нітку Арыядны.

Нікалаева была вучаніцай выдатных педагогаў В. Сямёнава, М. Раманавай, Т. Вячэслававай. Аднакурсніцай Ф. Балабінай, С. Кораня. Партнёркай знакамітых К. Сяргеева, В. Чабукіяні. Яна працавала з такімі балетмайстрамі, як К. Галяйзоўскі, А. Ермалаеў, С. Дрэчын, К. Мулер.

Нікалаева мела выдатную школу, велізарны сцэнічны вопыт, вопыт засваення самых буйных і самых каштоўных, самых яркіх роляў у сучасным і класічным рэпертуары, вопыт супрацоўніцтва з буйнейшымі мастакоўскімі асобамі ў ленінградскім, а пазней мінскім балеце. У яе быў аўтарытэт, тая ўпэўненасць і тая вера ва ўсемагутнасць мастацтва, дзякуючы якой можна зрушыць з месца сцяну і лёгка, хутка вырашыць, здавалася б, невырашальныя арганізацыйныя пытанні. Напэўна, гэта і было яе сістэмай.

Згадваючы Аляксандру Васільеўну, "бабу Шуру", як называлі яе за вочы студыйцы, я думаю пра тое, колькім людзям яна літаральна адкрыла свет мастацтва, адкрыла дзверы ў яго. Заняткі ў яе часам уплывалі на выбар прафесіі, часам вызначалі жыццёвую дарогу (як, напрыклад, здарылася гэта з Георгіем Чарных, былым студыйцам, а потым харэографам знакамітага ансамбля "Крупіцкія музыкі"). Нават калі танец і не рабіўся прафесіяй, дачыненне да прыгожага змяняла штосьці вельмі істотнае ва ўнутранай "канструкцыі" чалавека, рабіла яго чулым і ўспрымальным да прыгажосці.

Згадваю свае пачуцці (іх цяжка вызначыць словам), калі ўпершыню трымала ў руках маленькі і бліскучы атласны цуд — ружова-пяшчотныя, падумаць толькі — у-лас-ны-я (!) пуанты. Напэўна, Папялушка ў вядомай казцы Перо непараўнальна менш радавалася крышталным туфелькам.

Памятаю, як Нікалаева ставіла харэаграфічную мініяцюру "Раманс" (на музыку Д. Шастаковіча з фільма "Авадзень") і нам, студыйцам, у вытворчым камбінаце опернага тэатра шылі доўгія "шапэнаўскія" пачкі. Як сапраўдныя артысткі, мы хадзілі туды на прымеркі, і краўчыхі "падганялі" па фігуры касцюмы — "імянныя", на звароотным баку якіх былі напісаны прозвішчы. (Дарэчы, менавіта гэты канцэртны нумар увайшоў потым у дакументальную стужку, якую здымалі на "Беларусьфільме": уявіце сабе, нас з гэтым самым "Рамансам" здымалі ў кіно! А ўбачыць тыя даўнія кадры давялося ўсяго некалькі гадоў таму — выпадкова, у тэлевізійнай перадачы, прысвечанай 90-годдзю балерыны.)

І да гэтага часу чароўнай, хвалюючай музыкай гучаць для мяне (як, напэўна, і для многіх іншых студыйцаў) французскія назвы рухаў класічнага танца: а ля згонд, ан дэор, эшапэ, асамбле.

Памятаю да гэтага часу, якімі незвычайна прыгожымі, сапраўды казачнымі былі ярка-аранжавыя шаўковыя сукенкі з іспанскага танца ў "Раймондзе"; пяшчотна-фіялетавыя, аздобленыя бэзавым газам і бліскаўкамі, уборы да ўсходняга танца; снежна-белыя балерынскія пачкі да нумара "Піцыката". Усё гэта былі не проста тэатральныя, сцэнічныя ўборы, а знакі прыналежнасці да зусім іншага жыцця — не-звычайнага, непобытавага. Непараўнальна вышэйшага і цікавейшага за будзённасць. Гэта былі прыкметы таго свету, які хваляваў і трывожыў сваёй ілюзорна-містычнай, прывіднай, але такой вабнай і такой неадольнай прыгажосцю.





Паміж чалавечым абліччам і выбарам сцэнічных герояў заўсёды існуе не надта акрэсленая, няўлоўная, але пэўная сувязь. Думаецца, невыпадкова Нікалаева ніколі не танцавала на сцэне Адэту, Сільфіду, Жызэль, Нікію. Пяшчотная, празрыстая лірыка, летуценная акварэльнасць не былі ўласцівы ёй ні на сцэне, ні па-за ёю.

Згадваю, як студыйцы рэпеціравалі іспанскі танец з "Лебядзінага возера". Нікалаева выглядала незадаволенай. Бо паненкам з паўночным тэмпераментам відавочна не хапала ў выкананні паўднёвай пачуццёвасці і жарсці. Не хапала тэмпу, імклівасці, экспрэсіі пластыкі. Інакш кажучы, яркасці. Яна папрасіла, каб акампаніятар зайграў варыяцыю Адыліі. У дальнім куце балетнай залы Нікалаева стала ў патрэбную пазіцыю і пачала выконваць па дыяганалі шэнэ — вярчэнні. З таго часу прайшло дваццаць пяць гадоў, а памятаю фрагмент яе танца і цяпер. Гэта быў такі тэмп, што шпількі, натуральна, павыляталі з прычоскі. Гэта быў такі рух, што нашае глядацкае захапленне на імгненне паядналася з лёгкай разгубленасцю, душэўным трымценнем і нават... страхам. Падалося, што ты зазірнуў у бездань, і галава пачала кружыцца. Нібыта перад табой быў не жывы чалавек, а нейкая невядомая інфернальная істота, якая, толькі дакрануўшыся, уцягне цябе ў свой пагібельны вір... Нікалаевай тады было больш за семдзесят. Нам, дваццацігадовым, было да яе далёка. Дык як жа тады яна танцавала ў дваццаць, трыццаць, сорак гадоў?

Напэўна, невыпадкова менавіта ў гэтай самай партыі Адыліі адлюстравана Аляксандра Васільеўна на партрэце вядомай беларускай мастачкі Валерыі Жолтак. Арыгінал (або аўтарскае паўтарэнне) даводзілася бачыць мне ў кватэры балерыны на вуліцы Ульянаўскай.

Сказаць, што ў часе рэпетыцый, прагонаў, канцэртаў Нікалаева паўставала гэткім рамантычным стварэннем, рахманым анёлам, значыць, паграшыць супраць ісціны.

І салісты студыі, і "кардэбалет", хаця і называлі за вочы з любоўю — "баба Шура", але заўсёды крыху пабойваліся пранізлівага позірку яе цёмных вачэй, яе незадаволенасці, з'едлівых заўваг, успышак тэмпераменту. (Дарэчы, наконт тэмпераменту. Ведаю, што ў адзін з пасляваенных сезонаў вядучая балерына трупы Аляксандра Нікалаева доўга і безвынікова спрачалася пра нешта з тагачасным дырэктарам тэатра. Дырэктар не пагаджаўся. Раззлаваная артыстка ў канцы размовы схапіла са стала чарніліцу... і шпурнула ў дырэктара. А потым выйшла з кабінета. Паставіўшы такім чынам — вельмі пераканаўча і зусім па-жаночы — кропку ў размове. Што тут можна сказаць? Наяўнасць тэмпераменту на сцэне — толькі сведчанне наяўнасці яго ў жыцці. Выдатная выканаўца партый Кітры і Зарэмы — яна заўсёды і ў жыцці крыху Кітры, крыху Зарэма...)

Маштаб яе балерынскага таленту, маштаб зробленага я зразумела пазней, калі на пачатку 80-х гадоў рыхтавала артыкул пра Аляксандру Васільеўну для часопіса "Советский балет", а таму прыйшла да яе ў госці не як удзельніца студыі, а як журналістка. І пазней, калі напярэдадні 90-годдзя артысткі рабіла з ёй некалькі інтэрв'ю.

А тады, у студыі, яна здавалася часам экстравагантнай, часам эксцэнтрычнай, не заўсёды справядлівай, прыдзірлівай, часам невыноснай. Перыядычна нехта са студыйцаў моцна бразгаў дзвярыма і выходзіў з балетнай залы. Напэўна, маючы намер ніколі сюды не вяртацца. Але праходзіў пэўны час, і ўсе вярталіся, таму што крыўды перамагала разуменне. Тое, што ведала яна, не ведаў ніхто. Тое, чаму можа навучыць яна, ніхто іншы не навучыць. Таму заставалася толькі моўчкі трываць перапады яе настрою.

Класічны танец у сваёй прыродзе мае шмат агульнага з класічнай музыкай і класічнай літаратурай. Ён — канон і непахіснасць. Ён — гармонія. Сістэма класічнага танца адшуквае і паступова выяўляе гэтую гармонію ў чалавечым целе. Не толькі змяняе паходку і паставу, "ставіць" спіну (так, як "ставяць", напрыклад, голас), робіць лініі пластыкі пявучымі і падоўжанымі, робіць цела гнуткім і прапарцыянальным, але робіць яго найперш інструментам, сродкам выяўлення эмоцый, пачуццяў, сэнсу.

Танец — класічны, характарны, народны — гарманізуе не толькі ўзаемаадносіны паміж целам і духам таго, хто танцуе, але і гарманізуе прастору навокал. Узаемаадносіны паміж чалавекам і навакольным светам. А гармонія нараджае святло і веру.

Вось гэта і яшчэ шмат іншых рэчаў адкрыла я для сябе шмат гадоў таму, на занятках у свайго педагога, народнай артысткі Беларусі Аляксандры Васільеўны Нікалаевай.

**Тацццяна МУШЫНСКАЯ**

*Фота з архіва А. НІКАЛАЕВАЙ і аўтара.*

# На ніве перакладу

МІКОЛУ ТАТУРУ — 80



**Споўнілася 80 гадоў вядомаму перакладчыку Міколу Татуру. Мікалай Ігнатавіч — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў цяжка паранены. З 1944 года працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі Дзяржаўнага выдавецтва БССР, выдавецтва "Полымя". У 1966—1970 гадах быў дырэктарам Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР, а потым, да 1979-га — дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР. Літаратурную працу пачаў у 1948 годзе. У перакладах М. Татура выйшлі дзесяткі кніг, сярод якіх "Кладоўка сонца" М. Прышвіна, "Школа" А. Гайдара, "Стажары" А. Мусатава, "Журбіны" У. Кочатава, "Запіскі майго калегі" Р. Рэлеса, "Зялёная зорка" У. Умарбекава, а таксама творы, што друкаваліся ў перыёдыцы. Мікалай Ігнатавіч пераўвасобіў па-беларуску і шэраг п'ес, па якіх затым у тэатрах Беларусі былі пастаўлены спектаклі, а на рускую мову пераклаў п'есу І. Козела "Папараць-кветка". Вядомы таксама як аўтар эпіграм і міні-баек, якія змяшчаліся ў газетах і часопісах, гучалі па радыё, са сцэны. Вельмі шмат зрабіў М. Татур і як прапагандыст беларускай літаратуры.**

**Віншуючы Мікалая Ігнатавіча з 80-годдзем, жадаем яму здароўя, доўгіх год жыцця!**

# Набыў вядомасць як драматург

АНАТОЛЮ ДЗЯЛЕНДЗІКУ — 65



**Анатоль Андрэевіч — родам з вёскі Кулакі Салігорскага раёна. У 1957 годзе скончыў лячэбны факультэт Мінскага медыцынскага інстытута, працаваў урачом у рэспубліканскай псіханеўралагічнай бальніцы, але яшчэ ў 1955 годзе паспрабаваў свае сілы ў галіне літаратуры, таму ў хуткім часе выбраў іншы накірунак у жыцці. У 1968—1976 гадах з'яўляўся членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм", у 1969 годзе завочна скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Піша на беларускай і рускай мовах. Першай кнігай А. Дзялендзіка стаў зборнік гумарэсак "Пагібель "Тытаніка", які выйшаў у 1963 годзе. Найбольшую вядомасць яму прынесла драматургія. А. Дзялендзік напісаў п'есы "Выклік багам", "Грэшная любоў", "Начное дзяжурства", "Апошнія суніцы ў жніўні", "Гаспадар", "Аперацыя "Мнагажэнец", "Аўкцыён" і іншыя, шэраг аднаактовак, таксама некалькі радыёп'ес. Па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія і тэлевізійныя фільмы.**

**З днём нараджэння, шаноўны Анатоль Андрэевіч! Здароўя вам і творчага плёну!**

УГОДКІ

# Дрэўца з бялюткай бяростай

РАДКІ ХРЭСТАМАТЫЙНЫЯ і ў аднолькавай ступені выражаюць як разуменне паэзіі іх аўтарам, так і ў нечым сутнасць паэзіі ў цэлым:

***У кожным імгненні паэзія ёсць,***
***У кожным здзяйсненні яе прыгажосць,***
***У кожнай істоце —***
***яе***
***хада,***
***У кожнай бядоце —***
***яе***
***бяда.***
***Дык, значыць, імгненне —***
***яно маё,***
***Дык, значыць, натхненне —***
***таксама маё!***
***У кожнай істоце сябе знайду,***
***У кожнай бядоце — сваю бяду...***

Хоць, відаць, правільней сказаць, што за гэтымі радкамі ўсё ж найперш паўстае сама Еўдакія Лось. З яе закаханасцю ў паэзію. З яе нязменным адчуваннем высокага імгнення ва ўсім, што ёсць і што знаходзіцца поруч.

Яна любіла паэзію і паэзіяй жыла. Жыла так ярка і напоўнена, што нярэдка не заставалася часу, каб больш думаць проста аб зямным. І нават будзённым, бо ў рэшце рэшт з саміх будняў і паўстае тое цэласнае, што называецца жыццём. А гэта ў пэўнай ступені і пазбаўляла пэўных жыццёвых радасцяў. Гэта калі-нікалі выклікала недавер і неразуменне з боку іншых. Дык і сама не заўсёды магла пераадолець тую мяжу, пасля якой знікае давер і з'яўляецца непаразуменне. Аднак і тут яна, Еўдакія Якаўлеўна, не выключэнне. Падобны лёс ці не ў кожнага паэта. І куды больш ён складаны і цяжэйшы ў паэтэс. З іх большай душэўнай ранімасцю, заглыбленасцю ў саміх сябе. Але яны і мацней, глыбей могуць адчуваць сутнасць таго свята, што і пачынаецца з далучанасці да паэзіі. Як адчувала і разумела гэта Е. Лось:

***Дзіўна, як набліжаецца момант святы,***
***калі раптам адчуеш гатоўнасць да працы,***
***калі ўсе перашкоды, як тыя драты,***
***абарваны — і можаш наперад падацца!..***
***Я да сшытка свайго, як на танцы, спяшу,***
***чую музыку, пекнасць сваю адчуваю, —***
***зараз выкажу, вып'ю сонца-душу,***
***зараз страты пахмурных часін навярстаю!***
***Маё сэрца пра ўсё, чаму рада, пяе,***
***і здаюся я дрэўцам з бялюткай бяростай...***
***Як на танцах, дзе ўсе кавалеры — мае,***
***а сама іх партнёрка, крылатая проста!..***

А мо таму так моцна, глыбока адчувала свята паэзіі, што нарадзілася на самым прадвесні, калі ўсё наваколле абуджаецца ад зімовага сну? І талент, дадзены Богам ад нараджэння, не мог не выявіцца ярка, непаўторна. Ва ўсякім разе і пра гэта яна не магла не пісаць. Прынамсі, у вершы "Сакавік", што даў назву першай кнізе:

***Абуджаюцца зямныя сокі,***
***Бродзяць хмелем п'яным, маладым,***
***На палях праталін чарнавокіх***
***Ўецца туманоў бялявы дым.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Хутка над зялёнаю прысадай***
***Прагучыць зязюльчына "ку-ку!".***
***Абудзіўся свет:***
***Я вельмі рада,***
***Што радзілася ў сакавіку!***

Адтуль, з вясны жыццёвай, — і любоў да простых і разам з тым сакавітых эпітэтаў, уменне жывапісаць словам, адчуваючы музыку паўсядзённасці. Многім запомніўся верш "Звонь". Ён таксама з першай кніжкі:

***Над Звонню — звон, ля Звоні — сінь:***
***Званочкі ладзяць карагоды...***
***Пад Звонню шапку ў грэчку кінь —***
***І шапка ўраз прапахне мёдам!***

Еўдакія Лось паэтызавала сваё, найбольш блізкае і дарагое ёй:

***Цвеціна — на ўзлессі хаты,***
***Па кашу баравікі...***
***Нібы макаў цвет, дзяўчаты,***
***Хлопцы дужыя дубкі.***

Але яна не была простай сузіральніцай. І ў жыцці чалавек актыўны і дзейсны, рашучы і бескампрамісны, сваю жыццёвую актыўнасць імкнулася выказаць і ў творах. Магчыма, часам заставалася ў нечым і дэкларацыйнай, але не гэта галоўнае, а тое, што лірычная гераіня паўставала чалавекам жывым, паўнакроўным, са сваім разуменнем свету і людзей:

***Я прымаю цябе, жыццё,***
***Неспакойным і ціхім зусім,***
***Цвёрдым, нібы ліццё,***
***І празрыстым, як верасня дым.***
***Для мяне ты не дзённы госць,***
***Я цябе нескончоным лічу***
***І прымаю —***
***якое ёсць,***
***Каб аддаць,***
***якое хачу.***

Увайшоўшы ў літаратуру з лёгкай рукі Петруся Броўкі (будучы народны паэт завітаў неяк у Глыбокае да сваіх выбаршчыкаў і, даведаўшыся, што ў мясцовым педагагічным вучылішчы ёсць студэнтка, якая піша вершы, ахвотна згадзіўся паслухаць яе. Па сведчанні Уладзіміра Гніламёдава, П. Броўка і натхніў Е. Лось "на непрыдуманае, перажытае, сваё"), яна хутка стала адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў пасляваеннага пакалення паэтаў. Пісала шмат. І не толькі "дарослую" паэзію, а і творы для дзяцей, не абышла ўвагай і прозу. Як і ў кожнага, нешта атрымлівалася лепш, нешта горш, але ў цэлым заўсёды высока трымала планку мастацкасці. І спяшалася пісаць і жыць. Нібы прадчуваючы, што лёсам адмерана не так і шмат гадоў (не стала яе 3 ліпеня 1977 года). Пайшла з жыцця ў няпоўныя пяцьдзесят.

Калі шлях жыццёвы Е. Лось пазначаны 1929—1977 гадамі, дык творчы па сутнасці абрамляюць дзве кнігі. Першая, ужо згаданая "Сакавік", і апошняя, назва якой пасля смерці Еўдакіі Якаўлеўны ўспрымаецца сімвалічна — "Лірыка ліпеня". Ад сакавіка да ліпеня доўжыўся ён, на што, дарэчы, першым звярнуў увагу Віктар Каваленка, ён жа даў і аб'ектыўную ацэнку: "...паэзія Еўдакіі Лось — песня шчырага, непасрэднага голасу, жыццярадаснага настрою, даходлівых, простых сардэчных слоў... Будуць мінаць гады, няўмольна аддаляцца дні, якія натхнялі паэтэсу на творчасць, але назаўсёды застануцца яе лепшыя вершы, іх дабрата, чысціня і спагада".



Еўдакія ЛОСЬ. 1965 г.

Была і яшчэ адна кніга паэзіі — "Валошка на мяжы" (1984). Тое, што пры жыцці ў яе зборнікі не трапіла. І самае апошняе з напісанага — паэтычны сшытак "Радкі журбы". "Анкалагічны" паэтычны сшытак. Ён пісаўся тады, калі ўсё, не вартае ўвагі, выпадковае, адышло. Засталася прага жыцця. І жаданне, каб цябе абавязкова выслухалі. Засталося, па дакладным вызначэнні Варлена Бечыка, "душой народжанае слова..." І ў гэтым "слове" — апошняе падрахункаванне. Яно з'явілася тады, калі спадзяванняў на ўратаванне не заставалася:

***Я, можа, памылілася ў наступным,***
***але не памылілася ў былым!***

"Былое" — яе сумленна пражытае жыццё. "Былое" — шчодра раскрыты талент. "Былое" — творы, якім наканавана доўгае жыццё. "Былое" — тое, што для чытача ўдзячнага, самаахвярна ўлюбёнага ў паэзію становіцца сённяшнім. І ў гэтым лішні раз упэўніваешся, калі знаёмішся з аднатомнікам Еўдакіі Якаўлеўны, які летась выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў бібліятэцы "Залатая серыя. Паэзія XX стагоддзя". Укладальнікі кнігі, сёстры паэтэсы, абедзве Марыі — Ярашэвіч і Клімовіч — не толькі ўдала сабралі пад адной вокладкай найбольш значныя творы, але і далі аднатомніку харошую назву — "І каласуе даўгалецце".

Сама Еўдакія Якаўлеўна звяртаецца да ўсіх нас. І да тых, хто ведаў яе. У тым ліку і ў жыцці. І да тых, хто ўпершыню сустракаецца з ёй дзякуючы гэтай кнізе:

***Людзі добрыя,***
***не выбівайце***
***З рук маіх карандаш-бегунок.***
***Лепш пацешцеся,***
***паспагадайце,***
***Бо для вас мой шчырэйшы радок...***
***Я ж зраблюся***
***такім сустрэчным,***
***Што харошае дорыць усім...***
***Чалавеку***
***быць***
***чалавечным,***
***Мне здаецца, няцяжка зусім!***

Гэтай высакароднай мэце ("чалавеку быць чалавечным") спрыяла яна сваёй творчасцю. І прываблівала, быццам тое "дрэўца з бялюткай бяростай". А сама заставалася ранімай, безабароннай, часта знаходзячы адзіную ўцеху ў паэзіі.

Нічога не зробіш: такі лёс кожнага сапраўднага ПАЭТА.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА*



*З Пятром КЛІМУКОМ. 1976 г.*



*З Міколам ГІЛЁМ, Віктарам ДАЙЛІДАМ, Кандратам КРАПІВОЙ і Генадзем БУРАЎКІНЫМ. 1975 г.*

# Мара пра беларускі храм,

## альбо Крокі па з'яднанні нацыі

ЗА МІТУСНЁЮ ЧАСУ і няўцямнасцю рэальнага беларускага быцця згадкі пра 2000-годдзе Нараджэння Хрыстовага, якое ўжо так блізка, у большасці сваёй маюць дзяжурны характар. Відаць, жаданне нешта ў гэтым кантэксце асэнсаваць, азірнуцца назад, глянуць наперад за парог веку, але ўсё неяк несістэмна.

Між тым гэтая найсветлая падзея ёсць добраю нагодаю глыбей асэнсаваць крыжовы беларускі шлях. Каб не толькі чалавек як экзістэнцыйная духоўная сутнасць задумаўся, з якімі здабыткамі сустрэне ён дату, але і для краіны Беларусь як сукупнасці ўсіх нас, грэшных, больш акрэслена вызначыцца, з якім духоўным набыткам стаіць яна ля брамы новага тысячагоддзя хрысціянства. Усвядомім нарэшце — без духоўнага адраджэння не будзе і нацыянальнага.

Што да грамадскага жыцця, тут прасцей. Згадаем, колькі слоў сказана, колькі артыкулаў напісана і меркаванняў выказана датычна нацыянальнай ідэі. Ад мессіянска-містычнага ўсведамлення яе маладымі да аспектаў "у межах заканадаўства", як пісала "Звязда". А пасярэдзіне — грунтоўная, узважаная, гістарычна і філасофскі вывераная канцэпцыя нашага слыннага Уладзіміра Конана. Зразумела, ва ўсіх вызначэннях беларускай ідэі ёсць элемент хрысціянскага шляху. Элемент неабходны, але ці дастатковы ён? Можа, гэта якраз той камень, адкінуты будаўнікамі, што потым ляжа ў аснову падмурка?

Нататкі гэтыя не маюць мэтай грунтоўнае асэнсаванне беларускага шляху як шляху хрысціянскага, на тое трэба духоўнай моцы не аднаго чалавека. Ды і ў грэх агульшчыны ўпадаць жадання няма, яго часам аж зашмат у нашых прыватных імпрэсіях. Мэта якраз — пазначыць канкрэтныя крокі, якія для духоўнага набытку нацыі стануць, на мой погляд, на парозе 2000-годдзя значным даважкам.

Напачатку варта адзначыць, што выраз "беларускі Храм" ужываецца тут упоравень з іншымі асноўнымі дэфініцыямі нацыянальнай ідэі — "беларускі Шлях" і "беларускі Дом". Прытым кожная з іх не выключае астатнія, яны суіснуюць у адзінстве. Успомнім Караткевіча: "Гэты край — Твой дом і сабор..." ("На Беларусі Бог жыве"). Хаця зразумела, што кожная мае сваю адметнасць, сваю грань: шлях — гісторыя, дом — дзяржава, храм — узвышэнне духу.

Беларускі шлях у афіцыйнай ідэалогіі сёння занядбаны — гісторыя і традыцыі быццам і непатрэбныя, нацыянальныя сімвалы адпрэчаны. Няма і жадання дабудаваць свой беларускі Дом — хутчэй ёсць незразумелае імкненне прадаць "участак" "пры захаванні суверэнітэту"(?). Легітымным з гэтага гледзішча застаецца толькі беларускі Храм, бо часам чуваць дэкларацыі, што дзяржаўная ідэалогія грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях. Пакінем такое фарысейства на сумленні тых, хто яго чыніць. Самі ж скарыстаемся з гэтай магчымасці, не адкідаючы іншых формаў змагання за Беларусь, за нацыянальную ідэю.

У слове "змаганне" ключ да тлумачэння падзагалоўка. Сёння, акурат дзякуючы ўладзе, нацыя раз'яднана, фактычна ідзе ціхая неаб'яўленая вайна. Супольнасць расколата на часткі, людзі трымаюцца сваіх амбіцый, партый, рухаў, ці нейтралітэту, ці сваёй апатыі, ці слугавання ўладзе і абслугоўвання яе. Сумоўя атрымацца не можа. Працягваецца таксама нябачнае вокам супрацьстаянне хрысціянскіх канфесій, асабліва галоўных з іх — праваслаўнай і каталіцкай. Кожная змагаецца за вернікаў, за пашырэнне свайго ўплыву. Прытым у большасці (станоўчыя для беларускасці выключэнні не адкідваюцца) касцёл так і застаецца спаланізаваным, а царква — зрусіфікаванай. І калі ў праваслаўных ёсць хоць нейкі аргумент — маўляў, зрусіфікавана ўсё дзяржаўнае і грамадскае жыццё, то ў касцёла і таго няма: сёння азначэнне "католік — гэтак паляк" выглядае анахранізмам. Дарэчы, ужо даўнавата вычытаў у Анатоля Сідарэвіча, што з 1,5 мільёна беларускіх католікаў толькі каля 200 тысяч з'яўляюцца этнічнымі палякамі. З другога боку нядаўна прайшла афіцыйная інфармацыя, што каля 80 працэнтаў з усёй колькасці вернікаў на Беларусі прытрымліваюцца праваслаўя.

Ды справа не ў лічбах. Справа ў гістарычнай традыцыі мірнага суіснавання на беларускіх землях розных канфесій на падставе ўзаемнай цярпімасці. Не заўсёды талерантнасць была паслядоўнай, але ў параўнанні з краінамі Еўропы, дзе гарэлі вогнішчы інквізіцыі ды магчымыя былі варфаламееўскія ночы, наш вопыт сапраўды унікальны і сёння цікавы для свету. Зрэшты, аб гэтым шмат сказана.

Тут прапануецца канкрэтны крок, які б нават вонкава замацоўваў і выяўляў такую нашу адметнасць. Ёсць ідэя ўзвесці ў Мінску Храм хрысціянскіх канфесій. Назва гаворыць сама за сябе. Галоўны сабор краіны аднолькава належаў бы вернікам усіх плыняў хрысціянства, якія ёсць на Беларусі. Стаў бы агульнанацыянальнай святыняй. Для гэтага патрабуецца зусім няшмат — добрая воля царкоўных іерархаў (народ супраць не будзе), жаданне прыйсці да згоды. Ды яшчэ разуменне і падтрымка дзяржавы. Перад светлым юбілеем быў бы знак нашага пакаяння за міжхрысціянскія звады, гвалты ды ўціскі, знак паяднання нацыі на грунце хрысціянскіх каштоўнасцяў.

Чамусьці запомніўся дзядзька ў праваслаўнай царкве ў Слоніме, які даглядаў храм. Сам праваслаўны, жонка каталічка. І ніхто з іх не збіраецца мяняць веру. Тыповая беларуская сітуацыя. Ёсць такія выпадкі і ў маёй вялікай сям'і. Не магу асуджаць стрыечнага брата, які католік па маці і праваслаўны па бацьку, а выбраў уніяцтва. Хаця сам да уніяцтва стаўлюся толькі як да гістарычнага факта, што мае свае часовыя рамкі ў гістарычным існаванні нашай Бацькаўшчыны, не болей. Як не кінуся ў змаганне за пляменніка, які падлеткам перайшоў у каталіцтва. Пажыццёваму зразумела — прывабілі хлопца з небагатай сям'і, але ж застаўся ён хрысціянінам, значыць, не пойдзе па шляху зла. Ці не гэта галоўнае?

Калі прыйшла думка не толькі вобразна, але і рэальна пабудаваць Беларускі Храм, згадалася Царква ўсіх нацый у Іерусаліме, адна з самых цудоўных славутасцяў вечнага горада. А сам Храм труны Гасподняй? Найвялікшая святыня для хрысціян усяго свету, дзе ёсць месца кожнаму адгалінаванню хрысціянства. Потым выпадкова даведаўся, што ў Нью-Йорку ёсць сабор Святога Яна, пабудаваны для ўсіх канфесій. У гэтым храме, узведзеным у сярэднявечным стылі, час ад часу асвячаюцца шлюбы, ладзяцца шэсці ды іншыя дзеі. Як важна адчуць, што мы ўсе хрысціяне, незалежна ад канфесій, што шляхі хоць і адрозныя, але мэта адна — спазнаць Царства нябеснае.

На заўвагі, ці не завысока ўзяў, выкажу меркаванне, што мы тут на Беларусі далёка яшчэ не пазбавіліся комплексу правінцыйнасці: каталіцызм — толькі польскі, праваслаўе — толькі рускае. Гэтая сітуацыя зразумелая і апраўданая, але трэба ўздымацца духам, верыць у свае сілы. Скажу больш канкрэтна аб праваслаўнай канфесіі. Сапраўды, мы занядбалі свае традыцыі, зацыкліліся на Расіі. Быццам іншага ў свеце і няма. Яшчэ вісіць мо і не жалезная, але заслона, якую адхіліць нестае добрай волі, а мо і проста матэрыяльных магчымасцяў. Апошняе згадваю, бо сёння ўсяго тры гадзіны лёту — і ты на Святой Зямлі, куды павінен імкнуцца кожны, каб душою дакрануцца да святынь, звязаных з зямным удзелам Збавіцеля, тым самым умацаваць дух для змагання са спакусамі і цёмнымі сіламі як унутры сябе, так і вонкі. Зусім невыпадкова святая апякунка зямлі беларускай Еўфрасіння Полацкая пад канец зямнога свайго існавання зрабіла паломніцтва ў Іерусалім. Мы проста канстатуем гэты факт, не вельмі ўсведамляючы глыбіннасці яго.

Асабліва яскрава разумеецца гэта там. Тым больш калі трапляеш на Святую Зямлю якраз на праваслаўны Вялікдзень, як пашчасціла мне пазалетась. Калі гадзін 16-17 у Храме труны Гасподняй чакаеш сашэсця Святога агню, унутраныя нашы звады ўвачавідкі драбнеюць. Ты бачыш карціну ўсяленскага Праваслаўя, бо побач прадстаўнікі ўсіх праваслаўных народаў. Найбольш грэкаў і румынаў, людзей звычайных, простых. Ці не найменей паломнікаў з Расіі, сярод якіх шмат святароў. А ўжо з Беларусі і наогул толькі мы ўтрох — напалову паломнікі, напалову працаўнікі з кінематаграфічнымі прычындаламі. Але па душы — сапраўдныя паломнікі, тры праваслаўныя беларускія хлопцы.

Мізэрнымі здаюцца і нашы зацятыя спрэчкі пра мову ў святынях, калі наўкола сапраўднае шматгалоссе, калі чуеш эмацыянальную гаворку арабаў-хрысціян, нават з воклічамі (у храме, ды якім!) у чаканні сашэсця Святога агню. Няўжо Гасподзь не разумее слоў тваіх на роднай мове, шчыра звернутых да Яго? Няўжо ёсць грэх сумнення ў моцы і бязмежнасці Яго? Калі ж адысці ад эмоцый, то існаванне нацый даўно абгрунтавана Святым Пісаннем і ў багаслоўі. Як і галоўная адметнасць народа — яго мова. Згадайма толькі, што першым Божым дарам народжанай царквы было якраз зыходжанне Святога Духа і дар моваў. Так што пакінем сумненні, папрокі і аргументы з абодвух бакоў, а супольна, саборна даробім справу, пачатую Скарынам.

Як у Храме Хрысціянскіх Канфесій будзе ісці царкоўнае жыццё — па днях, па часе ці на вялікія святы супольна — гэта ўжо пытанні тэхнічныя і вырашальныя. Абавязковая і неабходная ўмова — набажэнствы на беларускай мове. Практычна гатовы да гэтага праваслаўная, каталіцкая цэрквы, пра нашых нешматлікіх уніятаў і сумневу няма. Цяжэй сказаць з-за браку інфармацыі аб пратэстанцкіх плынях. Так само сабою развяжацца моўнае пытанне — галоўны беларускі сабор будзе прыкладам іншым храмам, прыходам, у гэтым будзе відаць праяўленне палітыкі і добрай волі царкоўнай іерархіі Беларусі.

Заўсёды будзе адчынены Храм, каб кожны чалавек у любы час змог зайсці, далучыцца да галоўнай святыні. Тут будуць ісці набажэнствы, хрышчэнне, асвячэнне шлюбу, адпяванне, словам — звычайнае жыццё храма. Архітэктурны воблік бачыцца на грунце традыцый культавага дойлідства на Беларусі. Асабіста мне як вобраз згадваюцца адразу Сынкавіцкая царква і Брацкі Багаяўленскі сабор у Магілёве (які, на жаль, не захаваўся). Ва ўнутраным аздабленні — роспісы, абразы беларускіх святых, копіі ўсіх цудатворых абразоў, шанаваных нашымі вернікамі.

Ёсць прапанова і наконт месца пабудовы, тут, як гавораць, і шукаць не трэба. Пляц Волі (былы Саборны), дзе месцілася унікальная Святадухаўская базыльянская царква, а потым Петрапаўлаўскі праваслаўны кафедральны сабор, узарваны бальшавікамі ў 1936 годзе. Як не згадаць тут цынізм савецкай бязбожнай сістэмы — на месцы храма паставілі піўніцу "Ясень", дзе мы студэнтамі ў першай палове 70-х ды і пазней пілі піва, а то і прынесенае з сабою віно ці гарэлку.

Будаваць храм трэба ўсёй грамадою, агульнымі высілкамі. Хацелася б, каб гэта стала агульнанацыянальнай справай, справай яднання. Калі не будзе браку інфармацыі, то ўсе прымуць да душы такую ідэю. Так, прынамсі, здаецца. Як здаецца, што і дзяржава не застанецца ўбаку.

Другі канкрэтны крок у накірунку беларускага Храма — укласці і выдаць "Духоўную энцыклапедыю Беларусі". Агульная духоўная спадчына — яшчэ адзін сродак яднання. Тут мо і прасцей, шмат чаго ўжо напрацавана: і па постацях, і па кнігадрукаванні, і па культавым дойлідстве. У гэтай энцыклапедыі павінны быць пазначаныя ўсе нашы святыні, нават даўно зніклыя, калі хоць якія звесткі, пра іх захаваліся. Тут патрэбны агульныя намаганні прадстаўнікоў духавенства і беларускіх навукоўцаў. Часовы творчы калектыў. Недзе чуў такі выраз: "энцыклапедыя зрабіла Францыю". Нешта падобнае магло быць і ў нас — як хораша і плённа пачыналі! А зараз чарговы том энцыклапедыі выходзіць рады ў гады.

Не трэба разумець, што маецца на ўвазе ажыццявіць гэтыя два праекты сёлета, да 2000-годдзя Нараджэння Хрыстовага. Занадта яны маштабныя, працаёмкія і нятанныя. Добра было б, да прыкладу, хоць камень у падмурак закласці на парозе новага веку хрысціянства.

А вось трэцяя ідэя, трэці крок рэальны якраз сёння. Згадваючы даўнюю нашу народную хрысціянскую традыцыю, прапаную паставіць на межах Беларусі крыжы-абярэгі. Хаця б на магістралях, ля вялікіх дарог. Калі кінуць беглым вокам на карту Беларусі, такіх кропак будзе каля дваццаці.

Звычай узводзіць крыжы на ростанях склаўся даўно, не за нашую памяць, як гавораць, каб засцерагчыся ад няшчасцяў і злых духаў ды ў крызісных сітуацыях — хваробы, войны, эпідэміі. Ставілі іх па зароку за адну ноч. А чым сёння не крызісная сітуацыя, нават не згадваючы ўжо былыя дзесяцігоддзі бязбожнай савецкай улады? Ці не кожны дзень можна прачытаць у друку пра наркотыкі, нелегальную эміграцыю, нечуваныя злачынствы. Здаецца, калючым дротам адгарадзіў бы сваю Беларусь ад жорсткага свету. Хаця разумееш, што гэта нерэальна ды непатрэбна ў той час, як бачныя межы ў Еўропе знікаюць. Хай будуць празрыстымі яны і ў нас, але для харошых людзей, што едуць са светлымі намерамі і добрай воляй. Такім крыж ля дарогі будзе якраз прыветным знакам. Нам жа як гаспадарам такая акцыя — яшчэ адзін сродак яднання, знак узвышэння духу. Форма крыжа павінна задавальняць усе хрысціянскія канфесіі, такою бачыцца патрыяршы крыж, як на старадаўнім гербе нашым Пагоня.

Рабіць усё трэба згодна традыцыі — выраблць крыж за адну ноч, за ноч жа напрасці кудзелі і выткаць аброчныя тканіны для ўпрыгожання — ахвярныя дары (антрапеі) дададуць духоўнай моцы. Акцыя была б вельмі дарэчы 27 верасня, на свята Уздзвіжання Пачэснага і Жыццятворнага Крыжа. Ва ўсіх месцах у адзін дзень. Веру: адразу стане ўтульней на Беларусі, якая стаіць на сямі еўрапейскіх вятрах. Крыж — знак Божай любові, бо якраз любоў да чалавека, які гіне ў грахах, прывяла Сына Божага на крыж. Цяплей стане на душы ад таго, што шляхі нашыя пазначаны знакамі любові, засцярогі і заступніцтва.

*Фота К. Дробава*

**Уладзімір МАРОЗ**

## У Коласавай сядзібе



**У музеі Якуба Коласа прайшоў літаратурны чацвер, прысвечаны 85-ым угодкам народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Няўрымслівы арганізатар гэтых чацвяргоў Іван Курбека сабраў пад дах гасціннага Коласавага Дома людзей, што мелі і маюць непасрэднае дачыненне да творчасці "салаўя беларускай паэзіі".**

**Генадзь Бураўкін абгрунтавана, доказна яшчэ раз пераканаў прысутных у бясспрэчным таленце паэта. Пятру Прыходзьку пашчасціла ў дзяцінстве вучыцца ў маці А. Куляшова, і ён меў магчымасць бачыць творчую лабараторыю юнага Куляшова. Празаік Алесь Савіцкі адзначыў адметнасць атмасферы сустрэчы ў Коласавай сядзібе, дзе можна дакрануцца да дубоў, пасаджаных былым гаспадаром, набрацца ў іх жыццёвай сілы, і падкрэсліў такія якасці Куляшова, як выключная ўвага да акружаючых, уменне падтрымаць у патрэбны момант.**

**Мікола Аўрамчык падзяліўся ўспамінамі аб сустрэчах з народным паэтам.**

**Шмат новага і цікавага даведаліся ўдзельнікі свята і пра перакладчыцкую дзейнасць А. Куляшова з вуснаў кандыдата філалагічных навук Міхася Kенькі. Мелі яны магчымасць паслухаць і голас самога народнага паэта, які захавалі музейныя запісы. Асабліва кранальнымі былі ўспаміны пра бацьку дачкі Валянціны Куляшовай. Вершы слыннага майстра хораша прагучалі ў выкананні артыста Мікалая Казініна. Вечарына завяршылася выступленнем фальклорнага гурта "Ліцьвіны", якім кіруе ўнук А. Куляшова Уладзімір Берберaў.**

**Жанна ПРЫЙМАК,**
**выкладчык Мінскага педкаледжа імя Максіма Танка**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

## Хораша, прыстойна

**прайшла чарговая сустрэча ансамбля "Менскі гармонік" са сваімі прыхільнікамі. Гэтым разам яна ладзілася ў Палацы культуры прафсаюзаў Беларусі. Людзі розных узростаў запоўнілі актавую залу. Гучалі песні ўжо "абкатаныя" і новыя, прэм'ерныя. Словы ўсіх — вершы беларускіх паэтаў ці народныя і тэксты самога самадзейнага кампазітара — мастацкага кіраўніка ансамбля Івана Раманчука.**

**Больш за гадзіну лагодзіў душы прыхільнікаў роднай песні "Менскі гармонік". Мужнее калектыў, папулярнасць яго расце.**

**Сцяпан ІВАНЧЫК**

## Бібліятэка, патрэбная грамадству

**Сёлета Рэчыцкая цэнтральная бібліятэка імя Н. К. Крупскай будзе святкаваць свой 80-гадовы юбілей. Яна была заснавана ў 1919 годзе шляхам злучэння некалькіх прыватных бібліятэк. Летась бібліятэка стала ўдзельнікам абласнога агляду-конкурсу "Бібліятэка, патрэбная грамадству".**

**На яго мы прадставілі работу па складанні "Летапісу" сваёй бібліятэкі, у якім сабраны цікавы і разнастайны матэрыял — звесткі аб жыцці і дзейнасці супрацоўнікаў на працягу ўсяго часу. Выкарыстаны матэрыялы з абласнога і мясцовага архіваў, Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, у якой захаваліся звесткі аб акружным інспектары бібліятэчнай справы г. Рэчыцы М. Масенжнік, якая потым працавала загадчыцай навукова-метадычнага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.**

**У "Летапіс" увайшлі найбольш актуальныя і значныя звесткі аб рабоце бібліятэкі з фотаздымкамі, метадычнымі і бібліяграфічнымі матэрыяламі.**

**Бібліятэка па выніках абласнога агляду-конкурсу заняла першае месца і за вялікую пошукава-краязнаўчую работу ўзнагароджана Ганаровай граматай і грашовай прэміяй.**

**Сёння бібліятэка з'яўляецца важнейшым інфармацыйным і культурным цэнтрам нашага горада.**

**Л. ЭТЛІНА,**
**загадчыца метадычнага аддзела бібліятэкі**

# Было не зусім так

ВЫМУШАНАЯ РЭПЛІКА

У змястоўным артыкуле вельмі паважанага мною Л. М. Лыча "Дыялог пісьменнікаў з прэзідэнтам — погляд збоку" ("Літаратура і мастацтва" за 8 студзеня г. г.) месціцца памылковае сцверджанне, на якое, лічу, трэба звярнуць увагу — у інтарэсах ісціны і аб'ектыўнага асвятлення найноўшай грамадска-палітычнай гісторыі Беларусі.

Ведаю і высока цаню ролю БНФ у абароне беларускай мовы, у адраджэнні і пашырэнні яе ў грамадскім ужытку на Беларусі, асабліва — у перыяд з лета 1990 па канец 1995 года, калі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь актыўна працавала дэпутацкая фракцыя БНФ, — у згодзе, заўважым дзеля справядлівасці, з беспартыйнымі (незалежнымі) дэпутатамі дэмакратычнай арыентацыі. Гэтая заслуга БНФ агульнапрызнаная і сумненню не падлягае. І дай Божа гэтаму масаваму грамадска-палітычнаму руху новых поспехаў у змаганні за нацыянальнае адраджэнне Беларусі.

Але вось чытаю ў вышэйназваным артыкуле наступнае: "БНФ трэба аддаць належнае, што ён <u>першым</u> (падкрэслена мною. — **Н. Г.**) на пераломным этапе айчыннай гісторыі правільна ацаніў ролю нацыянальнай мовы і павёў змаганне за яе адраджэнне...". БНФ — першым? Да яго ў нас ніхто правільна не ацаніў — на гэтым этапе — ролю беларускай мовы? Ну што вы, што вы, Леанід Міхайлавіч! Выбачайце, але гэта ўжо нешта такое, што можа завесці далёка ў бок ад ісціны, а назначэнне навукі — дабірацца да ісціны як мага бліжэй. Дазвольце ж сёе-тое нагадаць.

"Пераломны этап айчыннай гісторыі" пачаўся вясной 1985 года, калі ў краіне быў абвешчаны курс на перабудову. У перабудоўчай праграме вельмі значнае месца адводзілася нацыянальнай палітыцы ў СССР, у тым ліку пытанню аб нацыянальных мовах. Яшчэ да гэтага ў Крамлі, пад напорам творчай і навуковай інтэлігенцыі саюзных рэспублік, перш за ўсё пісьменнікаў, пачалі разумець, што "з мовамі трэба нешта рабіць", што надта далёка заехалі не туды, што і далей глядзець на моўнае пытанне скрозь пальцы — неразумна, бо вельмі небяспечна, бо гэта можа прывесці да выбуховай сітуацыі. З абвяшчэннем курсу на перабудову атрады нацыянальнай інтэлігенцыі гэты напор у абарону моў (шырэй — культур) карэнных народаў рэспублік неймаверна ўзмацнілі. Каб пераканацца ў гэтым — дастаткова пагартаць такія газеты за 1986, 1987, 1988, 1989 гг., як "Правда", "Известия", "Советская культура", асабліва ж — "Литературная газета" і яе аналагі ў саюзных рэспубліках. У тым ліку і наш тыднёвік "Літаратура і мастацтва" — скажам да гонару тагачаснага калектыву яго супрацоўнікаў. Колькі ў ім было артыкулаў, у якіх гучала патрабаванне зрабіць беларускую мову дзяржаўнай, даць ёй запанаваць у грамадскім ужытку, бо толькі гэта ўратуе нацыю ад пагібелі!..

З 1981 па 1991 год воляй абставін (быў сакратаром Праўлення Саюза пісьменнікаў СССР) мне давялося прымаць удзел ва ўсіх пленумах і пашыраных пасяджэннях сакратарыята Праўлення СП СССР (не кажучы пра ўсесаюзныя з'езды пісьменнікаў у 1981 і 1986гг.). Не было, бадай, ніводнага такога сходу ці форуму, на якім бы не закранался ці нават востра не абмяркоўвалася моўнае пытанне. 2 сакавіка 1988 года адбыўся спецыяльны пленум Праўлення СП СССР, прысвечаны пытанню нацыянальных узаемаадносін і становішчу нацыянальных моў у краіне. На пленуме, па прапанове аўтара гэтых радкоў, падтрыманай прадстаўнікамі Украіны, Літвы, Малдовы і іншых рэспублік, быў уключаны ў пастановы пункт такога зместу: "Пленум звяртаецца ў Вярхоўны Савет СССР з просьбай прыняць закон аб тым, што ў кожнай рэспубліцы дзяржаўнай мовай з'яўляецца мова народа, які даў назву рэспубліцы". Людзі, дасведчаныя ў практыцы ўзаемаадносін СП СССР і ЦК КПСС ведаюць, што прыняцце такой пастановы было справай не жартоўнай, а гэта значыць, што калі б на такую пастанову ЦК не даў "дабро" (пакуль у зале цэлы дзень ішлі спрэчкі), яна не была б прынята — партыйныя функцыянеры з СП у кроў біліся б, каб не дапусціць гэтага. Функцыянеры біліся, вядома, але не ў кроў, і пастанова была прынята. Бо, паўтараю, у тагачасным ЦК КПСС ужо зразумелі: "з мовамі трэба нешта рабіць", што трэба скінуць, пакуль не позна, у катлах

# Асуджаны як "тэрарыст"

ДА 90-годдзя Сяргея ДАРОЖНАГА

Сяргей Дарожны (Серада Сяргей Міхайлавіч) нарадзіўся 25 лютага 1909 года ў г. Слоніме Гродзенскай губерніў сям'і афіцэра царскай арміі (у будучым аднаго з паплечнікаў Булак-Балаховіча). У часпершай сусветнай вайны (дакладней, у пачатку 1915 года) сям'я Дарожных пераехала ў Варонеж. Недзе паміж 1919 і 1920 гадамі маці з Сяргеем і яго сёстрамі Марыяй, Надзеяй і Верай вярнуліся дадому, але пасляваенная разруха, голад і холад прывялі хлопца ў дзіцячы дом. "Сярод хлопчыкаў і дзяўчынак, якія рана страцілі бацькоў, ён вылучаўся неймавернай прыхільнасцю і цікавасцю да кнігі і тым, што ўжо ўмеў на мове маці складаць вершы"—пісаў сябар С.Дарожнага С.Шушкевіч. Увосень 1924 года С.Дарожны заканчвае ў Мазырскім дзіцячым доме сямігодку і паступае ў Мінскі педагагічны тэхнікум імя У.Ігнатоўскага. Пра студэнта С.Дарожнага П.Пруднікаў успамінаў: "Гэта быў прыгожы, чарнабровы, чорнавалосы высокі юнак. Заўсёды быў акуратна апрануты... касцюм добра адпрасаваны. Ніколі нікуды не спяшаўся і заўсёды ўсюды паспяваў". У педтэхнікуме С.Дарожны вучыўся (у розны час) з маладымі, але ўжо вядомымі паэтамі і пісьменнікамі: А.Александровічам, С.Ліхадзіеўскім, М.Лужаніным, В.Мараковым, П.Трусам, Л.Калюгам, будучымі "амерыканцамі" — Ант. Адамовічам, Р.Казаком (Р.Крушынам), Ул.-Сядурам (Глыбінным) і інш. Выкладалі ў тэхнікуме Якуб Колас, Міхайла Грамыка, браты Язэп і Антон Лёсікі, прафесары Я.Васілевіч (дырэктар тэхнікума), В.Барташэвіч, А.Савіч, вядомы крытык М.Аляхновіч, А.Александровіч (сястра паэта Андрэя Александровіча), І.Бялькевіч, Ю. Дрэйзін і інш. вядомыя настаўнікі. У 1926 годзе С.Дарожны стаў сябрам Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк". Тады ж, у 17 год, ён (у сааўтарстве з родным братам Змітрака Бядулі — Ізраілем Плаўнікам) адным з першых сярод аднакурснікаў выдаў зборнік вершаў "Звон вясны". Паэта заўважыў Кузьма Чорны... Пра гэты пярыяд жыцця С.Дарожнага М.Лужанін у кнізе "Трое" пісаў: "Моладзь ведала Дарожнага, вершы яго, не завучваючы, помнілі на зубок. Здаралася, выступаючы перад аўдыторыяй, ён паспяваў толькі пачаць:

***Зіма, зіма — і снегу па калені***

Слухачы дружна падхоплівалі:

***Ні сцежак, ні дарог няма,***
***Цярусяцца і падаюць***
***сняжынкі пamaleньку,***
***Зіма.***

У тыя гады паэт многа выступаў на вечарах, удзельнічаў у выданні сумесных зборнікаў: "Восем маладых паэтаў — Паўлюк Трус, Валерый Маракоў, Віктар Казлоўскі, Сяргей Дарожны, Максім Лужанін, Пятро Глебка, Тодар Кляшторны і Янка Бобрык распачалі працаваць над вялікай агульнай паэмай з сучаснага грамадскага і культурнага жыцця. Гэта паэма спачатку будзе надрукавана ў "Полымі" (гэта так не адбылося. — **Л.М.**), а потым асобнай кніжкай". (Паведамленне "Маладняка", 1927 г., №№ 7—8). С. Шушкевіч у кнізе "Вяртанне ў маладосць" так успамінаў пра адно з выступленняў С.Дарожнага: "Чорныя густыя бровы Дарожнага, здалося, узнялі свае крылы над пераноссем, карыя вочы бліснулі радасным агеньчыкам. Паэт чытае новы верш:

***І ў ранак, пад шэпат сасонак,***
***Як заўсёды, у звычай стары —***
***Пераклікнуцца пеўні спрасонак***
***Па-зямляцку пагаварыць.***

З 1928 г. С.Дарожны — член літаратурна-мастацкага аб'яднання "Узвышша". У пачатку гэтага года выходзіць і першы нумар часопіса "Росквіт", арганізаваны "польскім камсамольцам" Паўлюком Шукайлам. У раздзеле "Літаратурнае сёння" Шукайла пісаў: "...Паэты пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы — гэтую групу складаюць: Паўлюк Трус, Язэп Пушча, Сяргей Дарожны, Валеры Маракоў і інш". У адказ С.Дарожны напісаў на "літаратурнага камунаўца" эпіграму:

***"Выйду я***
***на сенажаць,***
***Ды з нагану***
***ў жабу***
***бац!"***

Як успамінаў С.Грахоўскі, ледзь не да суда дацягнуў Дарожнага Шукайла "за абразу маёй асобы". У 1930 г. С.Дарожны скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (на нейкім этапе вучобы быў выключаны "за сокрытие соц. происхождения" свайго бацькі, які ў той час жыў у Польшчы — аб гэтым паведаміла газета "Звязда", але потым змог аднавіцца на вучобе). Пасля заканчэння універсітэта працаваў у розных перыядычных выданнях. З 1933 г. С.Дарожны (разам з С.Ракітам) працаваў на радыё, дзе аднойчы паэту і была зачытана наступная папера: "Загад №114 па Усебеларускаму Камітэту радыё ад 1.VIII.1933 г. За сістэматычнае працягванне ў сваіх літаратурных перадачах нацдэмаўскіх установак да мікрафону, нарачытае змазванне ролі партыі ў барацьбе з контррэв. нацдэм., паклёп на палітыку партыі на вёсцы, што знайшло месца ў вершы да чысткі партыі — літработніка літаратурна-драматычнага сектару С.Дарожнага з работы зняць. Касцюк, Рыўкін". Нягледзячы на "воўчы білет" з радыёкамітэта С.Дарожнага ў 1934 г. усё ж прымаюць у СП Беларусі, але ненадоўга. У 1935 г. па прапанове А.Александровіча ён быў выключаны. 29 жніўня 1936 года стыльрэдактара часопіса "Работніца і калгасніца Беларусі" С.Дарожнага арыштавалі і пасадзілі ў мінскую ўнутраную турму. Тут трэба зазначыць, што яшчэ ў пачатку 1930 г. С.Дарожнаму было даручана перакласці на беларускую мову апавяданне Г.Сушкіна, напісанага па ўспамінах былога вязня адэскага астрога, схаванага пад крыптанімамі Г.С. Пазней гэты твор з'явіўся ў друку асобнай кніжкай. Аўтар так апісвае "жудасныя ўмовы" ўтрымання вязняў у царскай турме: "Адмовіўшыся ад якіх бы то ні было размоў з жандармамі, я прасядзеў у адэскім астрозе да сярэдзіны мая 1904 года... Рэжым у гэтым астрозе быў даволі цвёрды... Мне і тав. Ракітнікаву, які сядзеў у адным калідоры са мной, удалося ўладзіць справу з атрыманнем кніг з гарадское публічнае бібліятэкі, якія мяняў нам наглядчік астрогу. Гэта давала нам магчымасць не спыняць у астрозе літаратурных работ...Пасля вячэрняй паверкі я браўся за кнігі і сядзеў за імі ўсю ноч, часамі да раніцы..." Што з сябе ўяўляла "амерыканка" ў тыя часы можна зразумець з заявы былога следчага НКУС Быхоўскага: "...Я бил и применял всякого рода издевательства... бил их (падследных. — **Л.М.**) руками... ногами... ложил их на пол, сгибал вдвое и ставил сверху стул, садился на него и сидел до тех пор, пока эти лица не начинали давать показания... (так ён "гутарыў", напрыклад, з М.Чаротам, А.Дударом і У.Галубком. — **Л.М.**)... Раздевали арестованных до гола и били их нагайками и поясами... (у гэтай "справе" найлепшым "спецыялістам" быў "куратар" Маракова, Кляшторнага і інш. — Кунцэвіч. — **Л.М.**) Истязали до полусмерти..."



*С. Дарожны. Здымак друкуецца ўпершыню.*

У сваім вершы "Менская турма" (1957г.) Уладзімір Клішэвіч (арыштаваны ў 1936г.) пісаў:

пару. І была яна прынята не да ведама, а да выканання: у партыйнай трактоўцы моўнага пытання пачаў абазначацца пералом. Натуральна, з Масквы паступілі адпаведныя ўказанні ў ЦК саюзных рэспублік. Такім чынам зарыентавалі на гэты курс і самы інтэрнацыянальны з усіх (чытай — самы антынацыянальны) ЦК КП Беларусі. І ў апошнім — заварушыліся. Хочаш не хочаш, а мусіш! Пачалі наладжваць спецыяльныя па пытаннях мовы сустрэчы з гэтак званым "актывам" Саюза пісьменнікаў Беларусі. Асабіста я адчуў гэта і на візітах да сакратара ЦК па ідэалогіі (канец 1988 — пачатак 1989), калі даказваў неабходнасць утварэння Таварыства беларускай мовы і прыняцця Закона аб беларускай мове як адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы. ТБМ было створана летам 1989 года (першы з'езд адбыўся 27 чэрвеня, першы з'езд БНФ — 26 чэрвеня), тады ж пачалася падрыхтоўка Закона аб мовах. 29 ліпеня 1989 года Вярхоўны Савет Беларускай ССР прыняў Пастанову "Аб утварэнні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай моў і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларускай ССР". Старшынёй Камісіі была назначана дэпутат Н. Мазай, намеснікам — дэпутат Н. Гілевіч. У Камісію ўвайшлі 17 дэпутатаў (у тым ліку пісьменнікі В. Быкаў, Г. Бураўкін, І. Чыгрынаў) і 31 не дэпутат — прадстаўнікі грамадскасці, у тым ліку вядомыя літаратары і мовазнаўцы (М. Бірыла, М. Яўневіч, А. Падлужны, В. Рагойша, П. Садоўскі, Б. Сачанка, І. Шамякін). Камісія ў сваю чаргу ўтварыла рабочую групу па распрацоўцы Закона аб мовах, узначальваюць якую было даручана аўтару гэтых радкоў. У групу з ліку пісьменнікаў увайшлі Б. Сачанка і В. Рагойша, з ліку мовазнаўцаў — М. Яўневіч, А. Падлужны і П. Садоўскі, з юрыстаў — Ю. Смірноў, А. Абрамовіч і інш.

У выніку вельмі напружанай працы Закон — на працягу некалькіх месяцаў — быў падрыхтаваны і 26 студзеня 1990 года на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання быў прыняты. Называўся ён: Закон Беларускай ССР "Аб мовах у Беларускай ССР". Артыкул 2 Закона абвяшчаў: "У адпаведнасці з Канстытуцыяй (Асноўным Законам) Беларускай ССР дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова". У той жа дзень была прынята Пастанова ВС БССР Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР "Аб мовах у Беларускай ССР". І быў прыняты Закон аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР, які пачынаўся так: "У мэтах надання беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе: Дапоўніць артыкул 68 Канстытуцыі..." і далей па тэксту Закона аб мовах.

У рэспубліцы, кажучы звыклай тэрміналогіяй яшчэ 20-х гадоў, распачалася беларусізацыя. У верасні Савет Міністраў БССР зацвердзіў распрацаваную спецыяльнай камісіяй (старшыня Н. Гілевіч) праграму мерапрыемстваў па ажыццяўленні ў рэспубліцы Закона аб мовах. К гэтаму часу ўжо быў выбраны Вярхоўны Савет БССР дванаццатага склікання, у складзе якога пачалі працаваць і дэпутаты — сябры БНФ (дарэчы, амаль усе яны былі вылучаны ў дэпутаты суполкамі ТБМ і дзякуючы гэтаму вылучэнню прайшлі ў Савет).

Як бачым, яшчэ задоўга да ўзнікнення БНФ вялася — "на пераломным этапе айчыннай гісторыі" — барацьба за наданне беларускай мове ў Беларусі статуса дзяржаўнай, без удзелу БНФ быў падрыхтаваны і прыняты Закон аб мовах. А прыняцце гэтага закона трэба лічыць падзей надзвычайнай у гістарычным лёсе беларускага народа. Упершыню за 300 гадоў, пасля 1696 года, быў зроблены прарыў імпершавінісцкай блакады і беларуская мова стала дзяржаўнай. Дзякуючы гэтаму Закону за наступныя пяць гадоў удалося ў значнай меры перайначыць адносіны да беларускай мовы ў шырокіх колах насельніцтва, асабліва ў асяроддзі інтэлігенцыі і студэнцка-вучнёўскай моладзі, дасягнуць значных поспехаў у беларусізацыі школы, вынікі чаго даюць нам і сёння надзеі спадзявацца, што назад у бязмоўнасць, у немату нас не загоняць. І вось што датычыць беларусізацыі жыцця ў рэспубліцы ў перыяд пасля прыняцця Закона аб мовах, то тут сапраўды велізарная роля належыць Беларускаму народнаму фронту. Асабліва хацеў бы адзначыць заслугі фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 12-га скікання: яна вельмі актыўна працавала на замацаванне дасягнутых пазіцый, па распрацоўцы і прыняцці Законаў аб адукацыі, аб культуры і іншых, якія маюць непасрэднае дачыненне да становішча беларускай мовы ў Беларусі. Як і ў справе кантролю за выкананнем усіх гэтых законаў. Як і ў падрыхтоўцы і прыняцці тых артыкулаў Канстытуцыі 1994 года, якія датычаць статуса беларускай мовы і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь. Наогул, калі гаварыць пра пашырэнне адраджэнскай ідэалогіі і стварэнне адпаведнай маральна-псіхалагічнай атмасферы ў грамадстве, то заслугі БНФ у гэтым бясспрэчныя.

На "пераломным этапе" ў нас пачалося новае — аб'ектыўнае! — прачытанне айчыннай гісторыі, вызваленне яе ад гвалтоўных скрыўленняў, перакрыўленняў, пераніцаванняў, не кажучы пра памылкі і заблуды. Здаецца, усе мы адчулі і зразумелі, што ад гэтай пары будзем пісаць гісторыю свайго народа толькі праўдзівую, толькі навукова аб'ектыўную. У тым ліку — і гісторыю найноўшую, удзельнікамі і сведкамі якой з'яўляемся.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

***"Жыццё турмы адведаў кожны:***
***Там быў Знаёмы і Дарожны".***

Пры вобыску ў паэта былі канфіскаваны кнігі тады ўжо забароненых Я.Лёсіка, М.Гарэцкага, У.Ігнатоўскага, Ал.Некрашэвіча і шмат кніг на нямецкай мове. Пасля такога "ўлову" першы допыт С.Дарожнага працягваўся трое сутак (т.зв. "канвеер"). У абвінавачванні значыцца: "Следствию известно, что на квартире Остапенко (у 1932 годзе. **—Л.М.**) собирались писатели, в том числе и вы — Дорожный-Середа, для слушания по радио заграничных передач белогвардейцев-эмигрантов... Следствие вам напоминает, что еще зимой 1933 г. в беседе с вашим односельчанином С. вы говорили: — Коллективизация погубит деревню. Это издевательство над крестьянином, колхозный строй все равно не победит... В 1934 году... вы высказывали... что жители вашей деревни не такие дураки, чтобы идти в колхоз... В беседах с писателем К. вы неоднократно заявляли, что трудности при советской власти были, есть и будут... Вы намеревались совершить террористический акт над тов. Гикало...".

Восенню 1937 г. С.Дарожны быў асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні "ў падрыхтоўцы ўзброенага замаху" на першага сакратара ЦК КП(б)Б М.Гікалу. У зняволенні лёс звёў С.Дарожнага з В.Хомчанкам, які пазней успамінаў: "Асабістае знаёмства з С.Дарожным у мяне адбылося ў Камсамольску-на-Амуры ў канцы 40-га года... Аднойчы ў маладых рабочых я спытаў, ці ёсць тут хто з беларусаў. Мне паказалі на... хлопца, назвалі яго прозвішча — Серада. Я павітаўся з ім, не падазраючы, што гэта і ёсць С.Дарожны... З таго дня і па красавік 1941 г., я амаль кожны дзень сустракаўся з Дарожным... Калі мы развіталіся, Сяргей даў мне дзесятак новых вершаў, папрасіў перадаць іх яго сябрам, што жылі ў Мінску (бліжэйшых сяброў С.Дарожнага З.Астапенку і Ю.Таўбіна ў Мінску ўжо не было. Першы знаходзіўся ў такім жа канцлагеры, толькі ў Сібіры, другога ў адзін дзень з Т.Кляшторным і Я.Нёманскім расстралялі 30 кастрычніка 1937 г. — **Л.М.**). Але просьбу яго я не выканаў. У Мінск мне дабрацца не давялося... пачалася вайна... і пісьмы, і вершы былі згублены...".

Улетку 1943 г. (?) С.Дарожны загінуў у Ніжне-Амурскім канцлагеры, не дажыўшы да вызвалення два гады. У 1957 г. С.Дарожны па хадайніцтву сястры быў рэабілітаваны і адноўлены ў СП Беларусі. На просьбу Саюза пісьменнікаў БССР ад 11 мая 1989 г. "дазволіць азнаёміцца з матэрыяламі архіва КДБ БССР, якія датычацца незаконна рэпрэсіраваных у 30-я гады і цяпер рэабілітаваных беларускіх паэтаў С.Астрэйкі, У.Хадыкі, З.Астапенкі, С.Дарожнага, Ю.Лявоннага, і В.Маракова, з мэтай выяўлення і публікацый іх твораў", атрыманы з КДБ БССР адказ ад 31 ліпеня 1989 г.: "Рукапісаў і друкаваных выданняў, у тым ліку і ўпамянёных паэтаў, у архіўных справах не маецца".

Пры жыцці паэта выйшлі тры кнігі: "Звон вясны", Мн., 1926 (разам з І. Плаўнікам); "Васільковы россып", Мн., 1929; "Пракосы на памяць", Мн., 1932.

**Леанід МАРАКОЎ**

## Сяргей ДАРОЖНЫ

### Ноч

*Ноч. Неба выткана з зорак.*
*Цішыня. Пад нагамі жарства.*
*Можа, гэта камянні гавораць,*
*Можа, кветкі цалуе трава.*

*Не згадаць, і надумаць не можна,*
*Што пасеяла ноч на зямлі.*
*І чаму так лілеі варожаць,*
*Смутак сеючы свой ля калін.*

*Ай ты, ноч! задуменныя хвоі*
*Над курганам выслалі цень,*
*Каб ніколі над соннай травою*
*Туманы не маглі шалясцець.*

*Каб заўсёды дзівіцца у марах*
*І стаяць ў неразгаданым сне*
*Там, дзе музыкай дзіўнай абшары*
*Песні новай складаюць вясне.*

*Я стаю пры сасне і дзіўлюся.*
*Як над долам цярусіцца ціш.*
*І здаецца, што ўсёй Беларусі*
*Хтось паходнямі свеціць з узвыш.*

*І ўначы, скрозь імглістасць і зоры,*
*Скрозь вясёлую зыбкасць ракіт*
*Адклікаюцца песні з азёраў,*
*Гадавалі што век трыснікі.*

*І ці стомлены я, а ці змораны,*
*У цішыні дзе прыбіта жарства,*
*Камень з каменем, чую, гавораць*
*І як кветкі цалуе трава.*

### Адзінота

*Адзінокі ганак выслалы лістамі,*
*Цішыня у садзе,*
*Цішыня вакол.*
*Адзінокім выйду, за дзвярыма стану*
*Сустракаць у госці*
*Нечаканы боль.*

*Прабягуць дарогай вараныя коні,*
*Бомы у тумане*
*Глуха празвіняць...*
*І ізноўку тая ж ўчора і сягоння*
*Ў залатых накрапах*
*Цішыня.*

*Зноў пустуе сад мой ціхі адзінокі,*
*Кветкі паламаны,*
*Прытаптаны ў гразь...*
*Смутак вечна сіні*
*Ходзіць каля вокан*
*Нечаканым госцем*
*У вячэрні час.*

*Тая, што калісьці*
*тут збірала кветы,*
*Што рамонак белы*
*Вышывала мне, —*
*Засталася толькі песняй недапетай*
*Аб маёй вясёлай*
*Залатой вясне.*

*Той вясны цяпераka ўжо даўно няма,*
*Праляцелі дні яе,*
*Як бялявы дым.*
*На дарозе толькі, дзе сівы туман,*
*Натаптала восень*
*Жоўтыя сляды.*

*Толькі я не стану сумаваць так часта*
*І спагады ў кожнага*
*Для сябе прасіць,*
*Будзе яшчэ многа радасці і шчасця,*
*Будзе яшчэ многа песень і красы.*

*І няхай лістамі мой услалы ганак*
*І ў накрапах жоўтых*
*Цішыня вакол.*
*Адзінокім выйду у ружовы ранак,*
*Адзінокім стрэну*
*Нечаканы боль.*

### Белымі пялёсткамі

*Белымі пялёсткамі параслі нізіны,*
*З белымі снягамі*
*Серабрыцца гаць.*
*Белая маўклівасць села на каліны,*
*Села берагамі*
*Зацвітаць.*

*Словы завіліся радасцю нязнанай,*
*Стану каля гурбы*
*У такую золь.*
*І здаецца проста, ці ільсніцца снамі,*
*Ласкавыя губы,*
*І каса, як смоль...*

*Песня дарагая, словы, як сняжынкі,*
*Сцелюцца і падаюць*
*На сыры пясок,*
*Потым завіюцца ў песенных сцяжынках*
*Ці каго парадуюць,*
*Ці падуць красой.*

*За вакном каліны, за вакном таполі*
*І зара над гаем*
*З заранiц.*
*А цяпер каліны хіляцца ў полі*
*З белымі снягамі*
*Ніц.*
*Пасінела неба раніцой над гаем,*

*Пасінела рана —*
*Скрозь.*
*А сягоння любая у мяне другая,*
*Ў залатым убранні,*
*Ля бяроз.*

*Белымі пялёсткамі параслі нізіны,*
*З белымі снягамі*
*Серабрыцца гаць.*
*Белая маўклівасць села на каліны,*
*Дзе яна — другая*
*Будзе расцвітаць.*

КНІГАПІС

# Праверааныя часам веды

На працягу апошніх гадоў мне даводзілася рэцэнзаваць дыпломныя работы на факультэце дызайну Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе я і сам некалі вучыўся. Між волі параўноўваў, як было "ў мой час" — і як яно зараз. Відавочна, што сённяшнія студэнты БелАМ больш інфармаваныя, чым колішнія выхаванцы БДТМІ; што само жыццё змяніла пэўныя акцэнты ў навучальных праграмах. Але гэта непазбежныя змены эвалюцыйнага характару. Гэта лагічнае развіццё той рэчаіснасці, якую памятаю са студэнцкіх гадоў. А рэвалюцыйны нюанс у справу выхавання будучых дызайнераў унёс камп'ютэр. Раней цяжка было ўявіць, што дыпломная работа мастака-канструктара (як тады называлі дызайнераў) можа складацца з наклееных на планшэтах карцінак, атрыманых з дапамогаю сканера і прынтэра. Цяпер жа — гэта нармальная з'ява.

Ды хоць камп'ютэр сёння пацясніў аловак і пэндзаль, але наўрад ці здольны іх цалкам замяніць. Прынамсі, у навучальным працэсе. Як будучаму марскому афіцэру, перш чым ступіць на палубу сучаснага карабля, карысна прайсці "школу ветразя" — так і будучаму праекціроўшчыку (дызайнеру, архітэктару) напачатку трэба ўсвядоміць сябе мастаком. Гэта, дарэчы, датычыць усіх прафесій, што на мяжы мастацтва і тэхнікі, мастацтва і навукі, мастацтва і філасофіі.

Пацвярджэнне гэтых думак я знайшоў у выдадзеным напрыканцы мінулага года навучальным дапаможніку для студэнтаў-архітэктараў. Назва — "Вучэбны малюнак", выдавец — Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія. Аўтар дапаможніка Ала Каласенцава ў 1981 годзе скончыла аддзяленне станковага жывапісу БДТМІ (цяпер — Беларуская акадэмія мастацтваў). Яе творы ёсць у дзяржаўных зборах Беларусі і прыватных калекцыях замежжа. У яе немалы педагагічны вопыт. Спадарыня Каласенцава шмат гадоў выкладала спецыяльныя дысцыпліны ў Мінскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава, з 1993 года — старшы выкладчык архітэктурнага факультэта на кафедры "Малюнак, акварэль, скульптура" Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі.

Выданне вельмі актуальнае, патрэбнае. Адышоў той час, калі падручнікі для ўсёй вялікай краіны рабіліся ў адным горадзе — Маскве. Сёння суверэнная Беларусь павінна сама клапаціцца аб уласнай вышэйшай школе, распрацоўваць уласныя навучальныя праграмы, зыходзячы з новай рэчаіснасці. Папросту кажучы, старых падручнікаў ужо няма, новых (уласна беларускіх) няма яшчэ. "Вучэбны малюнак" А. Каласенцавай у нейкай ступені запаўняе існуючы прагал. Кніга з'явілася ў выніку асэнсавання аўтарам уласнага досведу і аналізу адукацыйных тэорый, што існуюць у Беларусі і за яе межамі.

Аўтар ставіць перад сабою чатыры асноўныя мэты. Гэта — даць вучням шэраг карысных парадаў, развіць у навучэнца ўменне прафесійна выяўляць свае творчыя задумы і ўяўленні, навучыць розным тэхнічным прыёмам, дапамагчы засвоіць асноўныя законы выяўленчага мастацтва. Інфармацыя падаецца ў сціслай, тэзіснай форме, а для ілюстрацыі думак аўтар скарыстоўвае малюнкі вядомых майстроў — архітэктараў і мастакоў. Трэба адзначыць, што сама А. Каласенцава плённа працуе ў галіне гарадскога краявіду, што дае ёй маральнае права ўключыць у выданне і ўласныя творы. Гэта віды Санкт-Пецярбурга, выкананыя сангінай, вуглем, каляровымі алоўкамі, пастэллю. Гэту серыю набыў Пецярбургскі музей Аляксандра Блока. Кажуць, хто ўмее — робіць сам, хто не ўмее — вучыць іншых. Уласнай творчасцю Ала Каласенцава даказвае іншае: перш чым вучыць, навучыся рабіць сам.

"Вучэбны малюнак" А. Каласенцавай выгодна адрозніваецца ад метадычнай літаратуры, якая ўяўляе сабою тэксты дысертацый, ніякім чынам не адаптаваныя на "звычайнага" чытача (у дадзеным выпадку — студэнта). Ала Каласенцава не кранае спрэчных ідэй, пазбягае занадта спецыяльнай тэрміналогіі. Яна зыходзіць з таго, што студэнт павінен атрымаць абавязковы для прафесіянала комплекс правераных часам ведаў, а ў спрэчных пытаннях (іх у мастацтве ўвогуле і канкрэтна ў тэорыі малюнка шмат), прафесіянал ужо неяк разбярэцца.

"Вучэбны малюнак" — гэта кніга, якую настаўнік напісаў для вучня. Пагартаўшы гэтую кнігу, хочацца ўзяць у рукі аловак і праверыць прачытанае практыкай. На жаль, у кнігі малы наклад. Усяго 300 асобнікаў. Праўда, ёсць спадзяванні, што Міністэрства адукацыі РБ, якое рэкамендавала "Вучэбны малюнак" у якасці дапаможніка для вышэйшых навучальных устаноў, паспрыяе перавыданню кнігі, каб задаволіць попыт.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# "Смялей, жанкі!.."

"МАРКІ" Святланы МАРЧАНКІ

•

*Учарашні выкруціўшы лёс свой,*
*Нікольki не шкадуючы прапажы,*
*Займела ўрэшце сённяшні сувой,*
*Але прад ім —*
*манашка я на пляжы.*

•

*Свабода адмаўляе? Не дае?*
*Свабода —*
*страснасці імпэт мажлівы:*
*Ад смелага —*
*гатова несці ў падале,*
*Фрыгіднаю становіцца*
*з пужлівым.*

•

*Не ведаю куды —*
*скрозь час, прастору —*
*У свет імчу,*
*дзе непатрэбны посах.*
*А збоку Месяц юрлаваты, голы*
*Ляжыць па-бабску дагары*
*ў нябёсах.*

•

*Хай мне дарue Філарэт*
*Такі фрывольны піруэт:*
*Храм — служба, дух —*
*як чад, як дым,*
*А Бог высокі — мой інтым.*

•

*Жыццёвыя сівеюць аксіёмы:*
*Як быць? Мяняецца мая паходка.*
*Сама сабе —*
*жабрачка і князёўна,*
*Сама сабе — царэўна і юродка.*

•

*Мор душаў — і разлад, разброд.*
*Сцішэлы дух нібыта мёртвы.*
*Ізноў шукае долю мой народ,*
*Кляймёны смерцю*
*на чацвёртым.*

•

*Патрэбна вам уцеха*
*шумнай славы,*
*А мне павага сына,*
*быт, сяброўкі.*
*У нас, калегі, розныя забавы:*
*Агонь я факельны, а вы — газоўкі.*

•

*Мой народ — living рознабаковы:*
*То як волат, то як гном.*
*Волат ходзіць пад аховай,*
*Гном — пад імпартным г...м.*

•

*Я паважаць сваю персону стала,*
*Зірну ў люстэрка і хачу вітацца.*



*З гадамі зразумела многа-мала:*
*Аднойчы будзе позна развітацца.*

•

*За мудрасць, што завеі не змялі,*
*Цярпенне продкаў, павароты*
*Вяртаюць беларусы доўг Зямлі*
*Гайнёй пякельных ідыётаў.*

•

*Жыву імгненнасцю зямною.*
*Самоты не пазбаўлюся ніяк.*
*Мужчына вунь аблашчаны*
*не мною.*
*Каленкі вунь паказваю не я...*

•

*Луна (яна), а Месяц (ён),*
*каб ліць*
*Святло над намі патаемна...*
*Спакойна жонка навукоўца спіць,*
*Абняўшы ісціну прыемна.*

•

*Давялося гараваць,*
*адной блукаць.*
*Па жыцці вялі (казаць нялоўка):*
*Розум мой, трохкутнічак*
*ніжэй пупка*
*І душа, іх верная сяброўка.*

•

*Чытаю артыкул.*
*Ад суму — хоць хукай.*
*Лад ягоны сапрэла-нясвежы.*
*Ёсць права душы падаваць*
*свае гукі,*
*Ды ёсць і прыстойнасці межы.*

•

*Ні д'ябаліц між нас, ні ангеліц,*
*Аднак заўважыць мне цікава:*
*Між намі шмат*
*адметных тварaў,*
*І з капытамі прыткіх кабыліц.*

•

*Смялей, жанкі! Не баржы вы,*
*а лодкі.*
*Шчэ ветрам ветразі не абязнелі.*
*Вас выдае матыў-*
*мажор паходкі*
*І лёгка музыка гучыць у целе.*

Анатоль ЗЭКАЎ

# Не казкі пра Сашку

***Калі ў Сашкі пытаюць, колькі ёй годзікаў, дзяўчынка адтапырвае два пальчыкі і напалову згінае трэці. Зусім неўзабаве Сашка зможа горда паказваць адтапыранымі ўсе тры пальчыкі. Гэтыя ж мініяцюры — з назіранняў над ёй, яшчэ не 3-гадовай.***

### Злы, як тата

У таты на працы непрыемнасці. Вечарам вяртаецца дадому і з парога заяўляе жонцы:

— Я сёння злы, як сабака.

Сашка, што стаіць побач, не разумее:

— Мама, а што, наш Дружок злы, як тата?

### Слізкая вада

Узімку прыходзіць Сашка з вуліцы. Бабуля пытае:

— Дзе ты, унучачка, гуляла?

— На возеры.

— І што ж ты там рабіла?

— Па слізкай вадзе каталася.

### Нос і вушы

Сашка цягае сябе за носік. Бабуліны ўшчуванні не дзейнічаюць.

— Цягай, цягай, — урэшце заяўляе тая. — Адцягнеш, будзе, як у слана.

— А калі цягаць за вушкі, то будуць, як у зайчыка? — не разгубілася Сашка.

### "Чаму жывеш?"

Тату ўзбіліся на памяць нейчыя два вершаваныя радкі — вось ён раз-пораз і напявае іх:

***Без кахання нявартa***
***На зямлі гэтай жыць.***

Сашка слухае-слухае, а потым, калі тата ў чарговы раз заводзіць сваё, заяўляе:

— А чаму жывеш?

### "Ужо не грукае..."

— Ох, — уздыхае тата, седзячы на канапе.

— Што? — пытае Сашка.

— Сэрца баліць. — І прапануе: — Паслухай, як грукае.

Сашка прыкладвае вуха да татавых грудзей.

— Ну, як? — цікавіцца той.

— Ужо не грукае, — абнадзейвае Сашка.

### "Вазьмі маму на рукі"

Тата вярнуўся з камандзіроўкі. Зайшоў у кватэру, падхапіў Сашку на рукі і кажа:

— Як я па табе засумаваў, дачушка.

— А па маме? — пытае Сашка.

— І па маме.

— А ты вазьмі і яе на рукі.

### "Мішка не плача..."

Сашка параскідвала па падлозе кніжкі і бегае, наступаючы на іх.

— Ага, вунь на зайчыка наступіла, і ён плача, — палохае маці.

Сашка згінаецца і прыбірае з-пад ног кніжку, на вокладцы якой намаляваны зайчык. І зноў бегае.

— Во, цяпер на мішку наступіла, — чуецца матчын голас.

— Мішка не плача, — супакойвае яе Сашка. — Мішка вялікі.

### Як згарнуцца ў вожыка?

Тата расказваў Сашцы казку, як вожык адпомсціў ваўку за тое, што шэры пакрыўдзіў зайку. "Забраўся вожык на горку, падпільнаваў ваўка, згарнуўся клубочкам і пакаціўся за ім следам. Ды так хутка, што дагнаў і ўсе пяткі скалоў".

— Я хачу быць вожыкам, — раптам просіць Сашка і тут жа кладзецца на падлогу. Якую хвіліну нешта капошыцца, а потым звяртаецца да таты:

— Згарні мяне ў вожыка, а то я сама не магу.

### Навошта сумка?

— Ты прынёс Сашы банан? — пытае дачка ў таты, які прыйшоў дадому.

— Не.

— А апельсінку?

— Таксама не.

— А што прынёс?

— Сёння нічога.

— А навошта тады браў з сабой сумку? — не разумее Сашка.

### Маму не абдымаць!

Сашка, раптам змяціўшы, як тата абдымае маму, замахала ручкамі:

— Не трэба, тата, гэта мая мама!

— І мая таксама, — не здаецца тата.

— Не, твая мама — бабуля.

— А хто тады твая мама мне? — цікавіцца тата.

— Жонка, — удакладняе Сашка і хавае галаву маме ў прыпол, быццам сказала нешта непрыстойнае.

### Снег на траве

Тата садзіць Сашку на маленькі табурэцік і, крыху прыгнуўшыся, носіць перад сабой па кватэры.

— Уяві, што ты на санках катаешся, — кажа.

— На санках па траве катаюцца, — не прымае яго слоў дачка.

— Як гэта па траве? — не разумее тата. — Можа, па снезе?

— Але ж снег на траве ляжыць, — не здаецца Сашка.

### "Я прыгожая"

— Якая ж ты дробная, — абдымаючы Сашку, кажа сястрычка Надзя.

— Я не дробная, — крыўдуе тая.

— А што, буйная?

— Не буйная.

— А якая ж тады ты?

— Я прыгожая, — горда абвяшчае Сашка.

### Хлопчык ці дзяўчынка?

Да Сашынай мамы завітала сяброўка з сынам Сашам. Пазнаёміліся. І раптам дачка падыходзіць да мамы і ціхком кажа ёй, паказваючы на хлопчыка:

— Мам, ну скажы, што ён не Саша.

— Чаму гэта, дачушка?

— Саша — гэта я. А ён — хлопчык.

— Але ж хлопчыка сапраўды завуць Саша.

— Дык што, ён таксама дзяўчынка? — здзіўляецца Сашка.



*Фотаэцюд Э. Быхаўца.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 236-6071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3910
Нумар падпісаны ў друк 4.3.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 1026/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12